172 **Змагар, Алесь. Успаміны з супольнага жыцьця ў Аўстрыі ў 1945— 1946 г.** Успаміны напісаныя 7 кастрычніка 1979 г *Арыгінал у архіве БІНіМ*

173. **Глыбінны, Уладзімер. Успаміны з жыцьця й творчасьці паэты ў Рызе ў 1942—1944 г** у лісьце да Ант Адамовіча ад 17 20 сьнежаня 1977 г *Арыгінал у архіве БІНіМ*

174 **Калодка, А.** На ўгодкі **сьмерці Алеся Салаўя** *(Беларус, № 274, люты 1980).* Кароткі агляд жыцьця й творчасьці А. Салаўя

175 **Грыцук, Вольга.** Успаміны з жыцьця й выдавецкае дзейнасьці Алеся Салаўя ў Зальцбургу Аўстрыя ў 1945 1946 г Успаміны напісаныя 29 лютага 1980 г *Арыгінал у архіве БІНіМ*

176. **Яцэвіч, Валя Успаміны пра Алеся Салаўя з часоў студэнцкага жыцьця ў Менску ў Беларускім Пэдагагічным Вучылішчы ў 1938—1940 г** Успаміны напісаныя ў Кліўленьдзе, 22 сакавіка 1980 г *Арыгінал у архіве БІНіМ*

177 **Ганько, Мікола. Я памятаю.** Успаміны пра Алеся Салаўя з пэрыяду супольнага жыцьця й працы ў Зальцбургу ад восені 1945 да пачатку 1948 г Датаваныя 24 сакавіком 1980 г Таронта, Канада. *Арыгінал у архіве БІНіМ*

**Апрацавала**
**Зора КІПЕЛЬ.**

прадукту савецкага жыцьця яшчэ з часоў грамадзянскае вайны, якім папаўняліся "блатныя" кадры

На адным спатканьні з паэтам у Бэрліне, пры слабенькім нямецкім ваенным піве ўзгаварыліся неяк і пра гэтую песьню ды зачапіліся за псэўданім Алеся Салаўя "Так, гэта-ж мая песьня, — сказаў Алесь, — можа гэта зь яе й той "Салавей" да мяне прыляцеў" І тут-жа, узяўшы алавік, на аплачаным ужо рахунку пачаў запісваць роблены экспромтам, на што ўжо й тады, як і пасьля, быў ён мэт, пераклад найбольш пашыраных словаў тае песьні Памяць захавала гэты пераклад, здаецца, без асаблівых стратаў ці перакрутаў (перахоўваліся-ж у ёй і большыя, вялікія кавалкі гэткіх рэчаў, як няпушчаныя сваім часам у друк Жылкаў "Тэстамэнт" або Дубоўкаў "камбайн" "Штурмуйце будучыні аванпосты", якія адтуль трапілі ў несавецкую ўжо, "няпітаваную", як кажуць цяпер, прэсу, а пасьля, калі зьявіліся й у "літаваным" друку аўтэнтыкі твораў, пры зьверы зь імі выявіліся вельмі дакладнымі копіямі) Вось гэты пераклад.

*У садку пры даліне —*
*так пяяў салавей!*
*А я хлопчык-сіраціна*
*забыты́ праз людзей*

*Забыты́, занядбаны*
*ад юначых гадоў,*
*я застаўся сіратою,*
*долі я не знайшоў*

*Ах, пamру я, пamру я*
*на чужой чужыне́,*
*і ніхто і ня знацьме,*
*дзе ўхавалі мяне.*

*І ня знацьме й ня трапіць*
*да магілкі мае,*
*толькі мо на прадвесьні*
*салавей прапяе*

тнасць ствараецца наўперад коштам лексікі, цаной адмыслова трактаванай культуры мовы Загэтым дасягаецца маштабная архаізацыя і манументалізацыя паэтычнага слова, што прыводзіць да досыць цікавых мастацкіх вынікаў·

*Старэтных вечаў водгалас пасьцежны,*
*твая йшчэ слава штормамі ня сьцята.*
*Гудзе званамі вольная Палата,*
*Дзьвіною рушыць на прастор бязьмежны.*

("Крывічы")

Арыгінальная моўная канцэпцыя Алеся Салаўя прадугледжвала зварот да разнастайных пластоў лексікі беларускае мовы, а гэтаксама стварэнне і актыўнае выкарыстанне ўласных неалагізмаў і аказіяналізмаў, ужыццё плюральных канструкцый і г.д. Мова для Салаўя — гэта своеасаблівы кампазітны матэрыял, які можна паддаваць размаітым трансфармацыям, г.зн. уфармоўваць неўфармаванае. Усё гэта дае падставы гаварыць аб мадэрнісцкай прыродзе паэтычнага слова Алеся Салаўя і аб генетычнай падобнасці ягонай моўнай канцэпцыі да аналагічных канцэпцый Джэймса Джойса, Вяліміра Хлебнікава і інш.

**Кампазіцыйная спецыфіка лірыкі Алеся Салаўя і аб'екты паэтызацыі**

У лірыцы ранняга Салаўя даволі лёгка вычляняецца фундаментальны модус творчага праксісу, яго мастацкая арыентацыя: аб'ект, які паэтызуецца, — гэта сфера хтанічнага.

Тэма паэтызацыі роднага, паэтызацыі прыроды ў першапачатковым сэнсе гэтага слова, у лірыцы Алеся Салаўя часта прадстаўленая ў чыстым, выкрышталізаваным выглядзе, становячы сабой цэнтральны, стрыжнявы матыў мастацкага дзеяння, ягоны асноўны тон, які, аднак, можа ўскладняцца другараднымі матывамі або абертонамі.

Кожная кніга лірыкі Алеся Салаўя ёсьць не хаатычным засяроджаннем вершаў, але творам закончаным і арганічным, у якім раскрыліся канструкцыйныя патэнцыі паэта. Пісьменнік шмат увагі надаваў кампазіцыйнаму аспекту паэтычнага праксісу, што найзырчэй праявілася ў факце архітэктанічнае дасканаласці структурнай арганізацыі матэрыі тэксту наагул і ў прадуманасці цыклізацыі вершаў упаасобку.

Але адэкватнае спасціжэнне Алеся Салаўя як *кампазітара* будзе абцятым без аналітыкі абавязковага кампанента бальшыні кнігаў лірыкі паэта — уступнага верша. Функцыянальная зададзенасць гэтага складніка агульнага тэкставага цела бачыцца ў выкананні ролі адмысловай інтрадукцыі ў лірычны *alter orbis,* у маніфестацыі праграмных установак пісьменніка.

Такім чынам, лірыка ранняга Салаўя вызначаецца перадусім салярнасцю. Абсяг паэтызацыі для Салаўя — наўперад сфера хтанічнага. Яму пакуль чужыя касмічныя вышуканні, і згэтуль выплывае аграрнасць. Будзе мэтазгодна акрэсліць персанальнасць Салаўёвае лірыкі — актыўны асабісты пачатак у ёй — як трэцюю эмпірычную характарыстыку творчасці пісьменніка У цэлым, увыразняюцца ўласцівыя ўсёй творчасці паэта тэндэнцыі.

Позні Салавей — гэта пя-





Але-ж, была гэта Алесева песьня, песьня ягонага саветагвалтам пакалечанага жыцьця, мадзеньня перш у сіроцтве, а пад канец і "на чужой чужыне́"

Не далётваюць нашыя салаўі ў вырай да гэтае чужое чужыны, накрайсьветнае Аўстраліі І сваіх птушак-салаўёў таксама няма там — ня спраўдзілася тая песьня І яшчэ ня спраўдзілася — ды ўжо на лепшае — яна. знаюць пра паэтаву магілу ўсе, хто толькі хоча й можа знаць, і трапляюць да яе — адведваюць суродзічы зблізку й здалёку

І стаіць над магілаю помнік, і на ім паэтавы словы· "Але ня зьляжа ў цёмную магілу жывы адвеку подых маладосьці" Так пяяў наш Салавей

**Антон АДАМОВІЧ**
***Друкуецца паводле:***
***Алесь САЛАВЕЙ.***
***Нятускная краса.***

Нью Ёрк — Мэльбурн, 1982.

---

1 Але-ж гэты наіўны аптымізм у большай ці меншай меры падзяляў тады й увесь беларускі нацыянальны актыў, рэдакцыя й супрацоўнікі "Менскае Газэты" й "Голасу вёскі" ў тым ліку· думалася больш-менш усім, што горш-жа, як пад саветамі, проста быць ня можа, дык ня будзе, што "цяпер будзе йначай", а мо нат і лепш хоць у сім-тым хоць-бы для беларускае нацыянальнае справы, а з гледзішча яе і для Беларусі наагул Магчымасьці для гэтае справы, а, значыцца, і пэрспэктывы былі-ж адчыніўшыся адразу — беларуская мова, прынамся атрымала адразу-ж статус адзінае афіцыйнае мясцовае мовы, прызнаванае за гэткую новым акупантам — толькі ў беларускай мове быў дапушчаны і друк тэатр, і школьніцтва. Бесьперашкодна дэманстраваліся й адпаведна ўшаноўваліся нацыянальныя эмблемы — бел-чырвона-белы сьцяг, гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", гэрб Пагоні (чаго, між іншага, ня было на суседняй Украіне, і прыежджыя Украінцы вельмі дзівіліся з гэткага "нацыянальнага рэнэсансу" на Беларусі)

[2] Аляксандар Анцан (Александрс Анцанс) нарадзіўся 8 сьнежня 1910 г у Пецярбургу трагічна загінуў 15 верасьня 1944 г — як афіцыйна падавалася, у трамвайнай катастрофе, як падазравалася ад рукі Гэстапа. Выдаў два зборнікі вершаў нацыянальна-патрыятычнае й пэйзажнае лірыкі "Шэпт ветру ў вазёрным краі" ды "Мой край маё сэрца"

[3] Фармальная адукацыя Алеся Салаўя спынілася на няскончаным, крыху толькі працягнутым завочна вучэньні ў пэдагагічным тэхнікуме ("вучылішчы"). Цьверджаньні ў некаторых успамінах, юбілейных нататках у ньюёркаўскае газэце "Беларус" пра тое, быццам скончыў ён нейкі факультэт журналістыкі Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту ў Менску — плод чыстае фантазіі

[4] Як ведама, з трох вянкоў санэтаў захаваўся адзін — "Вянок першы", які ўпяршыню ў друку зьявіўся ў № 5—6 часапісу "Конадні" за 1958 г адным з двух, першых у гісторыі вянкоў санэтаў у беларускай мове — побач зь вянком санэтаў Міхася Кавыля "Цяжкія думы" У савецкай беларускай літаратуры першы вянок санэтаў зьявіўся адно сем год пасьля — у 1965 г (вянок санэтаў Ніла Гілевіча "Нарач", упяршыню ў № 8 часапісу "Беларусь").

## ЗЬВІНЯЦЬ ЗВАНЫ СЬВЯТОЙ САФІІ

*Юрку Віцьбічу*

1.

**Вітаньне, космасу простор!**
**Нішто мне нейкі перавал там!**
**Ad astra* слынных лётаў створ**
**узьнёс мяне на зайдрасьць Альпам;**
**шугнуў удаль, як мэтэор,**
**з найноўшай зброі пальнуў залпам...**
**Ты ня мінеш сьмяротных ран,**
**пантэра хіжая, тыран!**

2.

**І папярхнуўся сьпеў застольны,**
**і чорнай сыцёк упыр крывёй;**
**зьмярцьвеў гармідар беспатольны,**
**прад сконам гаркнуўшы савой.**
**А над Дзьвіною горад стольны****
**сьхіліўся думнай галавой,**
**і ўскалыхнуўшыся ў стыхіі,**
**загуў змагарны звон Сафіі.**

3.

**З канцоў паўстала даўніна,**
**з аддаляў выйшаў год за годам;**

* Ad astra (*лац.*) даслоўна – да зораў, пераносна – да вялікага, да найвышэйшага ідэалу (*аўт.*)
** Маецца наўвеце Полацак (*аўт.*)

рэйсце да іншых формаў мастацкай свядомасці, а іменна пошукі новых сродкаў выразнасці: смелае эксперыментаванне ў працягу мовы як базісу кожнага тэкста; высваенне новых гарызонтаў у галіне строфікі, дзеля чаго санет, актава і александрыйскі верш становяцца кананічнымі Салаўёвымі памерамі; пашырэнне тэматычных абсягаў: касмічныя вышуканні ўжо не чужыя паэту.

Валерка БУЛГАКАЎ

### ЗАЎВАГІ:

[1] **Овіч М.** Шляхі разьвіцьця беларускае літаратуры // Жыве Беларусь. № 1 (7). Студзень 1944. С. 6.

[2] **Песьняры Случчыны.** Збор вершаў. — Слуцак, 1943. С. 43.

[3] **Желев Ж.** Фашизм (тоталитарное государство). — Москва, 1991. С. 12.

[4] **Крэпак Б.** “Антычнасць” III Рэйха і сталінскі “Рэнесанс” // Культура. 26.07 1993. С. 10.

[5] **Пятроўскі Ян.** Мэмуары. Стагодзьдзе ў рэтраспэкце (1945—1953). Кніга другая. — Слуцак—Гэйнсвільд, 1991 С. 93.

[6] Гл. **Салавей Алесь.** Нятускная краса. Збор твораў. — Нью Ёрк - Мэльбурн, 1982. С. 281—330.

[7] Гэтае нясконченае даследаванне друкавалася на старонках часопіса “Беларускі сьвет”, гл. № 19(48) за 1987 г., с. 53—65; № 20(49) за 1988 г., с. 63—75; № 22(51) за 1991 г., с. 76—88.

[8] **Беларускі сьвет.** 1987 № 19(48). С. 53.

[9] Тамсама. С. 54.

[10] Тамсама. С. 62.

[11] **Культура беларускага замежжа**. Кн. 2. Мінск, 1993. С. 8—26.

[12] **Вяртання маўклівая споведзь:** Постаці творцаў беларускай гісторыі ў кантэксце часу — Мінск, 994. С. 258—277

[13] **Шэрэх Ю.** Гарыць шыпшына // Шыпшына. № 4. 1947. С. 29—30.





**і адпаўзла ў нябыт мана,**
**і вечны скон прыйшоў нягодам.**
**А непакорная Дзьвіна**
**плыве з былым і з новым згодам,**
**і новым днём гудзе здавён**
**сьвятой Сафіі грымны звон.**

4.

**Сьвятляр жыцьця, цямняр агоній**
**і няўміручасьці сымптом**
**няўціхны звон. Гудзьбе ягонай**
**званы астатнія гуртом**
**уторaць згодай неўгамоннай:**
**Дзын-дум! Бам-бом! Дзын-дум! Бам-бом!**
**Сваё паўторнае сьвітаньне**
**спаткаць выходзьце, Крывічане!**

5.

**Зьвініць Сьвятой Сафіі дар,**
**ня моўкне збытая надзея.**
**Займай пасад свой, валадар,**
**нашчадак слаўны Чарадзея!**
**Паслухай: звону кажны ўдар**
**жыцьця вялікшая падзея.**
**Хай зрада б‘ецца ў цьвердзь ілбом. .**
**Дзын-дум! Бам-бом! Дзын-дум! Бам-бом!**

6.

**Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі**
**гамоніць збуджаная даль,**
**ірвуцца путы векавыя,**
**і ломіцца кайданаў сталь.**
**Нясуць законы вечавыя**
**сумленьня чыстага крышталь**
**людзтву, зямлі, сьвятлом спавітай,**
**крывёю праўднаю здабытай.**

# МАГІСТР ПАЭЗІІ З ВЁСКІ КРЫСАВА

**Жыццяпіс Алеся Салаўя варты грунтоўнага доследу — у жанры філасофскага эсэ або рамана, накшталт “Гульні шкляных перлаў” Германа Гесэ. Паралелізм лёсаў беларускага паэта-эмігранта і магістра Ёзэфа Кнэхта з няіснай Касталіі праяўляецца незалежна ад таго, хто з іх жыў сапраўдным, а хто прыдуманым жыццём. Сімвалічную аснову кожнага з гэтых паралельных жыццяпісаў складае архетып алтара, за якім дзееецца культ Мастацтва і на які ахвяруецца спярша юнацтва, а потым — усё астатняе жыццё.**

**Пятнаццацігадовы юнак-падлетак з вёскі Крысава на Койданаўшчыне ў 1937 годзе застаецца без бацькоў, якіх загналі ў Гулаг. У асірацелай сям‘і, апроч Алеся, засталіся чатырнаццацігадовая дзяўчынка і меншыя браты — восем і чатыры гады. Большы мусіў працаваць на раскопках торфу, выгружаць вугаль, нарыхтоўваць дровы, каб дзеці не**

7

Званы зьвіняць. Шумяць на ўтор
лясы Крывіччыны блакітнай;
вітае іх Птушыны тор*
сузор'ем, поле песьняй жытняй,
валвой** вазёраў буд-гутор,
узьбераж казкаю ракітнай.
Вялікі край, шматсьпеўны край,
легендаў вечных мудры бай!

8.

Зьвіняць званы. А па далёкай
зямлі (там ноч, сьвятла нідзе)
яшчэ ўсё мучыць катаў лёкай
выгнанца ў зморы і нудзе.
Ды краты нішчацца. Шырокай
далінай шлях-зварот вядзе
у сёлы ўсіх дароў на нівах,
у месты ўсіх званоў гульлівых.

9.

Званы зьвіняць. І гэн зь нямой
чужыны, горнай і бяздомнай,
ідзе мой брат і сябра мой
змагар краіны зычназвоннай.
Заміны бачыць ён гурмой
над прорвай рухнулі прадоннай;
ён чуе кліча вольны дом:
"Да-дому! Бом! Дзын-дум! Бам-бом!"

---

* Птушыны тор Малочны ("Млечны") шлях (*аўт.*)
** Валва – хваля на возеры або моры, якая падымаецца ў часе ветру сьцяной (*аўт.*)

**памерлі з голаду. Сіроцкая доля падказала, як засведчыў сам паэт, будучы ягоны псеўданім. Салавей, што спявае "у садку, пры даліне", — гэта з папулярнай калісь слёзнай песенькі беспрытульніка, перакладзенай паэтам на беларускую мову. Але сіроцтва, беспрытульнасьць — толькі пачатак пераўвасаблення Альфрэда Радзюка ў беларускага Салаўя, магістра версіфікацыі.**

**Ахвярнае, бескарысьлівае служэнне чыстай паэзіі абавязвае на нейкі час забываць малыя і нават вялікія крыўды. Вядома, Салавей ніколі не дараваў злачынцам-сталіністам здзеку над сямейнікамі, землякамі і Бацькаўшчынай. Вядома, нараканні на сіроцкую долю і інвектыва палітычнаму рэжыму будуць прысутнічаць у ягонай лірыцы. Яны разгорнуцца ў аўтабіяграфічнай паэме "На хуткіх крыльлях вольнага Пэгаса"...**

*Тады я страціў бацьку, страціў маці.*
*Я быў зь дзяцей старэйшым –*
*меў тады пятнаццаць год. Са мной –*
*шчэ трое ў хаце –*
*сястра, браты... Ні хлеба, ні вады...*
*Ну, вось ўсё.. Да гэтага няшчасьце,*
*холад грызкі – дзень не безь бяды,*
*недавер вакольны, і пракляцьце*
*бяз дай прычыны – на усе лады.*
*Мо гэта шмат каму не даспадобы,*
*але з маленства лгаць я не прывык –*
*абману скрух мой голаў не панік.*
*Хто стрэў мой кон, той знае – дні жалобы*
*меў гэным часам селянін-мужык*
*і ўнук дасконны дзеда-земляроба.*

**Афекты гневу, болю, нянавісці прасвятляюцца магічным і халаднаватым зззяннем шліфаванай стагоддзямі формы — санета. Блізкасць гэтага сьвятла пазбаўляе паэта ад неабходнасці імгненнага вырашэння пытанняў дабра і ліха,**





10.

Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі,
Дзьвіной імчыцца бурны стром.
Грымяць паходы баявыя,
сусьвет узрушыўшы суздром.
Зямля пяскі зьмяла сухія,
вазёры стрэсьлі лёд-паздром.
. . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . .

11

Няма табе канца і краю,
абшар, прамудрасьці сабор!
Я выйду з кола небакраю —
я няўтрыманасьці сябёр!
Мяне да дум маіх да Краю
прыймчыць найноўшых лётаў створ,
туды, дзе ў велічнай стыхіі
зьвіняць званы Сьвятой Сафіі

1946

## СІЛА ГНЕВУ

Я толькі зь ёй пайшоў у сьвет,
апроч яе усё забралі. .
Дзяды вялікай сілай звалі
яе аб сіле запавет·
"Яна, як гнеўны меч, зы сталі,
яна сатрэ свавольле бед,
што праўду Божую расьпялі. "
Я толькі зь ёй пайшоў у сьвет.

Заву вялікай сілай гневу
вячыстасьць колішніх сьлядоў
нязломны дух маіх дзядоў,

**прыносіць спакой і дае час для працяглай рэфлексіі. Але, каб наблізіцца да гэтага сьвятла, патрэбная школа.**

**Тыя няпоўныя паўтара гады, якія паэт правучыўся ў Менскай педагагічнай вучэльні (былым педагагічным тэхнікуме імя Усевалада Ігнатоўскага), можна, вядома, лічыць пачаткам вучнёўства, хаця яны амаль ніякім чынам не патлумачаць звароту юнака да кананізаванай (класічнай) версіфікацыі. Працэс ішоў "наадварот", насуперак — жорсткім жыццёвым акалічнасцям. Парада далёкага, здавалася, чалавека магла зрабіць вялікшы ўплыў, чымся настойлівыя рэцэпты блізкіх дарадцаў.**

**Вершы Алесь пачаў пісаць у восем гадоў У чатырнаццаць ён спрабаваў пісаць па-руску і адзін з такіх вершаў даслаў у "Пионерскую правду". Яму адказваў Самуіл Маршак, знакаміты не толькі дзіцячымі вершамі, але і перакладамі санетаў Шэкспіра. Вось што нараіў падлетку з Беларусі Маршак: "Пішы па-беларуску! Толькі на той мове ты зможаш добра пісаць, якую ведаеш ад калыскі. Ты думаеш па-беларуску, а пішаш па-руску, і думкі свае выказваеш неадпаведна рускай мове".**

**Інакшай была парада рэдакцыі часопіса "Полымя рэвалюцыі". У 1941 годзе юнак даслаў у часопіс санет "Гайна". Напісанню санета папярэднічаў перапынак у літаратурных практыкаваннях на карысць вучнёўства — паэт начытваўся паэтычнай класікі Еўропы і Расіі. І быў надзвычай здзіўлены, калі ў адказ на "Гайну" з часопіса напісалі, што, маўляў, "санетаў цяпер ніхто не піша. Даўнія формы даўно ўжо выкінутыя на сметнік, і іх ніхто не ўжывае".**

спакой нябёс, дажджоў улеву,
красу і смутак ніў, садоў,
тугу прыдушанага сьпеву
у раньнім росквіце гадоў
заву вялікай сілай гневу.

Яна вядзе мяне у сьвет —
туды, дзе йшчэ аб ёй ня зналі.
“Яна, як воя меч, зы сталі,
яна сатрэ свавольле бед,
што Беларусь тваю расьпялі” —
гучыць за мною запавет.
Праз сон, дзе сьпяць, дзе доўга спалі,
яна вядзе мяне у сьвет.

1944

## ЛЯ ВОЙСТРАЙ БРАМЫ

І прашчуры сьхілялі тут галовы...
Мінаю я праход Яе сьвяты,
а вусны шэпчуць дабравесьця словы:
Сьвятая Ты!

За Ёй і старадаўная сталіца
мае радзімы ў чарах пекнаты.
Ізноў Табе прыехаў пакланіцца —
— Сьвятая Ты!

Вільня, 5.3 1944

## ГАМОНІЦЬ ДАЎНАЙ ПРАЎДЫ ЗВОН

Гамоніць даўнай праўды звон,
гудзе — ня мае зморы.

**Паэт не раздумаў працаваць у класічных формах, але вырашыў “пісаць толькі для сябе і нікому напісанага не паказваць і нідзе не друкаваць...”**

**Вучню ўжо ззяла халаднаватая зорка магістра “чыстае красы” Максіма Багдановіча, да якога пазней звернецца з вершам-александрынай:**

*Далёка ад зямлі прадзедавых загонаў*
*ён песьціў у душы гармонію паўтонаў.*
*Ды сэрца рвалася на волю, на прастор —*
*туды, дзе гуў лясун, шумеў спрадвечны бор,*
*і сон вадзяніка, і зорных ночаў лоні,*
*мінуўшчыны сьляды, і коньнікі Пагоні,*
*мадоннаў вобразы, случанкаў паясы.*
*О, васільковы край бязьмежнае красы!*
*Адведаў шыр тваю – ды ёю дыхаў мала...*
*А вечнасьць разам зь ім цябе не пакідала,*
*памятаць заўжды – апошні быў зарок,*
*а зь ім – нясьвяны дар – ацвецены вянок.*

**Можна казаць і пра творчую пераемнасць паэзіі Уладзіміра Жылкі і Салаўя. Але новы магістр беларускае “чыстае паэзіі” не ўспрыняў ані той “кволасці” настрою як часткі эстэтыкі Багдановіча, ані тых мадэрновых рысаў, што прыйшлі ў беларускае пісьменства разам з лірыкай Жылкі і некаторых ягоных паплечнікаў-”узвышэнцаў”. Салавей, з ягонай прыхільнасцю да кананізаванай паэтычнай формы, вылучыўся і свядома выпрацаваным імунітэтам да праявы мадэрнізму. Зусім выразнае стаўленне да мадэрнізму і эстэтыкі “атручаных кветак” прачытваецца ў будучым вершы-актаве “Чалом, чалом...”**

*Чалом, чалом, слухмяныя актавы,*
*і рыфмаў звон, і сьпеў радкоў, чалом.*
*Скасіў мадэрн ажыўшых сокаў травы,*
*а кветкі іх назваў вялікшым злом.*
*Я з вамі йду пад полагам няславы,*
*дваццаты век вас выціснуў на злом*





І моўкне ціхі, мірны сон
за горамі, за морам.

За морам, горамі — спакой,
і людзі сьпяць спакойна...
А над калыбкай дум і мрой
узьняты меч разбойны.

Няверцаў душы, як слата,
на люд, на край напалі.
І сына Божага — Хрыста,
зьняславіўшы, расьпялі.

Хрыстовых праўднейшых сыноў
аддалі на зьгіноту.
А звон той слаўны звон вякоў
укінулі ў балота.

Спалілі хаты, а людзей
па сьвеце разагналі,
аддалі прышласьць злыбядзе,
былое патапталі.
- - - - - - - - - - - - -
Здалося, зьнішчылі жыцьцё
нявернікі бяшчэсьне,
здалося, ўсё у нябыцьцё
пайшло і не ўваскрэсьне.

Здалося, змоўк навекі звон,
пайшоўшы на скананьне.
Ніхто ня чуў, як плакаў ён
у топкай вечнай твані.

Ніхто ня знаў, як звону гнеў
зьбіраўся ў дужны гоман...
Звон страпянуўся, зазьвінеў,
над сьветам грымнуў громам.

Зь сівых глыбіняў даўніны
і з ланцугоў палону

*і на жанчын мужчынскія ўсклаў сподні*
*пасадзіў саву на храм Гасподні.*

**У “бязбожнае стагоддзе” (так выказваўся Салавей у вершаваным цыкле “Несмяротнасьць”) прыйшоў зусім унікальны паэт. Прыхільнік вытанчанай, крышталізаванай формы, ён сцвярджаў безжыццёвасць форматворчасці. Вар`яцкаму, залітаму крывёй свету проціпастаўляў уласны паэтычны свет, асветлены “нятускнай красой” — адбітым святлом пагаслых сузор`яў паэзіі. Можна адзначыць падабенства рысаў, якія збліжаюць Салаўя з рускім акмеізмам; невыпадковае і ягонае колішняе захапленне лірыкай Мікалая Гумілёва. І разам з тым паэзіі Салаўя чужыя стылізацыя і маньерызм. Ён усведамляе “старасвецкасць” паважнага стаўлення да канону і ўсё ж не можа адмовіцца ад яго. Як вызначыць гэты новы, непаўторны стыль у беларускай паэзіі? Мажліва, як “новы класіцызм”?**

**Вучань Багдановіча і Жылкі, Салавей у няпоўныя трыццаць гадоў робіцца аўтарам такой колькасці санетаў, александрыйскіх вершаў, актаваў, трыялетаў, тэрцынаў, рандо, якой не знойдзем ні ў кога з беларускіх паэтаў. Памянёная вышэй паэма “На хуткіх крыльлях вольнага Пэгаса” складзеная з дваццаці чатырох чыстазвонных санетаў. Паэт авалодаў адным з найскладанейшых паэтычных жанраў — вянком санетаў.**

**Разнастайнасць і чысціня ягоных паэтычных формаў стварае ўражанне празрыстасці, крышталёвасці, ясноты. Як быццам малады магістр тварыў сваю паэзію, складаючы, надбудоўваючы геаметрычныя целы надзвычайнай празрыстасці, чысціні і бляску. Варта,**

**пачулі вольнасьці сыны**
**кліч праўды і праклёну.**

**Праклён — няверцам сьмерць і страх,**
**а праўда — золак дзіўны.**
**Я на выгнаньніцкіх шляхах**
**пачуў той кліч прызыўны:**

**"Выходзь, мой сыне! Уставай,**
**зірні вакол прадвесьне.**
**Ідзі за праўду, ў бой! Твой край**
**бяз праўды не ўваскрэсьне".**

**І з даляў сьвету усяго —**
**і ён, і я мільлёны —**
**ідзём і ведаем чаго —**
**ідзём на покліч звону!**

**Хай з даляў блізкім будзе край,**
**хай зьніч мільгне з-за долаў!**
**.Журба палёў, маркотны гай,**
**айчыны сумны голас...**

1946

## ЗЯМЛЯ Ў ВАГНІ

**Зямля ў вагні. Гарачыня.**
**Сусьвету — ня дыхнуць.**
**Пякельнай лявы ня суняць,**
**крыві струменіць муць.**

**Зямлі, зямлі гаспадары**
**на дзьвюх, на дзьвюх нагах —**
**сусьвету скарбы і дары**
**у пекла топчуць. Жах.**

**"Хадзі сюды, хадзі сюды!" —**
**мне кажуць. — "У паход**
**мы рушым. Вывядзем зь бяды**
**радзіму і народ!"**

**Адзін: "Вазьмі, вазьмі ці меў?**
**вінтоўку новы стыль..."**
**Я ўзяў. Я ўвесь акамянеў**
**гнілы, крывы кастыль.**

**Другі: "Вось келіх у мяне**
**пітво ў ім змагароў**
**Вазьмі!" — Я ўзяў, зірнуў: на дне**
**людзкія сьлёзы, кроў**

**А трэйці: "Змогся? Супачынь!**
**Прыляж на ложак наш"**
**Я лёг Прачнуўся уначы**
**ня ложак, а труна.**

**І ля мяне, і ля труны**
**і века, і цьвікі..**
**Ідуць яны, ідуць яны**
**шкілеты мерцьвякі...**

Менск, 27 6.1944

## СЛУЧАНКА

**Вочы твае васількі. Я ня бачу**
**радасьці ў іх. Хто пакрыўдзіў случанку?**
**Многа няўцехі, балючага плачу**
**ля негасьціннага ганку.**

**А за сьпіною — суровыя дзьверы;**
**іх зачыніла твая валадарка,**
**носьбітка расы чысьцейшай бязь меры;**
**ты, беларуска, татарка..**

---

**аднак, згадаць пра тое, што саракавыя гады, калі нарадзілася большасць вершаў Алеся Салаўя, былі найменей прыдатныя для тварэння вежы з крышталю Вайна захапіла паэта ў Менску, потым былі мястэчка Ілля на Меншчыне, Рыга. Праца за нішчымны паёк у беларускіх газетах, галадоўля, рэзрух, смерці, канец свету наўкол. Чыстая краса ягоных метрызаваных і выкшталцоных радкоў магла існаваць у такіх варунках як непрыхаваны выклік таму вар'яцтву, якім бачылася вайна. І гэта само па сабе азначала выбар.**

**Вежа з крышталю адрозніваецца ад вежы са слановай косці тым, што яна празрыстая, а значыць, у ёй няможна цалкам адгарадзіцца ад жыццёвага хаосу. Пакуты, кроў, страты — усё гэта праглядаецца ў паэзіі Салаўя гэтай пары часам настолькі выразна, што форма выглядае амаль няіснай, распушчанай у паветры Навідавоку — абразы бойні і смерці, як у вершы "Зямля ў агні":**

*Зямля ў агні. Гарачыня.*
*Сусьвету – не дыхнуць.*
*Пякельнай лавы не суняць,*
*крыві струменіць муць.*

*Зямлі, зямлі гаспадары –*
*на дзьвюх, на дзьвюх нагах –*
*сусьвету скарбы дары*
*у пекла топчуць. Жах...*

**Алесь Салавей — далёка не адзіны майстра дваццатага стагоддзя, у чыіх творах гэтак выразна жывое працістаіць мярцвячыне, абвяшчаецца самакаштоўнасць жыцця ў выглядзе найноўшага эстэтычнага віталізму. Да гэтага прыйшлі некаторыя сябры літаратурнай суполкі "Маладняк", з гэтага пачыналі "ўзвышэнцы". Але мала хто гэтак натхнёна верыў у неўмiручасць літаратурнай мінуўшчыны навaт Багдановіч, які ў паэтычнай прадмове да "Вянка" згадваў "блёклы, высахшы лісток" і сціпла прапаноўваў плён свае творчасці: "Засушыў я на паперы Краскі, свежыя калісьці, Думак шчырых і чуцця".**

**Самы раз згадаць на тое, што ажыўляе "засушаныя" формы, што жывіла і паэзію Багдановіча, што ўзмацняла бляск "нятускнай красы" вершаў Алеся Салаўя. Тое, што крытык Антон Адамовіч акрэсліў як "нацыянальна-патрыятычны эрас".**

**Алесь Салавей тварыў уласны паэтычны хранатоп Бацькаўшчыны, адна з іпастасяў якой — Беларусь, распятая на крыжы другой сусветнай вайны, Беларусь у дымных руінах і новым паяжджанстве; другая ж яе іпастась — Беларусь-Крыўя, адвечная і неўміручая. Як і Крывія Вацлава Ластоўскага, гэтая адвечная Беларусь адлічвае свой век ад часоў Полацкай Старажытнасці (Антычнасці). Невялічкая, пісаная актавамі паэма "Зьвіняць званы сьвятой Сафіі" сцвярджае "законы вечавыя", "сумленьня чыстага крышталь", гістарычную памяць як непарушныя, фундаментальныя асновы існавання Бацькаўшчыны:**

*З канцоў паўстала даўніна,*
*з аддаляў выйшаў год за годам;*
*адпаўзла ў нябыт мана,*
*вечны скон прыйшоў нягодам.*
*А непакорная Дзьвіна*
*плыве з былым з новым згодам,*
*і новым днём гудзе здавён*
*сьвятой Сафіі грымны звон.*

**Вочы Беларусі — у пакуце і паяжджанстве глядзяць журботна і строга, нібы ў свя-**

**Зараз няшчасьце вялікае ў пані
(зь ім-жа і гнеў — на цябе, небарака):
здох пры паданым табою сьняданьні
ейны ўлюблёны сабака.**

**Пані ў распачы ліхой, у трывозе
рэчы твае ў калідор паўкідала,
аж да цямна   ля дзьвярэй на марозе
кару адбыць загадала.**

**...Белую шаць асыпаюць таполі,
зь імі прыгадвае дом свой случанка.
Плачуць мае васількі у няволі
цяжка табе, паланянка.**

Вена, 16.2 1945

## СУСТРЭЧА

**Не забыўся я насуплівай міліцыі
пагражалі вы дручынаю гумовай:
  Выбью, выбью вам отсталые традиции!
гаварылі мне абурліваю мовай.**

**А чаму-ж цяпер зь нясьмелаю гаворкаю,
быццам вы мяне, забытага, пазналі,
падыйшлі бліжэй: — Богаты ль вы махоркою?
На один дымок рассчитывать нельзя ли?**

**Адыйшло ў нябыт уладнае калішняе.
Вы абдзёрты ўвесь   усьцешанасьць ня ў жмені...
Пры маёй душы спустошанасьць ня лішняя,
мо яшчэ што ёсьць — вытрушваю кішэні.**

**Што магу   даю. Мізэрнае здаволечы
"на дымок" стае   хай сэрца ў вас ня ные:
мо патрапяць лепш аддзячыцца дзе-колечы
на шляхох крутых "традиции иные".**

1945

**той з абраза, у вершы "Случанка":**

*Вочы твае – васількі. Я ня бачу
радасьці ў іх. Хто пакрыўдзіў случанку?
Многа няўцехі, балючага плачу
ля негасьціннага ганку.*

*А за сьпіною – суровыя дзьверы;
іх зачыніла твая валадарка,
носьбітка расы – чысьцейшай бязь меры;
ты, беларуска, – татарка...*

**Матывы выгнання, новай няволі, паяжджанства даволі нечакана суседнічаюць у Салаўя з вераю ў волю і вяртанне. Нечакана нават для крытыка Антона Адамовіча, які дзівіўся "наіўнаму аптымізму" паэта падчас другой сусветнай вайны. Паміж тым, аптымізм гэты грунтуецца на веры ў непахісную Крыўю, чыя незнішчальная прысутнасць у гісторыі абяцае новае жыццё, перамагае смерць:**

*Скажу, укленчыўшы: Крывіччына сьвятая!
Хай Ты насьмерць была расьпятай, а жывеш.
Тваіх дзяцей ні даль   ні імгла густая
не абясплодзілі ў чарсьцьве пустэльных меж.*

**Цікава, што вера гэтая не памяншалася па меры таго, як ваенныя дарогі вялі паэта ўсё далей ад Беларусі. Ягоны рух, выкліканы пераменамі на фронце, уяўляе даволі заблытаную лінію: Рыга — Менск — Кенігсберг — ізноў Рыга — Масяра, Гедэмастэ, Талін (усё эстонскія гарады) — Лібава (партавыя агні якой згадваў у "Эміграцкай песьні" М. Багдановіч) — Берлін (праз Балтыйскае мора) — Вена — Зальцбург... Усё бліжэй да мясцінаў, дзе швейцарац Герман Гесэ пасяліў свайго Ёзэфа Кнэхта, магістра гульні шкляных перлаў... Зрэшты, пра сваё адкрыццё Еўропы магістр Алесь Салавей выказваўся крыху іранічна, уважаючы на неспрыяль-**





* * *

**А ўсё-ж мы вернемся дахаты, у вайчыну,
і не заблудзімся ў шляхох чужой зямлі.
А я вярнуся не адзін, а з сынам —
нашчадкам Крывічоў і іх сям'і.**

**Скажу, укленчыўшы: Крывіччына сьвятая!
Хай Ты насьмерць была расьпятай, а жывеш.
Тваіх дзяцей ні даль і ні імгла густая
не абясплодзілі ў чарсьцьве пустэльных меж.**

**Жывому   жыць. Зьнішчэньню   сьмерць. Жывое
кідае па сабе жыцьцё. Жывому   плод.
Ты не памрэш, Крывіччына! З Табою
ніколі не памрэ крывіцкі род.**

12.5 1946

## ЯШЧЭ НЯ МОЎКНУЦЬ

**Яшчэ ня моўкнуць стройныя санэты...
І супіць бровы хісткі век атому,
і ў нашы рукі хаасную ўтому
упарта сунуць модныя паэты.**

**Ды ў снох ня сьвянуць збожжавыя леты,
куток праўдзівы продкавага дому,
паклон удзячны спогаду зямному,
малітвы шчырай пошуг у сусьветы.**

**А вы жадалі-б зь векапомных стромаў,
культураў даўных зьмесьці веліч томаў?..
Пайду няўхільна сумны, адзінокі**

**(у суме   праўда, ў вадзіноцтве   сіла)
туды, дзе думка клікала, будзіла,
дзе вам зьгібеньне праракл́і прарокі.**

1947

**насць і жорсткасць абставінаў, у якіх адбывалася вымушаная вандроўка:**

*Стаўся ўсюды госьцем выпадковым.
Дзе ня ступіш – ля чужых варот.
На дарозе ўбачыў я падкову,
а ляжыць яна наадварот ..*

**А наперадзе была нават не Еўропа і не Азія, а бязмерна далёкая ды экзатычная Аўстралія, радзіма кенгуру ды качкадзюбаў, таксама асвоенная беларускай дыяспарай. Туды й выправіўся Алесь Салавей у 1949 годзе, разам з маладой жонкаю і маленькім сынам Міхаськам. Такім чынам, паэт далучыўся да шэрагаў беларускіх эмігрантаў. Аднак паэзія ягоная, што тварылася ўжо ў далёкім замежжы, не зусім адпавядае эталону "эміграцыйнай", дзе на першы план непазбежна выходзіць галоўная тэма — настальгія. Вершаў чыста настальгічных, споўненых неспатольнай тугой па Бацькаўшчыне, у Салаўя цяжка знайсці, можа, таму, што Аўстралія сталася для яго не "другім", а трэцім берагам. Мы ведаем схільнасць паэта пазбягаць прасталінейнага выбару "паміж берагамі", ягонае імкненне не быць чымсьці салаўём. Самым каштоўным грузам, які ён вывез у краіну пад Паўдзёным Крыжам, сталася тая Беларусь-Крыўя, вобраз якой ужо непарушна існаваў у ягоным паэтычным сьвеце.**

**Іншая таямніца аўстралійскага перыяду ў жыццяпісе Салаўя — дзіўны перапад творчай актыўнасці, на які звярнуў увагу ўсё той жа крытык Антон Адамовіч: у 1949 годзе напісана 17 вершаў, у 1952 — 28, далей — не больш як па вершу ў год, а то і ніводнага...**

## НЕСЬМЯРОТНАСЬЦЬ

Ня я   вы самі здраднікі народу:
прадалі д'яблу і душу, і цела.
Ці-ж вам, асьлеплым, сонца зігацела?
Нібыта яснасьць спавіне нягоду.

На кліч аблудны   нязычлівы зроду
аторай клумнай паўзяцё зьдзічэла,
каб сьцяг бясплямны, што трымаю сьмела,
падбіць, зьбяшчэсьціць, як маю свабоду.

Сё вам   зьняслава. Мне-ж няўспомірс мукі.
уздымуць волю іншых вояў рукі,
натхнёных раньнем, непадданых змусе..

Таўпе прадсконнай я жывым ня дамся,
і пад нязломнасьць   голас небу·   "Станься!"
Сваёю сьмерцяй зьгіну, не скаруся.

1948

## АРДЭНАНОСЦАМ

Вам прышпілілі ордэн той-жа самы:
пыхлівы гонар адмысловым катам.
Нясе нядрэмнасьць варту вашым хатам,
для сьмерцяў новых выкапаўшы ямы.

На ўяўнай цноце нат ня змыты плямы
крыві, пралітай закаваным братам.
Ну што-ж, тварэце неўгамонным сьвятам
і т а т у — бацьку гучныя рэклямы!

Рука у путах   "Слава!"   піша   "Слава!"
А розум цьвердзіць   "зьгінь, прысуд крывавы!"
Не, гэна бляшка таннае мэдалі

Калі глядзець на фотаздымкі аўстралійскае пары, дзе паэт зняты з жонкаю, дзецьмі, унукамі, кенгуру па мянушцы Гонкі, дык можа падацца, што магістр паэзіі на схіле год цалкам аддаўся хатняй гаспадарцы і радзінным клопатам. Большасьць кніг Алеся Салаўя была выдрукаваная раней — "Мае песні" (1944), "Сіла гневу" (1948), "Зьвіняць званы сьвятой Сафіі" (1948). Разам з тым гэты перыяд можна назваць часам падрыхтоўкі галоўнай паэтавай кнігі, у назве якой скандэнсавалася ягонае творчае *credo* як спалучэнне этычнага і эстэтычнага ідэалаў творцы. Зборнік "Нятускная краса" выйшаў з друку ў 1982 годзе, ужо пасля смерці паэта, высілкамі ягоных сямейнікаў, сяброў, добразычліўцаў-фундатараў з Аўстраліі ды ЗША.

Той фатальнай рысаю, што перакрэсліла зямны шлях, стаўся апошні заплыў 22 студзеня 1978 года, падчас якога паэт быў спынены сардэчным прыступам і патануў у моры. І гэта — апошняя паралель з лёсам памянёнага магістра Ёзэфа Кнэхта, што памёр падчас заплыву ў горным возеры. Лёгка атаясамліваюцца пачуцці, якімі жылі ў апошнія гады абодва магістры: згадкі пра маладосць, ахвяраваную на алтар мастацтва, — мастацтва тварыць і жыць мастацтвам. Пра гэта нагадвае і надпіс на надмагільнай пліце Алеся Салаўя ў Мельбурне: "Але ня зьляжа ў цёмную магілу жывы адвеку подых маладосьці".

Паміж тым, вяртанне ў Крыўю, пра якое з гэткай упэўненасцю казаў магістр паэзіі, спраўджваецца. Вершы Салаўя гучаць на Бацькаўшчыне.

Пятро **ВАСЮЧЭНКА**





душы ня сьмеціць, з думкай не начуе,
і вусны шэпчуць — толькі Бог вас чуе
збавеньня словы   іх вы не прадалі.

1948

## КРЫВІЧЫ

Старэтных вечаў водгалас пасьцежны,
твая йшчэ слава штормамі ня сьцята.
Гудзе званамі вольная Палата,
Дзьвіною рушыць на прастор бязьмежны.

Прабудны покліч   гоман прыбярэжны
далёка чутны — навакольле ўзьнята.
"Хай зьгіне цемра! Час табе, адплата!"
— "Хай сонца ўзыйдзе! Прэч, набег драпежны!"

А чольны шэраг вой вядзе адважны,
мячом падступным грозна-недасяжны.
З гадоў паходных і зь вякоў суровых

ня сьцемяць змрокі раніцы краменнай.
Над ёй лунаюць сьветласьцяй праменнай
нашчадкаў сьцягі ў далях пурпуровых.

1948

## НАД СЛУЦКАМ ДНЕЕ

Над Слуцкам днее. Гасьне ноч на зорах.
І зь першым сьнегам вецер дзьме калючы.
Прастуе ўперад рыцар няўміручы,
за ім   нядрэмнасьць вояў у дазорах.

Ён бачыць золак, чуе кажны шорах,

# САЛАЎІ ПЯЮЦЬ І НА ЧУЖЫНЕ

Мне чамусьці часта ў думках прыгадваецца далёкі Мельбурн. Я ніколі не быў на аўстралійскім кантыненце і наўрад ці калі-небудзь траплю туды. Тым не менш, адчуванне такое, што аднойчы даваўлося пабываць у гэтым горадзе. Ва ўсякім разе, на яго могілках. Дастаткова заплюшчыць вочы, і праз якую хвіліну сярод мноства помнікаў "вымалёўваецца" прастакутны абеліск. Выразна бачу словы, напісаныя на ім па-беларуску:

*Хай табе сьняцца сны*
*аб Беларусі...*

Пад гэтым помнікам і знайшоў свой вечны спачын Алесь Салавей. Пайшоў з жыцця нечакана — памёр у час купання.. Пайшоў не ў такім і старым веку — нейкія пяцьдзесят шэсць гадоў. Сэрца спынілася раптоўна, бо з маленства не мог пахваліцца здароўем. Але ці толькі спадчынная гэтая хвароба? Хіба бясследна прайшло перажытае? Ды і ці мог зарубцавацца той нябачны "шрам" на сэрцы, які з'явіўся ў

вітае ў думках сон прабудны Случы...
Абшар бязьмежны і простор няспплючы,
у вас ня мае месца хіжы вораг.

Агні жывыя, іскры лістападу,
узьлётнасьць ваша не зазнала спаду.
За вас у муках рыцарскай дарогай

крывёй сьцякалі, гінулі і мерлі,
каб вас навекі злыбеды ня сьцерлі,
каб вы сьвяцілі прыйшлай перамогай.

1952

## ЧАЛОМ, ЧАЛОМ.

Чалом, чалом, слухмяныя актавы,
і рыфмаў звон, і сьпеў радкоў, чалом.
Скасіў мадэрн ажыўчых сокаў травы,
а кветкі іх назваў вялікшым злом.
Я з вамі йду пад полагам няславы,
дваццаты век вас выціснуў на злом
і на жанчын мужчынскія ўсклаў споднi
і пасадзіў саву на храм Гасподні.

1947

## ПАЎДЗЁННЫ КРЫЖ

Цябе ніяк ня надзіць сон суседаў.
Выходзіш зноў на пострап. Зноў глядзіш:
адылі там — цікавасьць Бог табе даў
над позіркам гарыць, ня гасьне ўзвыш.

Сярод агнёў, якіх яшчэ ня ведаў,
пераменіцца і сам Паўдзённы Крыж.



Пад роўнікам шукай тае плянэты,
дзе зноў над ім апынішся ўва сьне ты.

1949

## КАЗКА Й СОН

Што Азія мне і Эўропа?
Ня казка мая і ня сон.
Я еду ў Эўропу на ...
тры тыдні і гэтулькі-ж дзён.

І як мне ад Азіі зьехаць?
Хоць еду, а шляху няма.
Усіх     ці з грахом, ці бяз грэху
мангольская косіць чума.

Капае суцьмежныя лёхі,
крывавіць зьнішчэньня зару.
Ў канцлягеры ў Азіі здохну,
бяз хлеба ў Эўропе памру.

Таму й пасадзіў я на ...
і лёс свой сабачы, і кон.
Вось Азія, вось і Эўропа —
і казка мая і мой сон.

7.8.1944

---

яго яшчэ ў пятнаццацігадовым узросце?

Дзесяткі беларускіх пісьменнікаў, як вядома, сталі ахвярамі сталінізму, пакутнікамі таталітарнай сістэмы. Аднак востры меч беззаконня быў занесены над іх галавой у сталым узросце. Зразумела, гэта таксама страшна і балюча. Але куды страшней, калі вера ва ўсё добрае, у справядлівасць страчваецца ў час, калі чалавек сам становіцца на ногі! А з Салаўём так і сталася.

Праўда, тады ён яшчэ не Салаўём быў, а Радзюком... Альфрэдам Радзюком... Вучыўся ў школе, захапляўся паэзіяй, сам пісаў вершы. Як жа ўзрадаваўся, калі ў маі 1937 года адзін з яго твораў — "Любім сваю краіну" — пабачыў свет на старонках газеты "Піянер Беларусі", а праз месяц А. Радзюк "выйшаў" на старонкі раённай газеты "Ударнік Дзяржыншчыны" з вершам "На сенажаці".

Але гэты год для юнака стаў і трагічным. Нечакана арыштавалі бацьку, потым — маці... Дзеці засталіся адны, без сродкаў на існаванне. Альфрэду, старэйшаму, споўнілася пятнаццаць... Сястра Ала была на год маладзейшая. Лявонку мінула восем, а Уладзік меў усяго чатыры гадкі. Сваякі былі да таго запалоханыя, што адмовіліся дапамагаць сіротам...

Урэшце пра гэта А. Салавей праўдзіва расказаў у аўтабіяграфічнай паэме "На хуткіх крыльлях вольнага Пэгаса".

Расказаў у 1943 годзе, калі апынуўся, як кажуць, паміж молатам і кавадлам. Канечне ж, жыла ў сэрцы крыўда на савецкую ўладу. Вядома ж, ведаў ужо, якія масавы тэрор супраць народа адбываўся ў 30-я гады. Але і літасці ад фашыстаў не чакаў. Яшчэ на самым пачатку вайны для яго не заставалася аніякага сумнення, што акупанты радасці беларусам не прынясуць. Калі даведаўся аб нападзе гітлераўцаў (працаваў тады ў лагойскай раённай газеце), адразу напісаў гнеўны верш з асуджэннем захопнікаў. І паплаціўся за гэта...

Рукапіс так і застаўся ляжаць на наборнай касе, а з прыходам немцаў знайшоўся "добразычлівец", які перадаў яго новым уладам. З-за слабога зроку А. Салаўя на фронт не ўзялі. Падаўся ў партызаны, але не вытрымаў выпрабаванняў, вярнуўся ў Лагойск і трапіў у рукі фашыстам. А тыя пасадзілі за краты.

Хутчэй за ўсё гэтыя факты з біяграфіі А. Салаўя чытачу вядомыя. Тым не менш, нагадваю іх яшчэ раз. Дзеля тых прыводжу, хто па-ранейшаму гатовы ачарніць агулам усю беларускую эміграцыю, называючы яе фашысцкімі прыслужнікамі і халуямі. Як быццам, і Салавей служыў. Выратаваны з турмы паэтам Уладзімірам Дудзіцкім, ён працаваў вярстальшчыкам у "Беларускай газэце". І не толькі на яе старонках друкаваўся, а і ў дадатку "Беларуская вёска". І ў "Слуцкай газэце". Пазней працаваў у часопісе "Новы шлях", што выходзіў у Рызе.

Але якім было гэтае "служэнне", добра відаць хоць бы з верша "Маладзечна". Непрыманне захопнікаў відочнае:

*Ад сустрэчы душа не сагрэта, —*
*чую болесь я ранаў тваіх.*
*І ня грэе: "Мы зьнеслі ня гэта,*
*прыйдзе час — дык загоім і іх"*

Ды і ва ўжо згаданай паэме "На хуткіх крыльлях вольнага Пэгаса", ідучы ад уласна перажытага, паэт зрабіў крок да асэнсавання агульнанароднага болю:

*Якой жа бачу я зямлю тваю*
*цяпер, мой Край? Яна — уся на ранах.*

*Паблекла, веліч страціўшы сваю*
*і хараство, што так было каханым.*
*Манголец, акрывавіўшы зямлю,*
*нікім, нікім ня прошаны, ня званы,*
*айчыну найдарожшую маю*
*злачынна нішчыць гвалтам нястрыманым.*

Алесю Салаўю, бадай, як нікому (хіба нешта падобнае з паэтаў перажывалі Уладзімір Дудзіцкі, Уладзімір Клішэвіч, празаік Мікола Цэлеш), было вельмі цяжка разабрацца ў самім сабе. Ён заўсёды знаходзіўся на ростанях. Але гэта было не толькі жыццёвае раздарожжа, але і духоўнае. Любоў да Радзімы прыносіла А. Салаўю і маральныя пакуты, і сумненні, і расчараванні:

*І лясы, лугі, і блакітныя нівы,*
*Неба – вечная сінь, дол – зяленіва шоўк.*
*Гэта – Ты. І чаму я з Табой нешчасьлівы?*
*чаму я жыцьця безь Цябе не знайшоў?*

Ды і як жа інакш: “за любоў да Цябе — непакорнаму — крылы, за разлуку з Табой — вінавайцу — труна”. Адсюль і разуменне неабходнасці аднойчы абранага шляху, і заканамернасці яго, і цярністасці: “За любоў да Цябе я пакутаваць мушу, а ў разлуцы з Табой — існаваць, а ня жыць”

Гэтая душэўная неўраўнаважанасць падказала яму і выбар псеўданіма. Як сведчыў Б. Сачанка, “тыя, хто сустракаўся з паэтам, расказваюць, што псеўданім Альфрэд Радзюк узяў сабе ад папулярнай у 30-я гады песні пра сірату, якога, калі памрэ, пахаваюць на чужыне і ніхто не скажа, дзе яго магіла, хіба, можа, “раным-рано на рассвете соловей пропоет”.

Пошукі сталага, пэўнага прыстанішча штурхалі А. Салаўя на пераезды з месца на месца. Вядома, не адразу прыжыліся і іншыя эмігранты, але яму даводзілася куды цяжэй. Наконт гэтага ёсць красамоўнае сведчанне вядомага выдаўца і перакладчыка, случака Яна Пятроўскага: “Ён проста ня быў у стане агарнуць і зразумець рэчаіснасць, у якую падзеі закінулі яго, і лунаў з Музаю ў сьвеце паэзыі і няўлоўных лятуценьняў”.

Аднак тое, што ідзе не на карысць жыццёвай уладкаванасці, часта становіцца жыватворным у творчасці. Калі гады вайны былі для А. Салаўя толькі подступам да фармавання ўласнага таленту (у даваенны час ён мала пісаў і не шмат друкаваўся), дык, апынуўшыся на чужыне, паэт, нягледзячы на складаныя жыццёвыя варункі, усё ж загаварыў на поўны голас.

Талент заявіў аб сабе. У творчасці А. Салаўя знайшлі сваё адлюстраванне і ўвасабленне самыя розныя матывы. Сум па Радзіме. Жаданне разабрацца належным чынам у новай рэчаіснасці. Нарэшце — тэма кахання.

Здавалася б, у далечыні ад Бацькаўшчыны паэт мусіў найперш успомніць родную Койданаўшчыну. Ён яе прыгадваў, і неаднойчы, але цэлую гаму пачуццяў выклікаў іншы горад. І нарадзіўся верш “Над Слуцкам днее”. Пра той куток Беларусі, над якім прашугала шмат памятных падзей, многія з якіх — яшчэ ў сівой даўніне.

Аднак няма ніякага сумнення, што Слуцк “падказаў” тэму твора і з іншае прычыны. І хоць пра гэта ў вершы не гаворыцца, але, найхутчэй, шчыруючы над аркушам паперы, А. Салавей меў на ўвазе і Слуцкі збройны чын

*Над Слуцкам днее. Гасьне ноч на зорах.*
*зь першым сьнегам вецер дзьме калючы.*
*Прастуе ўперад рыцар неўміручы,*
*за ім – нядрэмнасьць вояў у дазорах.*

*Ён бачыць золак, чуе кожны шорах,*
*вітае ў думках сон прабудны Случы...*
*Абшар бязьмежны і прастор нясьплючы,*
*У вас ня мае месца хіжы вораг*

*Агні жывыя, іскры лістападу,*
*Узьлётнасьць ваша не зазнала спаду.*
*За вас у муках рыцарскай дарогай*

*крывёй сьцякалі, гінулі мерлі,*
*каб вас навекі злыбеды ня сьцерлі,*
*каб вы сьвяцілі прыйшлай перамогай.*

А як хараша ўмеў А. Салавей гаварыць пра складанасць пачуццяў, якія не заўсёды знаходзяць найлепшае паразуменне! Як удавалася яму знаходзіць менавіта свой паварот у тэме вечнай і неўміручай! На першы погляд, у вершы “І сонцу, і вясьне” ўсё знаёмае. Хто толькі не пісаў пра гэта. Але чытаеш і радуешся той свежасці радка, што непазбежна прысутнічае тады, калі сказана не прыдуманае, а тое, што ідзе ад душы, прамаўляецца сэрцам, і што ўзятае з біяграфіі, з перажыванняў самога творцы:

*Ня здрада гэта, не, гэта – не каханьне.*
*Чаму ж чакаем так натхнёнага спатканьня*
*з табой, адданаю ня мне, мной – не табе?*
*Калі ж той радасны, жаданы час праб'е,*
*мы, падуладныя вышэйшым чулым тэмам,*
*спяшаемся хутчэй у сьпеўны Mozarteum.*
*Там гімны йскрыпка шле і сонцу, вясьне.*
*Нялюдскі скача смык па ўзбуджанай струне.*
*Так Паганіні йграў. З Фларэнцыі азванай*
*плыве ягоны сьпеў валвою ўсхваляванай.*
*Ён не мінае нас знойдзенай зямлі*
*з-пад Сожа Дняпра, з-пад Нёмна Вяльлі.*

Яшчэ ў 1946 годзе А. Салавей напісаў верш, матывы якога пераклікаюцца з пазнейшай навелай Юркі Віцьбіча “Мы дойдзем!” Здзіўляючая празорлівасць наконт таго, што гісторыя з цягам часу ўсё расставіць на месца, па-сапраўднаму зразумее тых, чый шлях быў цярністым·

*А ўсё ж мы вернемся дахаты, у айчыну,*
*не заблудзімся ў шляхох чужой зямлі.*
*А я вярнуся не адзін, а з сынам –*
*нашчадкам Крывічоў іх сям'і...*

На жаль, гэтае вяртанне на Беларусь — толькі творамі На шчасце творамі вартымі.

З напісанага А. Салаўём набраўся цэлы том, які пад назваю “Нятускная краса” выйшаў у замежжы ў 1982 годзе. Даволі прыстойна прадстаўленая яго творчасць і ў анталогіі паэзіі беларускай эміграцыі “Туга па Радзіме” (“Мастацкая літаратура”, 1992)...

Мне чамусьці часта ў думках прыгадваецца далёкі Мельбурн. Я ніколі не быў на аўстралійскім кантыненце і наўрад ці калі-небудзь траплю туды. Але, каб давялося пабываць там, абавязкова схадзіў бы на магілкі, дзе знайшоў свой вечны спачын Алесь Салавей.

Беларускія Салаўі хораша спяваюць і на чужыне... Калі яны сапраўдныя Салаўі!

Алесь МАРЦІНОВІЧ



# Антаніна ХАТЭНКА

У НАС



*У незнаёмай бескаханай эры,*
*дзе пустацветна ўсхмеляцца сады,*
*пусці ўспамін расчараваны ў дзверы –*
*не дай зацалаваць мае сляды.*

# БЕЛАЕ ПОЛЕ НОЧЫ

***

Усё памкнёнае да скону.
Усё вяртаецца ў зачын.
Упаў прамень на падваконне
з вяршыні одумнай начы.

Усё прыцягненае ўгору.
Усё карэніць глыбіню.
Бяжыць, бяжыць таропка ўчора
настрэчу заўтрашняму дню.

Усё бывала не аднойчы
і будзе зноў пасля мяне.
А я пайду да бога ўпрочкі.
Мой шлях у прышласць мільгане.

Усё мінулае настане.
Усё нязбытнае прайшло.
Расстанне выспела ў спатканнях.
Да долу — небнае чало.

Усё нітуецца да Сонца,
злятае лісцем на Зямлю.
А я кахання валаконца
ў жывой бясконцасці лаўлю.

## *Да Вільні*

Іду няпрошана, нязвана
ў нябесны свет Святое Ганны.
З дзядоўскай вераю лахманнай
іду ў касцёл Святое Ганны.

Усім — амвонна і алтарна —
маленне шле Святая Ганна.
І пад карункавай убранай
трымціць душа Святое Ганны.

...Сляды, сцішэлыя пад мурам, —
былых вякоў клавіятура.
Ступлю — і памяццю ўзнясуся
ў тваю пакутлівасць, Кастусе.

Сляды... Сляды да Вострай Брамы.
І галасы шляхоў над храмам.
Зямля ўмудрэлая калыша
тваю здарожанасць, Францішак.

Над Вільняй гордаю заранай
чырвоны ўзлёт Святое Ганны.
У белы свет плыве ахвярна
крывінка-боль Святое Ганны.

Шчымяць нязгоеныя раны.
Сцялася ў сне Святая Ганна.
Усім забытым і выгнаным
надзею дасць Святая Ганна.

...Сляды, рассыпаныя ў Вільні.
Сляды замучаных і вінных.
У дзень наступны б'ецца хваляй
прарочы покліч твой, Купале.

Сляды — ад выраю да раю... —
іх час у хронікі збірае.
А над гарою Гедыміна
Пагоня ўзвершана, Максіме.

Расплюшчыць вочы Край заспаны
з-пад далані Святое Ганны.
Бальшак, у далеч разасланы.
Вядзі мяне, Святая Ганна!

За ўсіх нязнаных, пакараных
даруй вякам, Святая Ганна.
Схілі над кветкаю курганнай
чало любві, Святая Ганна.

...Сляды, сляды па Беларусі
знікаюць, стоптваюцца ў скрусе.
Ад Вышы ў дол глядзяць панура
не Ганны — згорбленыя Нюры.

Сляды... Пазнакі пакаленняў...
З'яўленні, выкрылы і ўспленні.
Не, я дахаты не вярнуся —
ад Ганны да змарнелых Нюсяў.

Растану тут укрыжавана.
Згару ў вагні Святое Ганны.
Ляціць Пагоня над Нірванай...
Ляціць касцёл Святое Ганны.

Званы ўзвышаюць апантана
да заўтра шэпт Святое Ганны.
Сусвет раскрывае арганна
у вечнасць спеў Святое Ганны.

***

Гэта было не са мной, не са мной.
Падала сэрца ў прадонне.
Гронкамі болю на дольнае дно
падалі Вашы далоні.

Гэта было не цяпер, не даўней —
падалі душы ў бясчассе.
І на магічным касмічным радне
спала адчайнае шчасце.

Гэта было не на цвердзі-зямлі,
не ў летуценных аблоках.
Проста мы рукі ў прасторы звялі
вольна, забыўліва, лёгка...

Гэта было не са мной, не ў жыцці.
Падалі словы і зоры.
Падалі лёсы, каб заўтра ўзысці
ростанню з гордай разоры...

***

Неазначаны колер
у маёй адзіноты:
ночы белае поле,
дзён чужая чарнота.

Неазначаны колер
у майго даравання:
вогнік белага болю,
холад чорнае раны.

Неазначаны колер
выпадковай сустрэчы:
у празрыстым ніколі
б'ецца белая вечнасць.

***

Пад белым кужалем нябёсаў,
па чорным долавым радне
з чужое любасці прынёс ты
усмешку стомленую мне.

Над намі неба тонкі кужаль
сырою вечнасцю прапах.





Пад намі род выгойдваў ружы,
каб расцвілі ў тваіх руках.

На лахманы парваны кужаль
тваёй хмурынкаю ў вакне.
Нашто высмужваць і выстуджваць
святло, прымроенае ў сне?..

Не мною выпрадзены кужаль
не зберажэ, не ахіне...
А наша зблытаная чужасць
надломна рукі разамкне.

Насмешны век пагляд прымружыў:
старое выцвіла радно.
У нашых лёсах — колкасць ружы.
Далей нічога не відно...

Пад вечным кужалем нябёсаў
сляды згасаюць на радне.
Здалёк, з мінуласці прынёс ты
пяшчоту змучаную мне.

***

У незнаёмай бескаханай эры,
дзе пустацветна ўсхмеляцца сады,
пусці ўспамін расчараваны ў дзверы —
не дай зацалаваць мае сляды.

Няхай згарыць на прысак наша ўчора
і пачарнее ад самоты дым...
Чужой нерастрывожанай пакоры
не дай зацалаваць мае сляды.

Ні пальцам прагным, ні вачам пяшчотным,
ні легкамысным вуснам маладым
у незнаёмым бескаханым потым
не дай зацалаваць мае сляды.

Усё раскрые і аголіць восень:
навошта разляцеліся, куды...
Як вопратку чужую, жыцці зносім —
не дай зацалаваць мае сляды...

***

**Зорна, любы мой, зорна
плыць праз ночаньку чорну
у палоне далоняў...
Гойна, любы мой, гойна!**

**Воляй, любы мой, воляй,
болем крылы натолім.
Плачуць нашыя душы.
Скрушна, любы мой, скрушна.**

**Ціха, любы мой, ціха...
Як балюча мне дыхаць.
Ветах наш на зыходзе.
...Годзе жаліцца, годзе!**

**Сумна, любы мой, сумна
зноў абрынуцца ў тлумнасць.
Трызніць новай сустрэчай
вечна, любы мой, вечна...**

***

**Як восень, мая адзінота:
заранка, кастрышча, маркота,
калінавай гронкі самота,
святло насалоднае ў сотах.**

**Пяшчоту маю і люботу —
зграбаюць і паляць лістоту.
А я... павяртаюся ў слоту,
дзе плача мая пазалота.**

**Святочнага сонца залева
над сцішаным лісцем спадзеваў,
над зернем Сусветнага Дрэва,
у восеньскім чэраве-крэве.**

**У вір ліставейнага лёту
сплываюць сумніў і яснота.
А потым... Выпырхвае потым
гаркота мая і журбота
пупышкай шчымлівае ноты...**



Рунoскэ АКУТАГАВА

ЯНЫ

# КАПЫ

**Прадмова**

Гэтую гісторыю апавядае кожнаму пацыент адной псіхіятрычнай бальніцы, які значыцца там пад нумарам дваццаць трэцім Чалавеку, бадай што, за трыццаць, а выгляд у яго даволі маладжавы На працягу цэлай паловы жыцця яму давялося зазнаць . але пакінем тое Вось ён расказвае сваю гісторыю дырэктару бальніцы доктару S і мне Моцна абхапіўшы калені, расказчык пазірае час ад часу ў закратаванае вакно, за якім відаць адно-адзінюткае дрэва мажны дуб, што ўжо скінуў засохлае лісце і працягнуў аголенае сучча небу, завешанаму снегавымі хмарамі. Пацыент, між іншым, не застаецца ў пастаяннай безварушнасці Так, вымаўляючы словы "я вельмі здзівіўся", ён рэзка адкідвае назад галаву

Я думаю, што запісаў ягоны расказ даволі падрабязна. Калі ж хто-небудзь палічыць мае нататкі недастатковымі, то няхай адшукае псіхіятрычную бальніцу доктара S, якая знаходзіцца ў мястэчку N паблізу Токіо Не па гадах малады пацыент нумар дваццаць тры схіліць галаву, пакажа на цвёрдае крэсла і спакойным тонам пачне, у каторы ўжо раз, апавядаць сваю гісторыю. Нарэшце ён закончыць расказ, а потым, — я добра помню яго твар у той момант, — імгненна ўсхопіцца на ногі, замахае кулакамі і закрычыць:

— Прэч адсюль, нягоднік! Паганая, зласлівая, бессаромная, самадавольная, жорсткая, вераломная жывёліна Прэч з маіх вачэй, мярзотнік!

Здарылася гэта летам, гады тры таму назад. Адразу з курортнай гасцініцы, што размясцілася каля гарачых крыніц Камікоці, я накіраваўся да падножжа гары Хотака з намерам падняцца на яе вяршыню Як і ў іншых турыстаў, за плячыма ў мяне быў рукзак. Добра вядома, што ўзысці на гару можна толькі адным шляхам, а іменна, ідучы берагам уверх, насуперак плыні ракі Адзусы Паколькі на вяршыню Хотака і, канешне, Ярыгатака мне даводзілася падымацца раней, то я адразу, без праваднiка, скіраваў проста ў даліну Адзусы Даліна, куды я спусціўся, была засмужана ранішнім туманам Нідзе не відаць было і знаку на тое, што імгла хутка рассеецца. Наадварот, каламуць гусцела шчэ больш Прайшоўшы так з паўгадзіны, я стаў падумваць аб тым, ці не вярнуцца мне лепей назад, у Камікоці. Але, каб вярнуцца ў Камікоці, я мусіў бы ўсё роўна чакаць, пакуль не рассеецца туман А ён з кожнай мінутай гусцеў і гусцеў "Ат, палезу наверх", — сказаў я сабе і пачаў прабірацца скрозь зараслі нізкарослага бамбука, стараючыся не вельмі аддаляцца ад рачной даліны

Перад маімі вачыма па-ранейшаму вісеў густы туман, у якім час ад часу паўставалі то мажны камель бука, то сінявата-зялёнае вецце піхты, то каровы альбо коні, што пасвіліся паблізу Усе яны тут жа прападалі ў сутонлівай каламуці Неўзабаве я адчуў стому ў нагах, захацелася есці Акрамя таго, мой альпійскі гарнітур і ваўняная коўдра набрынялі смужнай вільгаццю і значна пацяжэлі Нарэшце я здаўся і рашыў спусціцца ў даліну ракі, ідучы на пошум вады, якая набягала на скалы.

Каля самага берага я сеў на камень і прыняўся гатаваць ежу Адкрыў бляшанку вяндліны, назбіраў шыгалля і расклаў цяпельца. Пакуль усё тое рабілася, прайшло мінут дзесяць. За гэты час неадчэпны паганы туман пачаў рассейвацца Жуючы хлеб, я мелькам глянуў на гадзіннік. Ого, ужо дваццаць мінут а другой гадзіне Але яшчэ болей ашаломіла мяне пачварная мардасіна, якая адлюстроўвалася на круглым шкельцы гадзінніка. Працяты страхам, я азірнуўся і першы раз у сваім жыцці ўбачыў сапраўднага капу Капа стаяў за маёй спіной і быў якраз такі, як на

малюнках. Адной рукой ён абхапіў бярэзіну, а другую прыставіў далонню да вачэй і з цікавасцю паглядваў на мяне.

З перапуду я на нейкі момант знямеў Капа, мусіць, таксама быў ашаломлены, бо так і не адвёў сваёй рукі ад вачэй Я ўскочыў і рынуўся туды, дзе стаяў назіральнік. Той пабег Ды не, можа толькі памкнуўся бегчы Ён неяк крутнуўся на месцы і кудысьці вокамгненна знік. Аслупянелы, я абвёў позіркам зараснік бамбука. Уцякач затаіўся прама перада мною, на адлегласці двух-трох метраў Ён павярнуў галаву і пазіраў якраз у мой бок. І ў гэтым не было нічога дзіўнага. Але сапраўднай нечаканасцю для мяне аказаўся колер ягонай скуры. Калі ён зорыў са скалы, то выглядаў зусім шэрым. Зараз жа яго цела набыло зялёны колер "Ах ты, паганец!" — закрычаў я і кінуўся да капчака. Мо з паўгадзіны я лавіў бегляка, прадзіраючыся скрозь бамбукавы зараснік і стрымгалоў пераскокваючы цераз каменне

Па сваёй прыткасці капа не саступае малпе Некалькі разоў ён знікаў і вынікаў ізноў Я ганяўся за ім, быццам апантаны Ногі мае слізгалі, і я часта падаў Капа дабег да вялізнага разгалістага конскага каштана І тут зусім нечакана дарогу яму перагарадзіў бык, што пасвіўся побач Гэта быў здаравенны бык з нахабнымі рагамі і налітымі крывёю вачыма. Заўважыўшы рагача, капа неяк дзіўна заенчыў і нырнуў амаль што кулём у зараснік высокага бамбука А я а я кінуўся следам, бо лічыў, што цяпер яму не ўцячы ад мяне Але на шляху зеўрала, мабыць, яма, якую мае вочы не заўважылі. Ледзь толькі я дакрануўся пальцам да слізкай спіны капчака, як адразу ж паляцеў, куляючыся у морак прадоння Да нас, людзей, у крайнія моманты жыцця прыходзяць самыя недарэчныя думкі Так і я ў гэтае імгненне прыгадаў чамусьці, што паблізу гарачых крыніц Камікоці ёсць капчакоўскі мост, вядомы пад назвай Капа-басі. Далей не памятаю, што было далей Перад маімі вачыма бліснула маланка, і я тут жа страціў прытомнасць.

## 2

Калі апрытомнеў, то адчуў, што ляжу на спіне Наўкола вялікай гурмою стаялі капы Ля мяне ўкленчыў таўстадзюбы капчак у пенснэ і, прыставіўшы да маіх грудзей стэтаскоп, нешта слухаў Як толькі ён заўважыў, што я расплюшчыў вочы, то жэстам загадаў мне ляжаць спакойна. Затым, павярнуўшыся да якогась капчака, сказаў· "Quax, quax" Адразу ж з явіліся аднекуль яшчэ двое капчакоў з насілкамі Мяне паклалі на гэтае ложа, і ў суправаджэнні вялікага натоўпу мы ціхім ходам рушылі па вуліцы, якая мала чым адрознівалася ад Гінзы Паабапал яе ў засені букаў віднеліся рады тэнтаў над вітрынамі розных магазінаў, а па самой дарозе, што праставала між дрэў, імчаліся аўтамабілі.

Але хутка мяне на тых жа насілках раптам завярнулі ў вузенькую цесную вулачку і неўзабаве прынеслі ў нейкую будыніну Як я потым даведаўся, гаспадаром гэтай будыніны быў доктар Чак — якраз той самы таўстадзюб у пенснэ. Мяне паклалі на маленькі чысценькі ложак, а затым Чак даў мне выпіць якогась празрыстага зелля Я ляжаў пластом пасля лекавання Чака Дый ці здолеў бы я на нешта большае, калі моцныя болі ў суставах не давалі мне нават паварушыцца

Удзень разы два ці тры Чак прыходзіў мяне лячыць. Акрамя таго, праз кожныя тры дні наведваўся рыбалоў Баг — той самы капа, якому я ўпершыню падвярнуўся на вочы Пра нас, людзей, капы ведаюць значна больш, чымся мы ведаем пра іх Мабыць, з прычыны таго, што капчакі трапляюць да людзей даволі рэдка, тады як людзі апынаюцца ў капчакоўскіх цянётах вельмі часта Мо слова "цянёты" не зусім падыходзіць тут, але ж і задоўга да мяне людзі неаднойчы траплялі ў краіну капчакоў І многія заставаліся тут жыць. Чаму? Ды таму, што мы не капы, а людзі, і нам, як людзям, даецца ў іхнім грамадстве прывілея мець прахарчунак і не працаваць. Баг расказваў мне, што неяк да іх зусім выпадкова трапіў малады яшчэ дарожны рабочы Ён ажаніўся з капчакіняй Гэтая капчакіня была першай красуняй у тым краі і вельмі лоўка настаўляла свайму чалавеку рогі

Неяк праз тыдзень на аснове тутэйшых законаў было вырашана, каб я, цяпер ужо "насельнік пад асобай апекай", жыў у суседстве з Чакам Мой дамок, хай сабе і невялічкі, меў густоўную абставу Дарэчы, няма асаблівай розніцы паміж іхняй цывілізацыяй і нашай, у прыватнасці, японскай У куце гасцёўні, вокны якой глядзелі на вуліцу, стаяла піяніна, а ў рамцы на сцяне вісела гравюра Адна толькі розніца, што і гэтая вось хатка, і гэтыя во сталы ды крэслы, таксама як і ўсё іншае, стасоўвалася з ростам капчакоў Здавалася, нібыта мяне пасялілі ў дзіцячы пакойчык.

Звычайна пад вечар сюды, у мой дамок, прыходзілі Чак і Баг, і я паступова вывучыў капскую мову Але наведваліся не толькі доктар і рыбалоў Кожны тутэйшы праяўляў да мяне вялікую цікаўнасць як да грамадзяніна пад асобай апекай. Сярод наведвальнікаў быў і дырэктар шкляных вырабаў Гейл, якому па ягонай жа просьбе Чак штодзённа вымяраў крывяны ціск. Аднак у першыя два тыдні самым блізкім для мяне аказаўся рыбалоў Баг.

Неяк цёплым пагодным вечарам Баг ізноў з'явіўся ў маім пакойчыку Мы ўладкаваліся за сталом адзін супроць другога і вялі бяседу Раптам Баг замоўк, вылупіў і без таго лупатыя вочы і, як бы нешта надумаўшы, пільна паглядзеў на мяне. Я, канешне, здзівіўся і запытаў· "Quax, Bag, quo quel, quan?", што ў перакладзе на японскую мову азначае. "Гэй, Баг, што здарылася?" Заместа адказу Баг падняўся, высунуў язык і пачаў скакаць, быццам жаба, робячы выгляд, што хоча на мяне кінуцца Мне стала не па сабе, і я ціхенька ўстаў з крэсла, каб рыўком выскачыць за дзверы. Ды ў гэты момант у дзвярах паказалася знаёмае аблічча, і на маё шчасце ўвайшоў доктар Чак. "Э, Баг, што ты вытвараеш тут?" — запытаў доктар і, папраўўшы пенснэ, сярдзіта паглядзеў на рыбака. Баг збянтэжыўся, а затым, уздымаючы рукі да галавы, стаў прасіць прабачэння "Вельмі прашу вас, прабачце! Але ж надта цікава назіраць пудкасць гэтага вяльможнага пана. І я, паддаўшыся такой цікавасці, трохі пажартаваў Шаноўны пане, — звярнуўся ён да мяне, — вы таксама даруйце"

## 3

Перш чым працягваць апавяданне, я павінен даць некаторыя звесткі пра капчакоў. Капа — гэта жывая істота І хаця яго рэальнае існаванне ўсё яшчэ падвяргаецца сумненню, асабіста ў мяне, жыўшага сярод капчакоў, не можа быць і кроплі такога недаверу. На пытанне, як выглядае капа, адзначу, што галава яго пакрыта кароткімі валасамі, а рукі і ногі аздоблены плавальнымі перапонкамі Увогуле, ён мала чым адрозніваецца ад жывёліны, апісанне якой даецца на старонках "Даследавання аб вадзяным тыгры" або іншых падобных трактатаў Росту капа невялікага, недзе каля метра Важыць, паводле разлікаў доктара Чака, дваццаць-трыццаць фунтаў Зрэдку сустракаюцца індывіды, вага якіх дасягае пяцідзесяці фунтаў Макаўка галавы мае паглыбленне, якое нагадвае форму авальнага сподачка З узростам авал гэты цвярдзее. Так сподачак на галаве пастарэлага Бага і сподачак на галаве маладога Чака на вобмацак розніліся Але самым адметным, бадай, з яўляецца колер скуры капчакоў Гэтыя стварэнні пастаяннага, як у людзей, колеру скуры не маюць. Яны мяняюць яго ў залежнасці ад фарбаў наваколля У траве капы зялёныя, а сярод скал — папялістыя Акрамя капчакоў, такой уласцівасцю, як вядома, валодаюць хамелеоны Мажліва, ёсць пэўная структурная блізкасць паміж скураным пакровам капчака і скураным пакровам хамелеона Калі я зрабіў для сябе гэтае адкрыццё, то адразу прыгадаў, што паводле народных паданняў капы нашых заходніх правінцый — зялёнага колеру, а капы паўночна-ўсходніх правінцый — чырвоныя Успомніў яшчэ, што якраз тады, калі я гнаўся за Багам, той нечакана рабіўся нябачным і кудысьці знікаў У капчакоў нарастае, мабыць, ладны слой падскурнага тлушчу Таму яны не знаюць аніякай апраткі, хаця тэмпературы ў іхняй падзямельнай краіне даволі нізкія (нешта каля пяцідзесяці градусаў па Фарэнгейце) Гэтыя істоты могуць насіць пры сабе акуляры, партсігар, партманет Для такіх рэчаў яны, бы кенгуру, маюць на жываце сумку Так што аднösна кішэняў ніякіх праблем. Капы не закрываюць сябе ніжэй паясніцы Апошняе было для мяне зусім нязвыклым, і аднойчы я запытаў Бага, чаму ў іх трывае гэтакі звычай Адкінуўшыся назад, Баг доўга рагатаў, а потым прамовіў· "А мне смешна якраз, што вы гэта самае хаваеце"

## 4

Паступова я авалодаў гутарковаю мовай капчакоў і такім чынам добра пазнаёміўся з іхнімі звычаямі ды норавамі І тут надта здзівіла мяне адна асаблівасць Менавіта рэчы, смешныя для нас, людзей, капы ўспрымаюць як нешта сур'ёзнае і,

наадварот, усё, што ў чалавечым грамадстве лічыцца сур'ёзным, капчакам здаецца вельмі смешным. Так, словы "справядлівасць", "гуманнасць" мы лучым з нейкім сур'ёзным значэннем, а капы, учуўшы гэтыя словы, пачынаюць рагатаць, трымаючыся за жываты. Карацей кажучы, разуменне гумару капамі істотна адрозніваецца ад разумення гумару людзьмі. Аднойчы я расказаў доктару Чаку пра абмежаванне дзетараджэння. Разявіўшы рот, Чак рагатаў настолькі моцна, што ў яго звалілася пенснэ. Я, канешне, раззлаваўся і рэзкім тонам запытаў, з чаго ён смяецца. Па тым часе я не разумеў яшчэ дасканала мову капчакоў і ў падрабязнасцях, магчыма, памыляюся Аднак памятаю, што па сутнасці адказ Чака быў такім: "Ці ж не смешна думаць толькі пра выгоды бацькоў? Гэта не што іншае, як чэрствы эгаізм"

Але затое на чалавечы пагляд няма нічога больш смешнага, чым роды ў капчакінь. Праз нейкі час пасля размовы з доктарам я наведаўся ў хацінку Бага, жонка якога павінна была раджаць. Іхнія роды ўвогуле такія ж, як і нашыя. Парадзісе дапамагаюць урач і акушэрка Але на пачатку родаў бацька прыстаўляе свой рот да похвы радзіліцы і, быццам па тэлефоне, гучна пытаецца ў навароднага "Ці хочаш ты паявіцца на свет? Падумай добра, а затым адкажы!" Застаючыся на ўколенцах, Баг некалькі разоў паўтарыў гэтыя словы, пасля чаго прапаласкаў рот дэзінфіцыруючым зеллем, што стаяла на стале І тут дзіцёнак, бадай, крыху збянтэжаны, прамовіў з матчынага лона ціхім галаском "Я не хачу нараджацца. Па-першае, таму што ўнаследую бацькаву заганную спадчыну, прынамсі яго псіхічную хваробу Акрамя таго, я лічу, што жыццё капчакоў пагоршылася"

Пачуўшы такі адказ, Баг разгублена пачухаў галаву Аднак акушэрка, што стаяла побач, імгненна засунула ў лона парадзіхі тоўстую шкляную трубку і ўпрыснула нейкую вадкасць. Самка, адчуўшы, мабыць, палёгку, працяжна ўздыхнула Яе жывот, нібыта паветраны шар, з якога выпусцілі вадарод, адразу ж апаў Здольнае даваць такі адказ, нованароджанае дзіцянё капчакоў умее, вядома, і бегаць, і балабоніць. Чак расказваў мне, што адно капчанё ўсяго дваццаці шасці дзён ад роду чытала нават лекцыі аб існаванні бога. Праўда, яно, пражыўшы два месяцы, неўзабаве памёрла

Калі ўжо гаворка зайшла аб родах, то раскажу яшчэ пра вялізны плакат, які ўбачыў зусім выпадкова на рагу вуліцы на трэці дзень майго знаходжання ў гэтым краі. На ніжняй палавіне плаката былі намаляваны дванаццаць ці мо трынаццаць капчакоў Адныя з іх дзьмулі ў трубы, а другія трымалі шаблі. Уверсе доўжыліся радкі спіралепадобных знакаў, што нагадвалі спружынку гадзінніка Гэта былі знакі пісьма капчакоў Не выключана, што ў перадачы ўсіх тонкасцяў значэння тых сімвалаў я мог дзенідзе і памыліцца. Але ж разам са мной прагульваўся студэнт Рап. Ён і прачытаў мне ўголас надпіс на плакаце, а я старанна занатаваў Рапавы словы У перакладзе сэнс тых спіралек быў такі.

*Здаровыя капчакі і капчакіні!*
*Далучайцеся да суполкі дужай радзіны!*
*Каб знішчыць паганае семя, жаніцеся*
*з кволымі жанчынамі*
*і выходзьце замуж за хірлявых мужчын!*

Я, вядома, сказаў тады Рапу, што здзейсніць падобнае немагчыма. У адказ не толькі Рап, але і ўсе капы, стаяўшыя каля плаката, гучна зарагаталі. "Немагчыма? Ды вы, як вынікае з вашых расказаў, робіце тое самае Чаму, скажыце, у вас шляхетнага роду сын заляцаецца да служанкі, а дачка са знакамітай сям'і фліртуе з шафёрам? Ці ж гэта не інстынктыўнае імкненне пазбавіцца паганай спадчыны? Дарэчы, вы нядаўна самі апавядалі пра сваіх храбрых воінаў Доблесныя атрады забіваюць адзін аднаго з-за нейкай там чыгункі. Калі параўноўваць, то нашыя воі больш высакародныя, чым вашыя"

Рап гаварыў на поўным сур'ёзе, а складкі яго тоўсценькага жывоціка пакалыхваліся, мабыць, ад смеху. А мне тады было не да жартаў Да таго ж я спрабаваў злавіць капчанё, якое, скарыстаўшы маю няўважнасць, выцягнула ў мяне самапіску. Ды не так лёгка ўлавіць свавольніка з яго слізготнаю скурай Гэтае стварэнне імгненна вылузнулася з маіх рук і кінулася бегчы з усіх ног Худое, нібы камарынае, цельца бегляка праставала так нізка над зямлёй, што здавалася, яшчэ момант — і ён спатыкнецца носам

## 5

Капчак Рап стараўся для мяне анічуць не менш, чым Баг Акурат ён пазнаёміў мяне з Токам — капаўскім паэтам, які насіў такія ж доўгія валасы, што і нашыя вершапісцы. Каб забавіць час, я заходзіў калі-нікалі да гэтага барда. Ток сядзеў, звычайна, у сваім невялікім пакойчыку з усялякай высакагорнай расліннасцю, пісаў вершы, курыў і, па маіх меркаваннях, пачуваў сябе анігадкі Тут жа ў куточку мясцілася яго самка Яна нешта вязала ці займалася іншай жаночаю справай (Ток быў прыхільнікам свабоднага кахання і не меў жонкі ) Гаспадар, заўважыўшы мяне, усміхаўся і мовіў· "А-а, добра, што завітаў сюды Праходзь, калі ласка Вунь крэсла Сядай". (Зрэшты, капаўская ўсмешка не такая ўжо вабная Прынамсі мне ад гэтай усмешкі было спачатку не па сабе )

Ток цікава расказваў пра мастацтва капчакоў, пра іхні лад жыцця. На думку паэта, няма, бадай, нічога больш недарэчнага, чымся быт звычайнага капы. Бацькі і дзеці, мужы і жонкі, браты і сёстры жывуць толькі дзеля таго, каб чыніць узаемнае зло. Асабліва абсурднай з'яўляецца сістэма сямейных адносін. Неяк падчас нашай размовы Ток паглядзеў у вакно, грэбліва сплюнуў і паказаў на вуліцу· "Глянь, якое вар'яцтва!" За вокнамі на вуліцы млявай, змораной хадою крочыў даволі малады яшчэ капа. На ягонай шыі віселі сямёра ці васьмёра самак і самцоў, сярод іх і старыя: напэўна, бацькі Аднак я быў у захапленні ад гэтага самаахвярнага ўчынку і сказаў, што малады капа варты пахвалы.

"Гэ! — усклікнуў Ток, — дык ты сапраўды маеш усе якасці, каб стаць ісцівым грамадзянінам гэтай краіны Дарэчы, ты сацыяліст?" Я, вядома, адказаў "qua", што на мове капчакоў азначае "канешне"

"Значыцца, ты без аглядкі ахвяраваў бы геніем дзеля сотні няздараў?"

"А ты сам да якой партыі належыш? Нехта даводзіў мне, што ты манархіст".

На гэтае пытанне Ток урачыста заявіў: "Я — звышчалавек" (у літаральным перакладзе "Звышкапа").

Арыгінальныя думкі выказваў Ток і наконт мастацтва Паводле ягоных перакананняў, мастацтва незалежнае Мастацтва існуе дзеля мастацтва, і мастак павінен быць звышчалавекам, які стаіць вышэй за дабро і зло. Гэтага пункту гледжання прытрымліваўся не адзін Ток. Падобныя погляды падзяляла большасць яго паэтычных сяброў

Сяды-тады я заходзіў разам з Токам у Клуб звышчалавекаў. Там збіраліся паэты, празаікі, драматургі, крытыкі, кудзейнікі, музыканты, скульптары ды іншыя аматары мастацтваў Усе яны былі звышчалавекі

Сядзелі супермэны ў салоне, залітым святлом электрычных лямпаў, і вялі жвавыя, вясёлыя размовы Час ад часу яны фанабэрліва паказвалі свае звышчалавечыя здольнасці Так, адзін архітэктар, злавіўшы маладога капу, які бегаў сярод вялізных гаршкоў з высокім чортавым папаратнікам, заўзята распуснічаў з ім Нейкая пісьменніца ўзлезла на стол і паспрачалася, што вып'е шэсцьдзесят пляшак абсэнту Але на шасцідзесятай пляшцы яна звалілася пад стол і тут жа зайшлася

Аднойчы я і паэт Ток, узяўшыся падручкі, вярталіся з Клуба звышчалавекаў дадому. Быў прыгожы месячны вечар Але Тока апанавала якаясь незвычайная паныласць, і ён маўчаў. Мы праходзілі міма ярка асветленага ваконца аднаго дамка За вакном самец і самка, пэўна сужанцы, а таксама трое капчанят сядзелі вакол стала і вячэралі Ток уздыхнуў і раптам сказаў мне "Ведаеш, я за любоў звышчалавечую. А вось калі бачу такую сямейную ідылію, то адчуваю зайздрасць"

"А ці не здаецца табе, што, разважаючы такім чынам, ты сам жа супярэчыш сабе?"

Ток, скрыжаваўшы рукі, нерухома стаяў пад святлом месяца і глядзеў на мірную вячэру пяцярых капчакоў Затым ён прамовіў· "Што ні кажы, а тая вунь яешня для здароўя намнога карысней, чым любое каханне"

## 6

Сапраўды, каханне ў капчакоў вельмі адрозніваецца ад кахання ў людзей Самка, як толькі ўбачыць самца, адразу прагне ўсялякімі спосабамі злавіць яго Найбольш сумленныя капчакіні, заўважыўшы капчака, стрымгалоў кідаюцца за ім наўздагон Аднойчы я сам бачыў самку, якая, бы звар'яцелая, ганялася за самцом. Дый гэта яшчэ не ўсё. Бывае, што за капчаком ганяюцца разам і бацькі маладой, і браты, і сёстры Бедны ўцякач! Нават калі ён пасля такой шалёнай гонкі і патрапіць

кудысь уцячы, то ўсё адно яму прыйдзецца два ці тры месяцы праляжаць у ложку

Неяк я сядзеў дома і чытаў зборнік вершаў Тока. Нечакана ўрываецца ў пакой студэнт Рап, валіцца на падлогу і задыхаючыся крычыць. "Гэта жахліва! Яна мяне ўрэшце злавіла!"

Я адкінуў кнігу і хуценька зачыніў дзверы. Калі я затым паглядзеў праз замочную шчыліну, дык заўважыў, што каля дзвярэй прахаджвалася нізкарослая самачка, твар якой быў шчодра напудраны серай. Пасля гэтага Рап некалькі тыдняў праляжаў на маім ложку. У дадатак да ўсёй злыбедзі ў яго цалкам згніла і адвалілася дзюбка

Здараецца часам, што і самец ва ўсе лапаткі ганяецца за самкай. Але ў сапраўднасці якраз капчакіня паводзіць сябе так, што не гнацца за ёй капчак проста не можа Я асабіста быў сведкам таго, як самец апантана бегаў за самкай Самка ж, уцякаючы ад яго, раз-пораз наўмысна спынялася ці паўзла на карачках У зручны момант яна зрабіла выгляд, што знясілела, і з прыемнасцю аддалася ў рукі лаўца. Капчак заключыў самку ў свае абдымкі і пэўны час катаўся з ёю па зямлі Калі ж ён нарэшце ўстаў, аблічча яго было надзвычай панылае. Ці то ад расчаравання, ці то ад раскаяння — дакладна сказаць не магу Але яму наогул пашанцавала. Пазней мне давялося бачыць іншае відовішча. Невялічкага росту самец гнаўся за самкай Раптам з вулачкі на процілеглым баку выйшаў пасапваючы вялізны капчак Самка, на нейкі момант затрымаўшы свой позірк на бамбізе, раптам кінулася да яго і пранізлівым голасам закрычала: "Ратуйце! Гэты паганец хоча мяне забіць" Бамбіза мігам схапіў недаростка і шпурлянуў на сярэдзіну вуліцы Капчанё разы два ці тры хапнула сваімі перапончатымі ручкамі паветра і неўзабаве сканала

Тутэйшыя капчакіні, бы згаварыўшыся, ганяліся за ўсімі самцамі, якіх я ведаў Самкі ганяліся таксама за Багам, хоць ён меў жонку і дзяцей Яны тройчы нават лавілі яго Толькі філосаф Маг (ён жыў па суседству з паэтам Токам) ніколі не быў ахвярай нападу Мо з тае прычыны, што выглядаў мысляр на рэдкасць пачварна, а можа, і таму, што пераважна бавіўся дома і мала калі паказваўся на вуліцы.

Часам я заходзіў да Мага пагаманіць. Як заўсёды, ён сядзеў за высокім сталом у цёмным пакоі і пры святле шклянога сямікаляровага ліхтарыка чытаў якіясь тоўстыя кнігі З Магам я меў аднойчы размову пра каханне ў капчакоў.

"Чаму ваш урад не прыцягвае да строгай адказнасці самак, якія ганяюцца за самцамі?"

"Перш за ўсё таму, што сярод чыноўнікаў мала самак. З другога пункту гледжання, самкі, як вядома, больш раўнівыя, чым самцы, і з павелічэннем колькасці самак ва ўрадавых установах самцы, напэўна, менш цярпелі б ад агрэсіі Але якіх-небудзь істотных вынікаў гэта б не дало Чаму? Ды з той прычыны, што нават ва ўрадзе капчакіні ганяюцца за сваімі калегамі-самцамі"

"Значыцца, самым шчаслівым аказваецца той, хто жыве так, як жывяце Вы, спадар Маг?"

Тады Маг устаў са стула, схапіў мяне за рукі і, уздыхнуўшы, сказаў: "Вы не капа і нас не разумееце Часам і мне хочацца, каб за мной ганяліся гэтыя страхотныя самкі"

## 7

Разам з паэтам Токам я часцяком хадзіў на канцэрты З усіх канцэртаў асабліва запомніўся мне трэці Тутэйшы канцэртны зал амаль нічым не адрозніваецца ад канцэртных залаў Японіі. На пакатай злёгку падлозе такія ж рады крэслаў, у якіх з праграмкамі ў руках сядзяць сотні тры ці чатыры самак і самцоў, што цалкам ператварыліся ў слых. Падчас трэцяга канцэрта са мной быў Ток, ягоная самка і філосаф Маг Сядзелі мы ў першым радзе Пасля таго як прагучала сола на віяланчэлі, на сцэне паявіўся капа, абы-як і абыякава трымаючы ў руцэ ноты Экзатычна вырысоўваліся на твары музыканта вузкія шчылінкі вачэй Як значылася ў праграме, выступаць меўся знакаміты кампазітар Крабак. Ды што там праграма У мяне надобы не ўзнікала глядзець тую праграму Крабак быў сябрам Клуба звышчалавекаў, да якога належаў Ток, і музыку я ведаў ужо добра

"Lied-Kraback"* (І ў гэтай краіне большасць праграм пісалася на нямецкай мове )

*"Песня-Крабак"

Сціпла пакланіўшыся на нашы бурныя апладысменты, Крабак спакойным крокам падышоў да піяніна і пачаў лёгка, натуральна іграць уласную песню Па словах Тока, сярод айчынных музыкантаў, якія былі, ёсць або яшчэ будуць, Крабак застаецца і застанецца самым таленавітым Мяне, вядома, цікавіла і Крабакава музыка, і ягоныя лірычныя вершы Таму я прагна слухаў мелодыю вялікага дугападобнага піяніна. Мусіць, Ток і Маг былі ў захапленні ад ігры намнога больш, чым я. Толькі вось Токава прыгажуня (прыгажуня, ва ўсякім разе, ва ўспрыняцці капчакоў) сутаргава камячыла ў руцэ праграмку і раз-пораз высоўвала грэбліва свой доўгі язык. Маг расказваў мне, што гадоў дзесяць таму гэтая самачка ганялася за Крабакам, але злавіць яго так і не змагла Дык яна і зараз адчувае да яго непрыязь

Крабак працягваў тукацець па клавішах піяніна з яшчэ большым імпэтам І раптам, бы гром з яснага неба, у зале раздаўся голас: "Канцэрт забараняю!" Ашаломлены гэтым выкрыкам, я міжвольна азірнуўся. Голас належаў, несумненна, паліцэйскаму Гэта быў здаравенны, рослы дзяцюк, які сядзеў у апошнім радзе Якраз калі я азірнуўся, паліцэйскі, застаючыся ў той жа позе, роўным, але больш моцным голасам паўтарыў "Канцэрт забараняю!"

І тут узняўся страшэнны вэрхал. Чуліся крыкі "Паліцэйскае сваволле!", "Іграй, іграй, Крабак!", "Ёлупень!", "Быдла!", "Прэч адсюль!", "Не паддавайцеся!"

Грукацелі, перакульваліся крэслы, ляцелі праграмкі, нехта шпурляў пустыя бутэлькі з-пад сідру, нехта шыбаў камяні, а хтосьці — агрызкі гуркоў. Збіты з панталыку, я хацеў быў запытаць Тока, у чым прычына гэтага скандалу Але Ток быў занадта ўзрушаны Стоячы на крэсле, ён працягваў крычаць "Крабак, іграй, іграй далей!" А Токава прыгажуня амаль у тон яму ўторыла. "Самадурства! Паліцэйскае самадурства!" Яна, мабыць, забылася пра сваю варожасць да музыканта

Мне нічога не заставалася, як звярнуцца да Мага "Што здарылася?" — запытаў я

"Гэта во? Такое ў нас часта бывае. Разумееце, у творах жывапісу і прыгожага пісьменства " Калі зверху нешта пралятала, Маг уцягваў трошачкі галаву ў плечы і спакойна, як заўсёды, тлумачыў "Змест, які выражаюць творы жывапісу і прыгожага пісьменства, кожны разумее ўвогуле адразу. Таму якіх-небудзь абмежаванняў продажу ці выставы гэтых твораў у нас не існуе А канцэрты нярэдка забараняюцца, бо музычны твор можа ўключаць матывы, якія падрываюць грамадскую мараль. Праўда, капы музычнага слыху не маюць і музыкі не разумеюць"

"Значыцца, той паліцэйскі валодае музычным слыхам?" "Сумняваюся Мажліва, рытмы гэтых мелодый нагадваюць яму рытмы біцця ўласнага сэрца, калі ён спіць са сваёй жонкай" Гармідар у зале мацнеў. Крабак усё яшчэ сядзеў за піяніна і фанабэрыста зіркаў на нас Ды як бы там пыхліва ні паводзіў сябе музыка, ён таксама вымушаны быў ухіляцца ад ляцеўшых на яго прадметаў У астатнім Крабак працягваў захоўваць годнасць вялікага музыканта Жудам паблісквалі яго вузенькія вочкі. А я . а я, каб унікнуць небяспекі, хаваўся за Тока. Але цікавасць брала верх, і я зноў звярнуўся да Мага.

"А ці не з'яўляецца такая цэнзура дэспатызмам?"

"Ніколечкі Наадварот, наша цэнзура нават больш прагрэсіўная, чымся цэнзура любой іншай краіны. Возьмем, напрыклад, Японію Усяго месяц таму " І якраз у гэты момант пустая бутэлька трапіла Магу ў самае цемечка. Ён толькі выгукнуў "Quack" (Quack — гэта выклічнік) і тут жа страціў прытомнасць.

## 8

Вялізную сімпатыю меў я да Гейла — дырэктара шклозавода Сярод капіталістаў ён быў самы што ні ёсць капіталіст Сапраўды, бадай ніводзін капа ў тым краі не меў такога вялізнага жывата, як дырэктар Гейл Калі ён сядзеў на мяккай утульнай канапе ў атачэнні сваёй жонкі, падобнай на тонкую арэшынку, а таксама дзяцей, што нагадвалі зялёненькія гуркочкі, то адчуваў сябе, мусібыць, вельмі шчаслівым Сяды-тады сумесна з доктарам Чакам і суддзёй Бапам я бываў у Гейла на застоллі Акрамя таго, дзякуючы рэкамендацыйным пісьмам Гейла я мог на-

ведваць прадпрыемствы, да якіх ён сам ці яго сябры мелі пэўнае дачыненне

Асабліва зацікавіла мяне адно сумеснае прадпрыемства па вырабу кніг. Я прыйшоў сюды ў суправаджэнні маладога капы-інжынера Калі перад маімі вачыма паўсталі агромністыя машыны, што прыводзіліся ў рух электрычнасцю ад гідраэлектрастанцыі, я быў вельмі ўражаны высокім узроўнем развіцця машыннай індустрыі ў гэтай краіне Прадпрыемства, як мне паведамілі, выпускае штогод сем мільёнаў кніг Але дзівіла мяне не столькі вялікае мноства кніг, колькі тая лёгкасць, з якой кнігі вырабляліся. У лейкападобную зяпу машыны загружаюць паперу, чарніла і нейкі шэрага колеру парашок Сыравіна трапляе затым у лона машыны Не праходзіць і пяці мінут, як адтуль ужо выштурхоўваюцца кнігі розных фарматаў· у адну чацвёртую, адну восьмую, адну дванаццатую частку друкаванага аркуша Гледзячы на рознакніжную плынь, што нагадвала мне вадаспад, я запытаў інжынера, выпукліўшага фанабэрыста грудзі, які састаў парашку, што засыпалі ў прыёмнік. Капа, стоячы перад чорнай бліскучай машынай, апатычна прамовіў· "Гэта во? Гэта аслiныя мазгі Іх спачатку высушваюць, затым труць на парашок Адна тона каштуе зараз два-тры сэны"

Зразумела, што падобныя цуды маюць месца не толькі ў кампаніях, якія фабрыкуюць літаратуру, але і на прадпрыемствах па вытворчасці музычнай прадукцыі альбо, скажам, прадукцыі жывапісу У гэтай краіне, па словах Гейла, кожны месяц выходзяць ад сямісот да васьмісот відаў новых машын Развіваецца вытворчасць, якой усё менш і менш патрэбны чалавечыя рукі У выніку штомесяц сорак-пяцьдзесят тысяч рабочых траццяць сваё рабочае месца Але ў друку я ніколі не сустракаў слова "забастоўка", хоць кожнай раніцы чытаў тутэйшыя газеты Апошняе падалося мне надзвычай дзіўным, і аднойчы я сказаў пра гэта Гейлу, калі той запрасіў мяне сумесна з Бэпам і Чакам на чарговы банкет

"Іх у нас проста з'ядаюць", — абыякава адказаў Гейл, пыхкаючы сігарай на заедак. Я напачатку не ўцяміў сэнс пачутага слова "з'ядаюць" Адчуўшы маю збянтэжанасць, Чак, са сваім неразлучным пенснэ на пераноссі, далучае да сказанага ўласныя тлумачэнні: "Усіх звольненых мы забіваем, а іх мяса ідзе на ежу Паглядзіце во газету У гэтым месяцы звольнілі шэсцьдзесят чатыры тысячы семсот шэсцьдзесят дзевяць рабочых, і адпаведна знізіліся цэны на мяса"

"І рабочыя моўчкі дазваляюць сябе забіваць?"

"А што карысці ў пратэстах, калі існуе закон аб забоі рабочых?"

Гэта былі словы Бэпа, які са змрочным тварам сядзеў за вазонам горнага персіка. Мне зрабілася млосна. Але і гаспадар дома Гейл, а таксама Пеп і Чак лічылі, бадай, такое забойства справай зусім нармальнай Больш таго, Чак, быццам пацвельваючыся з мяне, сказаў з усмешкай· "Гэтак дзяржава садзейнічае таму, каб звоненыя пазбягалі пакутаў галоднай смерці або самагубства Яны мусяць удыхнуць трошкі атрутнага газу — і ніякіх табе пакутаў".

"Але ж есці іхняе мяса "

"Не смяшыце Сапраўды, калі б такое пачуў Маг, дык ён, мабыць, зайшоўся б ад рогату Ці ж не прымушаюць у вашай краіне дачок ніжэйшага саслоўя да прастытуцыі? А тут, падумаеш, гэткая сентыментальнасць. чалавек абураецца тым, што мяса рабочых ідзе ў ежу"

Гейл, слухаючы нашу дыскусію, пасунуў мне талерку з бутэрбродамі, якая стаяла каля яго, і спакойна прамовіў· "А як наконт бутэрбродаў? Ці не жадаеце пакаштаваць? І ў бутэрбродах ёсць мяса рабочых"

Мне і так было млосна, а цяпер яшчэ бутэрброды. Я кінуўся з гасцёўні Гейла прэч, з усіх ног А за маёй спіной чуўся гучны смех Пепа і Чака. Над котлішчамі вісела грымотная бяззорная ноч У цемрыве гэтай ночы я вяртаўся да свайго жытла Мяне ўсю дарогу ванітавала Белаватым цуркам сцякалі ў морак мае ваніты

## 9

І ўсё ж дырэктар шклозавода Гейл аказаўся капчаком даволі кампанейскім Разам з Гейлам я часта наведваў ягоны клуб, дзе мы з прыемнасцю бавілі вечары Па-першае, у тым клубе было намнога ўтульней, чымся ў клубе звышчалавекаў, да якога належаў Ток Па-другое, размовы з Гейлам адкрывалі перада мною новы шырокі сусвет, хаця выказванні дырэктара былі і не такімі глыбокімі, як разважанні філосафа Мага Лыжачкай з чыстага золата Гейл памешваў у кубачку сваю каву і забаўна расказваў усялякія гісторыі

Неяк позним туманным вечарам я сядзеў сярод вазонаў зімовых ружаў і слухаў Гейла Прыгадваю, што гаворка адбывалася ў пакоі, мэбляваным у стылі "сэцэсьён" Сталы, крэслы ды іншую мэблю ўпрыгожвалі па краях тонкія лініі пазалоты. Гейл, твар якога поўніўся гэтым разам асабліва самазадаволенай усмешкаю, распавядаў пра кабінет міністраў партыі "Кворакс" Слова "Кворакс" з'яўляецца выклічнікам і якога-небудзь асаблівага сэнсу не мае У перакладзе гэта, бадай, тое самае, што "вой-вой" Але як бы там ні было, партыя выступала пад дэвізам "За дабрабыт усіх капчакоў"

"Партыяй "Кворакс" кіруе знакаміты палітычны дзеяч Лопе Бісмарк калісьці гаварыў: "Сумленнасць — найлепшая дыпламатыя". Лопе норму сумленнасці зрабіў асновай і ўнутранай палітыкі"

"Але ж яго прамова "

"Ды выслухайце мяне! Яго прамова — то ж суцэльная хлусня І паколькі ўсе ведаюць, што ён хлусіць, дык, урэшце, няпраўда аказваецца праўдай Толькі вы, чалавекі, прадузята лічыце, што падобныя прамовы заўсёды трэба называць хлуснёй Мы, капы, у адрозненне ад вас Аднак пакінем гэта. Мы ж вялі гаворку пра Лопе. Значыцца, так: Лопе кіруе партыяй "Кворакс", а ім, у сваю чаргу, кіруе Квікві — уласнік газеты "Пу-фу" (дарэчы, слова "пу-фу" — таксама выклічнік, і ў перакладзе — гэта проста "а-а") Але і Квікві не ёсць сам сабе гаспадар Яго дзейнасць накіроўвае той, хто сядзіць перад вамі і завецца Гейл"

"Прабачце за маю нясціпласць, але ж "Пу-фу" з'яўляецца газетай, якая выказвае погляды рабочых. А калі шэф газеты знаходзіцца пад вашым уплывам ."

"Вядома, карэспандэнты газеты стараюцца падладжвацца пад густ рабочых, аднак дзейнасць газетчыкаў накіроўвае Квікві, які, у сваю чаргу, быў бы нішто без маёй падтрымкі"

Гейл усміхнуўся звычнай усмешкай, забаўляючыся лыжачкай з чыстага золата. Мяне ж апаноўвала не столькі нянавісць да гэтага капіталіста, колькі спачуванне супрацоўнікам газеты "Пу-фу" Калі я раптоўна замаўчаў, ён, мабыць, адразу ж адгадаў мае пачуцці, бо тут жа, надзьмуўшы свой вялізны жывот, прамовіў·

"Ведаеце, не ўсе супрацоўнікі газеты з'яўляюцца прыхільнікамі рабочых. Кожны з нас, капчакоў, сябра найперш самому сабе, а пасля ўжо іншым Справа яшчэ ўскладняецца тым, што і я знаходжуся пад уладай іншага чалавека Як вы думаеце, хто гэта можа быць? Мая жонка Мая чароўная спадарыня Гейл".

Дырэктар гучна зарагатаў

"Дык гэта ж, хутчэй, вялікае шчасце для вас"

"Што б там ні было, а я асабіста задаволены Між іншым, толькі з вамі, толькі з вамі я магу размаўляць аб усім адкрыта, паколькі вы не капа"

"Значыцца, кабінетам міністраў партыі "Кворакс" кіруе спадарыня Гейл?"

"Ну, калі хочаце, хай будзе так Дарэчы, сем гадоў таму з-за адной капчакіні ў нас пачалася вайна"

"Вайна? У гэтай краіне была вайна?"

"Была. І яшчэ невядома, ці знікнуць войны ў будучым Пакуль існуюць суседнія з намі дзяржавы ."

Такім чынам я ўпершыню даведаўся, што ў гэтым рэгіёне існуе не толькі спадарства Капчакія Па словах Гейла, эвентуальным праціўнікам Капчакіі заўсёды лічыліся выдры У сваім арсенале выдры мелі зброю, нічуць не горшую, чым зброя капчакоў Мяне дужа зацікавіла згадка пра войны паміж гэтымі стварэннямі Бадай, навіной было тое, што выдры з'яўляюцца вельмі небяспечнымі ворагамі Капчакіі Ва ўсякім разе, ні аўтар даследавання "Аб вадзяным тыгры", ні Янагіда Куніо-сан, выдавец "Зборніка паданняў пра горныя астравы", нічога не гаворыць аб гэтым

"Да пачатку ваенных дзеянняў кожная дзяржава, баючыся суседа, старанна шпіёніла за ім Акурат на тым часе якісь прышлы выдра захацеў наведаць адну сямейную пару А ў гэтай сямейцы жонка надумала звесці са свету свайго мужа Намеру спрыяла, мабыць, і тое, што муж яе, зацяты гуляка, застрахаваўся на выпадак смерці"

"Вы знаёмы з гэтай парай?"

"Ну, як бы сказаць — я знаў толькі самца, гэта значыць мужа Зрэшты, на думку маёй жонкі, ён вырадак, а не капа А па-мойму, ніякі ён не вырадак, а проста здурэлы маньяк, які пастаянна баіцца, што яго зловяць самкі Дык вось, у

кубачак з какавай, што прызначаўся мужу, капчакіня падсыпала цыяністага калію Але яна, відаць, пераблытала кубачкі, бо калі госць выпіў какаву, то ён неўзабаве апруцянеў І тады ."

"І тады пачалася вайна?"

"Так, на жаль, выдра меў узнагароды"

"Хто перамог у гэтай вайне?"

"Перамагла, канешне, наша дзяржава Дзеля гэтай перамогі трыста шэсцьдзесят дзевяць тысяч пяцьсот капчакоў загінулі геройскай смерцю на ратным полі Аднак панесеныя намі страты нішто ў параўнанні са стратамі варожага боку Сёння футравыя вырабы ў нашай краіне — гэта пераважна выдра У час вайны, акрамя вытворчасці шкла, я займаўся пастаўкай на фронт каменнавугальнага шлаку".

"А навошта на фронце каменнавугальны шлак?"

"Для харчавання зразумела Мы, капы, калі галадаем, то ядзім што патрапіць"

"І ўсё ж Вы толькі не крыўдуйце — пасылаць такое франтавікам У нашай краіне падобныя дзеянні выклікалі б гнеў і абурэнне"

"І ў нас, несумненна, было б тое самае Але ж калі я адкрыта называю гэтае дзеянне злом, дык ужо ніхто не стане пярэчыць і скандаліць Філосаф Маг неяк сказаў· "Прызнай зло, якое ты ўчыніў, і гэтае зло больш не будзе злом " Акрамя жадання прыбытку ўва мне палымнела таксама любоў да радзімы".

У гэты момант да нас падышоў клубны лёкай Ён пакланіўся Гейлу і дэкламатарскім тонам абʻявіў "У суседстве з вашым домам пажар"

"Па... Пажар!"

Успуджаны весткаю Гейл імгненна ўскочыў на ногі Устаў таксама і я А лёкай спакойна дадаў· "Агонь патушылі ўжо" На твары Гейла, які праводзіў лёкая поглядам, застыла слязлівая ўсмешка Зорачы ў гэты твар, я міжволі адчуў нянавісць да дырэктара шклозавода Ды толькі цяпер важны капіталіст меў выгляд звычайнага капы. Я выцягнуў з вазачкі зімовыя ружы і ўручыў іх Гейлу "Хоць агонь патушылі, аднак ваша спадарыня жона, пэўна, вельмі ўзрушана. Вазьміце гэтыя кветкі і вяртайцеся дадому"

"Дзякую!" Гейл схапіў маю руку і, самазадаволена ўхмыльнуўшыся, ціха прамовіў: "Суседні дом таксама належыць мне Значыць, я атрымаю страхавую кампенсацыю"

Гейлава ўхмылка Я і зараз выразна помню гэтую ўхмылку Немажліва было тады ні грэбаваць ёю, ні ненавідзець яе

## 10

"Што здарылася? У цябе зноў панылы настрой". З такімі словамі я звярнуўся да студэнта Рапа. Гэта было на другі дзень пасля пажару. Мы сядзелі ў гасцёўні майго дамка Я курыў папяросу, а Рап, уладкаваўшыся ў крэсле і паклаўшы левую нагу на правую, спустошаным позіркам утаропіўся ў падлогу Ён схіліўся так нізка, што не відаць было яго згнітай дзюбы.

"Рап, што з табой?" — зноў запытаў я

"Ды нічога асаблівага — прамовіў ён сумным гугнявым голасам Сёння гляну ў я праз вакно і без усякага змыслу кажу сабе "О, расянка-мухалоўка ўжо расцвіла" Нечакана мая малодшая сястра змянілася з твару і гнеўна закрычала: "Дык я, па-твойму, расянка-мухалоўка?" А маці, якая вельмі пялегуе дачку, накінулася на мяне з лаянкай"

"Чаму словы "расянка-мухалоўка" твая сястра ўспрыняла з такой непрыязню?"

"Мабыць, яна падумала, што я меў на ўвазе яе гоны за самцамі. Між тым умяшалася яшчэ цётка, якая была не ў ладах з маёю маці. Галас праз гэта ўзмацніўся Сварку пачуў мой бацька-прапойца і пачаў дубасіць і вінаватых і невінаватых У дадатак да ўсёй злыбеды малодшы брат сцягнуў матчын кашалёк і знік. напэўна ў кіно ці іншае падобнае месца А я а я сапраўды.. "

Рап замоўк і, закрыўшы твар абедзвюма рукамі, заплакаў Мне, натуральна, стала яго шкада. Адначасова я прыгадаў, з якой пагардай ставіўся паэт Ток да існуючага ў Капчакіі сямейнага ўкладу Паляпаўшы студэнта па плячы, прыняўся, наколькі мог, суцяшаць і супакойваць яго

"Ну, хопіць Падобнае здараецца ўсюды і часта Не вешай дзюбы!"

"Ды калі б калі б яна хоць не згніла ў мяне"

"Тут ужо нічога не зробіш Кінь мардавацца Пойдзем лепей да Тока"

"Ток адвярнуўся ад мяне, таму што я не такі рашучы, як ён, і не магу кінуць сваёй сям'і".

"Тады пойдзем да Крабака".

Пасля таго канцэрта мы з Крабакам пасябравалі І я вырашыў наведаць вялікага музыканта, узяўшы з сабою Рапа. Крабак жыў шыкоўней, чымся Ток, але не настолькі шыкоўна, як капіталіст Гейл У пакоі, застаўленым усялякімі рарытэтамі, а менавіта тэракотавымі фігуркамі і персідскай керамікай, стаяла турэцкая канапа, на якой пад уласным партрэтам выбітны музыка любіў забаўляцца са сваімі дзецьмі. Цяпер, аднак, музыкант сядзеў надзвычай пануры, скрыжаваўшы рукі на грудзях. На падлозе валяліся шматкі паперы. Студэнт Рап у кампаніі з паэтам Токам часам прыходзіў сюды і, зразумела, быў знаёмы са славутым музыкатворцам. Але гэтым разам Крабак унушаў майму спадарожніку боязь, і ён, ветліва пакланіўшыся, сціпла ўмасціўся ў куточку пакоя Павітаўшыся, я тут жа запытаў знакамітага музыканта.

"Крабак, што здарылася?"

"Што здарылася? Доўбень гэты, крытык, сцвярджае, што мая лірыка ў параўнанні з лірыкай Тока нікуды не варта"

"Ты ж музыкант"

"Музыкант Гэткія закіды ў мой бок можна было б вытрываць. А ён жа даводзіць яшчэ, што я ў параўнанні з Рокам не заслугоўваю нават звацца музыкантам"

Рок не быў, на жаль, сябрам клуба звышчалавекаў, і я ні разу не размаўляў з ім Праўда, мне даводзілася часта бачыць на фатаграфіях яго валявое аблічча з задраным носам

"Рок таксама геній Адно што Рокава музыка не мае той сучаснай палымянай страснасці, якой поўніцца твая музыка"

"Ты на самой справе так думаеш?"

"Безумоўна".

Крабак нечакана ўскочыў, схапіў адну са сваіх танагрскіх статуэтак і шпурлянуў яе на падлогу Нема закрычаў успуджаны Рап і кінуўся быў на ўцёкі Музыкатворца падаў знак рукою, каб студэнт і я супакоіліся, і холадна сказаў· "Твой музычны слых — гэта слых прасталюдзінаў А я .. я баюся Рока".

"Не прыбядняйся".

"Ды хто прыбядняецца? Калі ўжо на тое пайшло, то сціплым я выдаваў бы сябе куды больш перад крытыкамі, чымся перад табою Я Крабак, я геній І ў гэтых адносінах Рока не баюся"

"А чаго ты баішся?"

"Чагосьці рэальнага, але невядомага. ну, скажам, зоркі, якая вызначае лёс Рока"

"Я нічога не разумею"

"Зараз патлумачу, і ты зразумееш Рок не паддаецца майму ўплыву Што ж датычыцца мяне, то я так ці іначай увесь час знаходжуся пад уплывам Рока"

"Успрымальнасць твая "

"Ты выслухай мяне! Успрымальнасць ці нешта падобнае тут ні пры чым. Рок працуе спакойна і ставрае тое, што можа ствараць толькі ён адзін Акурат гэта і нервуе мяне Калі глядзець на рэчы вачыма Рока, дык нас, мусіць, падзяляе адлегласць у дзесяткі міль"

"Аднак ваша гераічная сімфонія, сэнсэй..." — паспрабаваў было пярэчыць Рап.

Вузенькія вочкі Крабака звузіліся яшчэ больш, і ён грэбліва паглядзеў на студэнта.

"Памаўчы! Я ведаю Рока. Я ведаю Рока лепей, чым усе тыя сабакі, што лашчацца ў яго каля ног"

"Ну, добра, супакойся"

"Калі б я мог супакоіцца. Я толькі і думаю аб ім. Нейкая невядомая нам істота паставіла Рока на маім шляху, каб з мяне, Крабака, паздзекавацца. Гэта вельмі добра ведае філосаф Маг, нягледзячы на тое, што ён пры святле свайго каляровага ліхтарыка чытае адно старадаўнія кнігі".

"Адкуль такая выснова?"

"Пазнаёмся з яго найноўшым творам "Слова ідыёта"

Крабак падаў, ці, дакладней, шпурлянуў мне кнігу Потым ён скрыжаваў рукі на грудзях і бесцырымонна прамовіў· "На сягонняшні дзень хопіць. Да пабачэння"

Неўзабаве я і зусім ужо замаркочаны Рап апынуліся на вуліцы А тут, як заўсёды, мноства пешаходаў; у засені букавых алеяў рады ўсялякіх шапікаў і магазінчыкаў Мы ішлі моўчкі Раптам насустрач крочыць доўгавалосы паэт Ток. Убачыўшы нас, ён дастаў са складкі на жывоціку насоўку і выцер ёю некалькі разоў свой нос.

"Э, колькі часу мы не бачыліся А я збіраюся наведаць Крабака Даўненька ў яго не быў"

Мне не хацелася, каб гэтыя два дзеячы мастацтва пасварыліся, і я намёкамі даў зразумець Току, што Крабак зараз у дрэнным настроі

"Вось як! Тады не пайду Крабак жа неўрастэнік. Мяне таксама тыдні тры ўжо мучыць бяссонніца"

"Ці не хочаш прагуляцца з намі?"

"Ніякіх прагулак на сягоння. Ой!" — закрычаў раптам Ток і моцна абхапіў маю руку. Па ўсім ягоным целе выступіў халодны пот

"Што з табою?"

"Мне падалося, што з вакна вунь таго аўтобуса высунула галаву зялёная малпа".

Крыху занепакоены, я параіў паэту звярнуцца да доктара Чака. Ды што я далей ні гаварыў, Ток не падаваў аніякіх прыкмет згоды. Больш таго, ён пачаў неяк падазрона глядзець на нас, а потым нечакана прамовіў: "Я сапраўды ніколі не быў анархістам. Прашу вас, не забывайцеся. Да пабачэння. Ад Чака ўсцеражыцеся мяне, калі ласка"

Разгубленыя і збянтэжаныя, мы тапталіся на месцы і глядзелі ўслед Току Мы. . не, ужо не мы, бо студэнт Рап неўзаметку для мяне апынуўся пасярод вуліцы і, нахіліўшы галаву, глядзеў праз шырока расстаўленыя ногі на бясконцую плынь машын і пешаходаў. "Можа, і гэты капа з`ехаў з глузду", — падумаў я і наблізіўся да студэнта, каб яго падняць і выпрастаць.

"Ты, здаецца, не шуткуеш А калі так, дык што ты робіш?"

Рап некалькі разоў працёр вочы і неспадзявана для мяне зусім спакойна адказаў: "Нічога асаблівага. Проста мяне апанаваў нейкі сумны настрой. Вось і рашыў я паглядзець на сусвет, калі ён перавернуты дагары нагамі Але сусвет не змяніўся".

### 11

**Некаторыя выказванні з кнігі філосафа Мага "Слова ідыёта".**

*

Ідыёт заўсёды думае, што ўсе, акрамя яго самога, ідыёты

*

Прыроду мы любім і за тое, што яна не адчувае да нас ні нянавісці, ні зайздрасці

*

Самае разумнае ў тваім існаванні — гэта не парушаць норавы і звычкі пэўнага часу нават у нязначным і, разам з тым, грэбаваць і пагарджаць імі.

*

Найбольш мы хочам ганарыцца рэчамі, якіх не маем.

*

Ніхто не стане пярэчыць і выступаць супроць разбурэння ідалаў І ў той жа час ніхто не адмовіцца ад магчымасці самому стаць ідалам. Але спакойна цараваць на сваім троне могуць толькі асобы, якім багі аказваюць найвышэйшую міласць, а менавіта ідыёты, зладзеі і героі войнаў (Апошняе Крабак падкрэсліў пазногцем.)

*

Магчыма, што ўсе ідэі, неабходныя нам у жыцці, былі выказаны ўжо тры тысячы гадоў таму. Цяпер застаецца толькі падкласці ў новае цяпельца старых дроў

*

Мы, як правіла, не ўсведамляем нашых асаблівасцяў

*

Калі шчасце суправаджаецца болем, а мір суправаджаецца нудотай, дык...

*

Бараніць самога сябе значна цяжэй, чым бараніць каго-небудзь іншага. Хто сумняваецца, няхай скіруе сваю ўвагу на адваката

*

Ганарлівасць, пажаднасць, недаверлівасць з'яўляюцца прычынай усялякіх ліхадзействаў, што ўзніклі за апошнія тры тысячагоддзі. Яны ж з'яўляюцца, мабыць, і прычынай усялякіх дабрадзействаў

*

Адно толькі абмежаванне матэрыяльных патрэбаў не абавязкова прыводзіць да міру Мы павінны абмяжоўваць і духоўныя патрэбы (На гэтым месцы Крабак таксама пакінуў след ад свайго пазногця.)

*

Мы больш нешчаслівыя, чым людзі, таму што апошнія не дасягнулі такога развіцця, якога дасягнулі капы (Калі я чытаў гэтыя словы, то міжвольна ўсміхнуўся.)

*

Рабіць — значыць магчы рабіць. Магчы рабіць — значыць рабіць. У рэшце рэшт жыццё наша не можа выйсці за межы такога заганнага круга Яно менавіта ірацыянальнае.

*

Бадлер, звар'яцеўшы, сфармуляваў уласны светапогляд адным словам — "жанчына" Але такое самавызначэнне асобы не з'яўляецца абавязковым Талент, ці, дакладней, паэтычны талент, забяспечваў Бадлеру нармальнае існаванне Цалкам даверыўшыся сваёй геніяльнасці, паэт, аднак, забыў слова "страўнік" (І ў гэтым месцы Крабак пакінуў след ад пазногця.)

*

Калі мы спадзяемся толькі на розум, то, як гэта лагічна вынікае, нам давядзецца адмаўляць уласнае існаванне Вальтэр, які абагаўляў розум, пражыў шчаслівае жыццё Гэты факт яскрава сведчыць аб тым, што людзі ў сваім развіцці стаяць ніжэй, чым капы

### 12

Аднойчы халаднаватым надвячоркам, калі мне надакучыла ўжо чытаць "Слова ідыёта", я рашыў наведаць філосафа Мага. На рагу нейкай глухой вулачкі заўважаю раптам капу. Худы, быццам камар, ён у лянівай паставе прыхінуўся да сцяны Не, я не памыліўся. Гэта быў той самы капа, які ўкраў калісьці маю самапіску "Вось дык удача", — падумаў я і запыніў здаравеннага паліцыянта, які крочыў якраз міма мяне.

"Затрымайце вунь таго капу З месяц таму ён украў у мяне аўтаручку".

Паліцыянт падняў дубінку (у гэтай краіне паліцыянты заместа шабляў узброены цісавымі палкамі)

"Гэй ты!" — аклікнуў ён капу Я думаў, што злодзей кінецца бегчы Але той на дзіва спакойна пайшоў насустрач паліцыянту Больш таго, скрыжаваўшы рукі на грудзях, капа зырыў на нас з нейкім нахабствам Паліцыянта, аднак, гэта не раззлавала Са складкі на жываце ён выцягнуў запісную кніжку і пачаў здымаць допыт.

"Прозвішча?"

"Грук".

"Дзе працуеш?"

"Да нядаўняга часу працаваў паштальёнам".

"Добра. Гэты чалавек сцвярджае, што ты ўкраў ягоную самапіску".

"Так, з месяц таму я ўкраў ягоную самапіску"

"Навошта?"

"Я хацеў аддаць гэтую цацку свайму дзіцяці, каб яно пазабаўлялася"

"А што дзіцё?"

Цяпер паліцэйскі глядзеў на капчака пранізлівым позіркам

"Ужо тыдзень, як памёрла"

"У цябе ёсць пасведчанне аб смерці?"

Са складкі на жываце худы капа дастаў ліст паперы Паліцыянт прабег вачыма аркуш, іранічна ўсміхнуўся і паляпаў капчака па плячу

"Добра. Можаш ісці Шкадую, што патурбаваў цябе"

Аслупянелы і ашаломлены, я пазіраў на паліцыянта Худы капа павярнуўся да нас спіною і, мармычучы нешта, падаўся прэч Нарэшце я ачомаўся і запытаў паліцыянта: "Чаму вы не затрымалі гэтага капу?"

"Капа невінаваты"

"Але ж ён украў маю самапіску "

"Украў, каб даць свайму дзіцяці пагуляць з гэтай цацкай Ды яно неўзабаве памёрла. Калі ж вы сумняваецеся ў невінаватасці капчака, прачытайце артыкул адна тысяча дзвесце восемдзесят пяць Крымінальнага кодэкса"

Кінуўшы на развітанне гэтыя словы, паліцыянт шпаркаю хадою пакрочыў далей Што мне было рабіць? Я паспяшаўся да Мага, увесь час паўтараючы пра сябе "Артыкул адна тысяча дзвесце восемдзесят пяць Крымінальнага кодэкса"

Філосаф Маг любіў гасцей У слабаасветленым пакоі сядзелі і курылі суддзя Беп, доктар Чак і дырэктар шклозавода Гейл. Дым слупом падымаўся да сямікалярова га ліхтарыка. Прысутнасць суддзі Бепа была для мяне вельмі дарэчы Як толькі я сеў у крэсла, то адразу ж задаў яму пытанне Але запытаўся не пра артыкул дзвесце восемдзесят пяты, а пра іншае

"Бепу-кун, прабачце за турботы Ці караюць у вашай краіне злачынцаў?"

Беп, не спяшаючыся, выпусціў струменьчык дыму, які ён глынуў ад сваёй сігары ў залатым муштуку, і абыякавым тонам адказаў· "Караюць, вядома Практыкуецца нават смяротная кара"

"А ў мяне вось месяц прыблізна таму "

І я дэталёва расказаў аб тым, што здарылася, і пацікавіўся пра змест артыкула тысяча дзвесце восемдзесят пятага Крымінальнага кодэкса

"Гм, — прамовіў Бэп — Гэты артыкул гучыць прынамсі так

"Злачынца, якое б злачынства ён ні здзейсніў, не падлягае пакаранню, калі перасталі існаваць абставіны, па прычыне якіх вышэйпамянёны злачынца здзейсніў вышэйзгаданае злачынства" У вашай справе названы капа з яўляўся бацькам да пэўнага часу Аднак зараз ён бацькам не з`яўляецца Праз гэта рушыцца і аснова абвінавачання ў злачынстве"

"Дык гэта ж абсурд!"

"Кіньце вашыя жартачкі Абсурдна якраз атаясамліваць капу, што быў калісьці бацькам, з капчаком, які цяпер не з яўляецца бацькам Дарэчы, японскія законы не бачаць тут аніякай розніцы Нам гэта вельмі смешна. Хе-хе-хе-хе-хе, хе-хе-хе-хе-хе "

Беп адкінуў сігару ды так і застаўся з абмяклай халоднай усмешкай на твары У нашую размову ўмяшаўся доктар Чак, знаёмства якога з юрыспрудэнцыяй было вельмі павярхоўным Паправіўшы пенснэ, ён задаў мне такое пытанне "А ў Японіі пакаранне смерцю існуе?"

"Канешне, існуе, пакаранне смерцю менавіта праз павешанне"

Раўнадушша Бепа мяне трохі злавала, таму я з'едліва запытаў· "А ў вашай краіне пакаранне смерцю дзейсніцца больш цывілізавана, чым у Японіі?"

"Зразумела, — адказаў Беп тым жа спакойным тонам — Смяротная кара праз павешанне ў нас наогул не практыкуецца Бывае, што карыстаюцца электрычнымі прыстасаваннямі, а ў цэлым абыходзіцца без іх. Злачынцу проста называюць найменне ягонага злачынства"

"І капа ад гэтага паміраe?"

"Хоць-не-хоць, а памірае Мы, капы, маем больш тонкую нервовую сістэму ў параўнанні з вашай нервовай сістэмай"

"Гэтым спосабам карыстаюцца не толькі выканаўцы смяротнага прысуду, але і розныя зламыснікі", — заўважыў дырэктар шклозавода Гейл У рознакаляровых праменьчыках ліхтарыка твар яго свяціўся фіялетавай усмешкаю "Мяне вось не так даўно адзін сацыяліст абазваў злодзеем, дык я адразу зваліўся ад сардэчнага прыступу"

"Апошняе здараецца нават часцей, чым можна сабе ўявіць. Акурат праз такі злачын загінуў адзін мой знаёмы адвакат"

Я абярнуўся на голас капчака, які ўмяшаўся ў размову. Гэта быў філосаф Маг Як заўсёды, ён іранічна ўсміхнуўся і, ні на кога не гледзячы, працягваў далей: "Нехта абазваў адваката жабай Вы ж ведаеце, што ў нашым спадарстве слова "жаба" азначае таксама "пачвара" Дзень у дзень адвакат думаў пра сябе· "Дык жаба я ці не жаба? А мо і сапраўды жаба" У рэшце рэшт ён памёр ад такіх думак"

"Гэта проста самазабойства", — заўважыў я

"Так яно так, але той нягоднік абазваў адваката жабай з намерам забіць яго. Калі па-вашаму гэта ўсё ж самазабойства "

У гэты момант за сцяной, пэўна, у кватэры Тока, ляснуў глухі рэвальверны стрэл

## 13

Ток ляжаў на спіне сярод вазонаў з высакагорнай расліннасцю У руцэ ён сціскаў рэвальвер Са сподачка на галаве цякла кроў Побач з Токам, унурыўшы твар у ягоныя грудзі, заходзілася ад гучнага плачу самачка Я ўзяў самачку на рукі (хоць увогуле я не люблю дакранацца да слізготкай скуры капчакоў) і запытаў яе· "Што здарылася?"

"Сама не ведаю, што здарылася. Ён пісаў нешта і раптам стрэліў сабе ў галаву А-а, як жа мне цяпер жыць? Qur-r-r-r, qur-r-r-r" (Так плачуць капы )

Дырэктар шклозавода Гейл сумна паківаў галавой і, звяртаючыся да суддзі Пепа, прамовіў· "Што ні кажы, а гэта ўсё вынікі яго пераборлівасці"

Суддзя Пеп нічога не адказаў і закурыў сігару ў залатым муштуку. Доктар Чак, укленчыўшы каля Тока, агледзеў рану, а потым прафесійным тонам аб'явіў нам пяцярым (дакладней, аднаму чалавеку, гэта значыць мне, і чатыром капчакам)

"У паэта была хранічная хвароба страўніка. Адно ўжо гэта магло быць прычынай раптоўнай меланхоліі"

"А во і запіска", — прамармытаў філосаф Маг, як бы апраўдваючы сябе за тое, што ён узяў са стала нейкую паперку. Усе (за выняткам аднаго толькі мяне) павыцягвалі шыі, стараючыся паверх шырокіх плячэй Мага зазірнуць у цыдулку.

*Ад свету марнага каб найдалей, хачу ў даліну,*
*Дзе пікі скал грувасцяцца над ёй;*
*Дзе сярод гор мігціць люстэрка вод празрыстых*
*І водарыць цудоўным пахам квецень траў..*
*Туды, туды*
*Хачу, імкну туды!*

Маг абярнуўся да нас і з кволай усмешкай прамовіў· "Дык гэта ж ён у Гётэ сплагіяціў Песня "Міньён" Ток жыццё сваё паконччыў самагубствам яшчэ і таму, што вытхнуўся як паэт"

Раптам аднекуль пад'ехаў на сваім аўтамабілі Крабак. Уваходзячы ў пакой, музыкант на нейкі момант затрымаўся ў дзвярах, калі ўбачыў, што здарылася Потым ён рушыў да нас і раздражнёна спытаў Мага "Гэта яго тэстамент?"

"Не, гэта яго апошні верш"

"Верш?"

Маг, спакойны, як заўсёды, падаў яму накід паэмы. Валасы ў Крабака сталі дыба. Не зважаючы ні на кога, музыкант аж еў вачыма напісанае Заняты сваім, ён амаль не адказваў на пытанні Мага.

"Што вы думаеце пра смерць Тока?"

"Ад свету марнага каб найдалей". Я таксама калі-небудзь памру. "Хачу, імкну ў даліну".

"Ці ж вы не былі адным з блізкіх сяброў Тока?"

"Блізкіх сяброў. ? Дык ён жа быў адзінокім самотнікам . "Хачу, імкну ў даліну, ад свету марнага каб найдалей" . І ён быў такім няшчасным "

"Няшчасным?"

"Дзе сярод гор мігціць люстэрка вод празрыстых" . Вы ўсе тут шчаслівыя .. "Дзе пікі скал грувасцяцца. ."

Самка Тока ўсё яшчэ плакала. Мне стала шкада небараку, і я, асцярожна абняўшы яе за плечы, адвёў гаротную да канапы, якая стаяла ў кутку пакоя Там весела смяялася дзіця У сваім двухтрохгадовым узросце яно нічога не цяміла з таго, што адбывалася. Я пачаў забаўляць капчанё, замяняючы яму ягоную маці Неўзабаве адчуў, што на вачах у мяне навярнуліся слёзы За ўвесь час майго знаходжання ў краіне капчакоў я плакаў адзін толькі гэты раз.

"Шкада сям ю такога эгаіста. Ён не падумаў пра яе лёс", — заўважыў капіталіст Гейл

"Ток зусім не памысліў, якія наступствы будуць пасля ягонай смерці", — дадаў суддзя Пеп і закурыў новую сігару

Нас ашаломіў зычны голас музыканта Крабака. З тэкстам паэмы ў руцэ ён закрычаў: "Цудоўна! Цудоўна! Атрымаецца дзівосны пахавальны марш" Бліскаючы вузенькімі шчылінкамі вачэй, Крабак таропка пацісну Магаву руку і лецьма кінуўся да дзвярэй А перад дзвярамі сабралася ўжо гурма суседзяў, якія з цікавасцю заглядвалі ў дамок. Бесцырымонна расштурхаўшы зявак, музыкант ускочыў у свой аўтамабіль. Узвыў матор, і машына знікла

"Гэй, вы!" Няма чаго тут заглядваць!" То быў голас суддзі Пепа. Ён узяў на сябе ролю паліцыянта і стаў выганяць капчакоў, якія стоўпіліся на падворку. Потым суддзя старанна зачыніў дзверы дамка. Мабыць, з гэтай прычыны ў пакоі зрабілася надзвычай ціха. Сярод запанаваўшай цішыні, напоўненай водарам кветак высакагорнай расліннасці і пахам крыві Тока, мы пачалі раіцца, што рабіць далей. Адзін толькі філосаф Маг безуважнымі вачыма пазіраў на мёртвае цела паэта і думаў свае подумкі. Я паляпаў Мага па плячу і запытаў: "Аб чым думаеце?"

"Аб жыцці капчакоў"

"Аб жыцці капчакоў?"

"Акурат аб гэтым. Бо што ні кажы, а дзеля дасканаласці нашага жыцця ." — тут ён, нібы саромеючыся, панізіў голас і прамовіў· ". мы, капчакі, павінны верыць у вышэйшую сілу, якая існуе па-за межамі капчакоўскага "Я"

## 14

Апошнія словы філосафа Мага абудзілі ўва мне жаданне памысліць аб рэлігіі Праўда, сам я матэрыяліст і рэлігію ніколі сур'ёзна не ўспрымаў А зараз пад уражаннем смерці Тока ў галаву завіталі думкі аб тым, што наогул уяўляе сабой рэлігія капчакоў. З гэтым пытаннем я звярнуўся да студэнта Рапа

"У нас, — адказаў Рап, — ёсць такія

веравызнанні, як хрысціянства, будызм, мусульманства і нават вогнепаклонства. Але найбольш уплывовай рэлігіяй з`яўляецца, бадай, мадэрнізм Яго называюць таксама "рэлігіяй жыцця".

(Можа, пераклад "рэлігія жыцця" не зусім дакладны У капчакоў гэта рэлігія мянуецца словам "Quemoocha" Канчатак "cha" мае тое самае значэнне, што ангельскае "ism" Першасная форма "quemal" слова "quemoo" азначае не проста "жыць", а "жыць у сэнсе добра паесці, выпіць і суполіцца" )

"Ты хочаш сказаць, што ў гэтай краіне ёсць рэлігійныя задзіночанні, а таксама храмы для набажэнства?"

"Не шуткуйце Вялікі храм сучаснай рэлігіі лічыцца самым грандыёзным збудаваннем Дарэчы, ці не пайсці нам туды і сёе-тое паглядзець?"

Было мяккае, хоць і хмарнае надвор'е Рап, горды сваёю місіяй, павёў мяне ў Вялікі храм рэлігіі Сапраўды, будыніна тая была разоў мо ў дзесяць большая, чым царква Святога Міколы ў Токіо Яна спалучала ўсе магчымыя архітэктурныя стылі. Калі я стаяў перад гэтым збудаваннем і глядзеў на высокія вежы і шматлікія шпілі, што, нібы шчупальцы, цягнуліся ў неба, мне зрабілася ніякавата Вось і галоўная брама (У параўнанні з ёю кожны з нас бачыўся драбнюткай, нікчэмнай істотай!) Хвілін колькі Рап і я, задраўшы галовы, пазіралі на храм, які нагадваў нейкую агромністую пачвару

Інтэр'ер храма таксама ўражваў Сярод карынфскіх калон споўдаліся шматлікія паломнікі І яны, як і мы, выглядалі тут надзвычай маленькімі. Неўзабаве нам трапіўся сівы лядашчы капа Рап злёгку схіліў галаву і пачціва прамовіў "Вельмі рады бачыць вас у добрым здароўі"

Капа — гэта быў старшы бонза — ветліва пакланіўся. "А, Рапу-сан І вы, як заўсёды . " Ён раптам запнуўся, бо заўважыў, канешне, Рапаву згнітую дзюбу "Э-э, ва ўсякім разе выглядаеце вы няблага. З якой нагоды вы сёння. ."

"Сёння я суправаджаю вось гэтага пана Вы, напэўна, ужо чулі .." І Рап стаў падрабязна расказваць пра мяне Па ўсёй верагоднасці, мой кампаньён, які даўно ўжо не прыходзіў у храм, хацеў сваім аповедам яшчэ і апраўдацца

"Зрэшты, ці не мог бы я папрасіць вас паказаць гэтаму пану храм?"

З паблажлівай усмешкай на твары бонза павітаўся са мною і павольным жэстам рукі паказаў на алтар, які знаходзіўся перад намі

"Ахвотна буду суправаджаць вас. Баюся толькі, што мае тлумачэнні нічога карыснага вам не дадуць. Мы, вернікі, пакланяемся Дрэву жыцця, якое высіцца на тым алтары Вы бачыце на дрэве растуць залатыя і зялёныя плады. Першыя — гэта плады дабра, а другія — плады зла "

Я слухаў тлумачэнні бонзы, і мне зрабілася нудна Мабыць, таму, што словы, якія прамаўляў абыходлівы стары, гучалі як застарэлая прыпавесць. Я, вядома, рабіў выгляд, быццам з цікавасцю слухаю спавешчанне бонзы, употайкі ж не забываў зіркаць на інтэр'еры Вялікага храма.

Карынфскія калоны, гатычныя зводы, падлога з арабскім шахматным узорам, малітоўныя столікі, імітуючыя стыль Secession.. Гэта вычварная гармонія стварала нейкую дзікую, варварскую прыгажосць. Увагу маю прыцягнулі мармуровыя бюсты, што месціліся па абодва бакі ў нішах сценаў І вось дзіва твары бюстаў падаліся мне надзвычай знаёмымі Але ў сапраўднасці ніякага дзіва не было Пасля таго як сагнуты ў паясніцы састарэлы бонза закончыў свае тлумачэнні аб Дрэве жыцця, ён падвёў мяне і Рапа да бюста, які знаходзіўся ў нішы справа ад нас, і прамовіў "Гэта адзін з нашых святых — Стрынберг. Бунтар супроць усяго Кажуць, што ён вельмі пакутаваў, але пазней, нібыта, знайшоў паратунак у філасофіі Сведэнборга. Ды, па праўдзе кажучы, тая філасофія не дала пакутніку збавення Ён, таксама як усе мы, вызнаваў рэлігію жыцця, ці, дакладней, яму заставалася толькі адно зрабіцца паслядоўнікам віталізму. Пачытайце хоць бы "Легенды", якія пакінуў нам гэты святы. У названай кнізе ён прызнаецца, што спрабаваў пакончыць жыццё самагубствам"

Крыху засмучоны, я перавёў свой позірк на наступную нішу. У нішы стаяў бюст немца з тоўстымі вусамі

"А вось Ніцшэ — аўтар "Заратустры". Гэты святы шукаў збавення ў звышчалавеку, якога сам жа стварыў Аднак, расчараваўшыся ў ім, страціў розум Калі б Ніцшэ не звар`яцеў, то, напэўна, не аказаўся б цяпер сярод нашых святых"

Бонза трохі памаўчаў, затым падвёў нас да трэцяй нішы. "А гэта наш трэці святы — Талстой. Ён больш, чым хто іншы, мардаваў сябе пакаяннямі. Але, як прыроджаны арыстакрат, не любіў паказваць свае пакуты цікаўнаму натоўпу Талстой стараўся верыць у Хрыста, у якога, па сутнасці, верыць немагчыма Публічна ён заяўляў, што вызнае менавіта Хрыстову веру. Ды на зыходзе свайго жыцця небарака не меў больш моцы заставацца трагічным ілгуном. Часам яго апаноўваў страх, калі ён глядзеў на бэльку столі ў сваім рабочым кабінеце І ўсё ж такі жыццё самагубствам не скончыў, інакш не быў бы цяпер у ліку нашых святых"

Чацвёртую нішу займаў бюст японца Я ўзіраўся ў твар свайго суайчынніка і адчуваў тугу па родным краі

"Гэта паэт Кунікіда Допа. Ён вельмі добра перадаў пачуцці згалелага чорнарабочага, што кінуўся пад колы цягніка і загінуў. Пэўна, далейшыя тлумачэнні былі б залішнімі. Паглядзіце зараз пятую нішу".

"Ці не Вагнэр гэта?" — запытаў я.

"Так, Вагнэр. Рэвалюцыянер, сябра караля На схіле жыцця святы Вагнэр, перш чым брацца за едзіва, нават маліўся. Аднак ён быў хутчэй паслядоўнікам віталізму, чым хрысціянства. Як вынікае з пісем Вагнэра, зямныя пакуты не аднойчы даводзілі небараку амаль да самагубства"

Мы спыніліся каля шостай нішы

"Вось таксама святы — друг святога Стрынберга. Французскі мастак, былы камерсант. Кінуў жонку з процьмай дзетак і ажаніўся з чатырнаццацігадовай таіцянкай. У ягоных буйных жылах юрыла кроў марака Звярніце ўвагу на вусны святога. На іх засталіся сляды мыш`яка ці якогась іншага едкага рэчыва У сёмай нішы Ды вы, мабыць, ужо стаміліся То праходзьце, калі ласка, сюды"

На мяне сапраўды найшла нейкая млявасць. Неўзабаве Рап і я крочылі ўслед за бонзам па калідоры, насычаным духмянымі пахамі, і хутка апынуліся ў невялікім пакоі На покуці ўзвышалася статуя чорнай Венеры, а ля яе ног ляжала гронка вінаграду Гэта мяне ашаломіла Я думаў, што ўбачу сціплую манаскую келлю, пазбаўленую ўсякай аздобы, а тут Бонза, мусіць, заўважыў маю збянтэжанасць і, перад тым як запрасіць нас абодвух сесці, бадай, са спачуваннем прамовіў "Прашу вас, не забывайце, што нашай рэлігіяй з'яўляецца віталізм. Вучэнне нашага бога, а менавіта філасофія Дрэва жыцця, гаворыць: "Жывіце кожны сабе на ўцеху"

Рапу-сан, вы паказвалі гэтаму пану наша Святое пісанне?"

"Шчыра кажучы, я і сам амаль не чытаў яго", – сумленна прызнаўся студэнт і пачухаў спадачак на макушы галавы.

"Значыцца, вы яшчэ не ўсё разумееце, — прамовіў бонза, працягваючы ветліва ўсміхацца. — Наш бог стварыў свет за адзін дзень (Дрэва жыцця — хоць і дрэва, але яно ўсё можа). Гэты ж бог стварыў капчакіню, дакладней — самку, якая адразу пачала шукаць самца, таму што нудзілася ў адзіноце. І тады наш бог, зжаліўшыся над самотнаю капчакіняю, узяў яе мазгі і зрабіў капчака Затым бог сказаў ім "Ешце ўволю, пладзіцеся і жывіце, як душа жадае "

Падчас аповеду бонзы паўстаў у маёй памяці паэт Ток. І ён, падобна мне, быў, на няшчасце, атэістам Пакольні я чалавек, а не капа, дык маё няведанне Рэлігіі жыцця можна было неяк апраўдаць. Ток жа, які нарадзіўся і вырас у краіне капчакоў, не мог не знаць Дрэва жыцця. Аднак ён адвергнуў гэтае вучэнне і скончыў жыццё самагубствам. Мне было шкада паэта, таму я перапыніў бонзу і загаварыў пра Тока.

"А-а, гэты паэт! Ён варты жалю і спачування, — сказаў бонза і цяжка ўздыхнуў — Наш лёс вызначаюць вера, асяроддзе і выпадак (Вы можаце далучыць сюды і спадчыннасць.) На сваю бяду, спадар Ток не вызнаваў аніякай веры"

"Напэўна, паэт вам зайздросціў Я таксама зайздрошчу вам Што ж да Рапа, дык ён у сваім юначым узросце "

"Была б у парадку мая дзюба, дык і я, магчыма, зрабіўся б атэістам"

Слухаючы нас, бонза зноў глыбока ўздыхнуў На ягоныя вочы навярнуліся слёзы. Ён засяроджана глядзеў на чорную Венеру.

"Калі гаварыць праўду, то і сам я — гэта мая тайна, і вы нікому яе не выдавайце — не надта веру пакуль у нашага бога. І ўсё ж калі-небудзь малітвы мае. "

У гэты момант насцеж расчыніліся дзверы, у пакой ускочыла вялізная самка і рынулася на бонзу Мы, натуральна, паспрабавалі затрымаць яе. Ды капчакіня вывернулася і адным махам зваліла капу на падлогу "Корч стары! — закрычала яна — Ты і сёння выкраў з майго кашалька грошы, каб налыкацца!"

Нам нічога не заставалася, як пакінуць бонзу і ягоную жонку адных. Мінут праз

дзесяць амаль бегма дабраліся мы да вестыбюля і адтуль па прыступках параднай лесвіцы спусціліся ўніз на вуліцу Некаторы час крочылі моўчкі, затым Рап сказаў· "Пры такіх акалічнасцях бонза мае ўсе падставы не верыць у Дрэва жыцця" Заместа рэплікі на ягонае выказванне я міжвольна азірнуўся і паглядзеў на храм. Шматлікія высокія вежы і круглыя купалы, нібыта бясконцыя шчупальцы, па-ранейшаму цягнуліся ў тое ж захмаранае неба Усё гэта нагадвала міраж у нябёсах пустыні і рабіла на мяне жахлівае ўражанне

## 15

Нешта праз тыдзень зусім выпадкова пачуў я ад доктара Чака ашаламляльную навіну: у доме нябожчыка Тока паявіўся прывід. На тым часе палюбоўніца паэта кудысьці знікла, і дом нашага сябра абсталявалі пад фотастудыю. Чак расказваў, што на ўсіх фотаздымках, якія рабіліся ў майстэрні, за кожным кліентам віднелася няяснае аблічча Тока Зрэшты, Чак быў матэрыяліст і не верыў у жыццё на тым свеце Не дзіва, што мой субяседнік, з'едліва ўсміхнуўшыся, дадаў· "Між іншым, той прывід, як мне здаецца, мае ўсё ж матэрыяльную існасць"

Я таксама не верыў у прывіды і ў гэтых адносінах не надта адрозніваўся ад Чака Але Ток быў маім сябрам, і я адразу кінуўся ў кнігарню, дзе купіў усе газеты і часопісы з артыкуламі ці здымкамі аб фантомных з'яўленнях паэта Разглядваючы фотаздымкі, пераканаўся, што сапраўды за капчакамі і капчакінямі старога і маладога ўзросту цьмяна вырысоўвалася постаць, падобная на Тока Больш аднак, чым тыя фотаздымкі, мяне ўразілі артыкулы пра фантомнае з'яўленне Тока, у прыватнасці адно паведамленне суполкі спірытыстаў Я зрабіў амаль што літаральны пераклад гэтага паведамлення Падаю самае істотнае У дужках змешчаны мае ўласныя заўвагі

### Спавешчанне аб фантомным з'яўленні песняра Тока

*(Часопіс Nr 8274 Суполкі спірытыстаў)*

Наша спірытычная суполка правяла нядаўна экстраардынарнае пасяджэнне з нагоды фантомнага з'яўлення песняра Тока, які скончыў жыццё самагубствам. Пасяджэнне адбылося ў ягоным доме, нумар 251, вуліца... Цяпер у гэтым доме фотастудыя спадара Х. Прысутнічалі (імёны і прозвішчы я прапускаю).

Мы, семнаццаць членаў спірытычнай суполкі, сабраліся пад старшынствам спадара Пека ў 10 гадзін 30 мінут раніцы ў адным з пакояў названай фотастудыі У якасці медыума суправаджала нас вартая найвышэйшага даверу спадарыня Гоп Калі спадарыня Гоп увайшла ў фотастудыю, яна ўмомант адчула прысутнасць духа Цела медыяткі пачало біцца ў сутаргах. Некалькі разоў яе званітавала. Як потым растлумачыла спадарыня Гоп, на яе дзейнічаў пах нікатыну, якім насыціў паветра дух нябожчыка Тока, які любіў курыць моцны тытунь.

У поўным маўчанні мы, члены камісіі спадарыня Гоп, занялі месцы за круглым ста лом. Праз дзве мінуты дваццаць пяць секунд спадарыня Гоп упала ў глыбокі транс, і ёю авалодаў дух песняра Тока Па чарзе, у якой старэйшы па ўзросце задаваў пытанне першым, мы, члены камісіі, мелі наступную размову з духам спадара Тока, які ўвайшоў у спадарыню Гоп.

**Пытанне:** Чаму ты паявіўся як дух?

**Адказ:** Каб спазнаць маю пасмяротную славу.

**Пытанне:** Ці прагнеш ты, ці прагнуць духі наогул пасмяротнай славы?

**Адказ:** Я, па меншай меры хацеў бы такой славы Праўда мне сустрэўся тут адзін паэт-японец, які пагарджаў славаю пасля смерці

**Пытанне:** Ты знаеш імя гэтага паэта?

**Адказ:** На жаль, я забыў ягонае імя. Помню толькі адзін з яго семнаццаціскладовых вершаў

**Пытанне:** Што гэта за верш?

**Адказ:** Старая сажалка  
Жабка ў ваду  
скокнула гук усплёску

**Пытанне:** І гэта, па твойму, добры верш?

**Адказ:** Асабіста я лічу, што верш нядрэнны Калі б яшчэ замяніць у ім "жабку" на "капу", то атрымаўся б верш проста цудоўны

**Пытанне:** На чым грунтуецца гэтая высно箇?

**Адказ:** На тым, што мы, капы, у кожным творы мастацтва імкнемся знайсці саміх сябе

Старшынствуючы спадар Пек просіць усіх прысутных скіраваць сваю ўвагу не на літаратурныя пытанні, а на праблемы, дзеля вырашэння якіх створана адмысловая камісія спірытычнай суполкі.

**Пытанне:** Як жывуць паны духі?

**Адказ:** Жыццё іх панстваў не адрозніваецца ад нашага.

**Пытанне:** У такім разе, ці раскайваешся ты ў здзейсненым самагубстве?





**Адказ:** Ніколькі не раскайваюся. Калі мне надакучыць жыццё духаў, я вазьму пісталет і здзейсню акт самаажыўлення

**Пытанне:** Ці лёгка здзейсніць самаажыўленне?

Дух Тока на гэткае пытанне адказаў уласным пытаннем. Знаёмыя паэта ведаюць: такая манера была для яго зусім натуральнай

**Адказ:** А скончыць жыццё самагубствам лёгка?

**Пытанне:** Доўжыцца жыццё духаў вечна?

**Адказ:** Пра жыццё духаў напісана ўжо столькі, што ніводная канцэпцыя не заслугоўвае даверу. Не забывайце, што сярод нас ёсць, на шчасце, прыхільнікі самых розных рэлігій, у тым ліку хрысціяне, будысты, мусульмане, вогнепаклоннікі.

**Пытанне:** А ты сам якой веры?

**Адказ:** Я заўсёды быў скептыкам.

**Пытанне:** А ў існаванні духаў ты, мажліва, не сумняваешся?

**Адказ:** Цвёрдай упэўненасці, як у вас, у мяне ўсё ж няма.

**Пытанне:** Сяброў у цябе многа?

**Адказ:** Не менш чым тры сотні, прытым з усіх часоў і народаў Сярод іх такія славутасці, як Клейст, Майнлендэр, Вайнінгер.

**Пытанне:** Ці ўсе твае сябры — самагубцы?

**Адказ:** Не. Зусім не абавязкова, каб мае сябры былі самагубцамі Так, напрыклад, Мантэнь, які самагубства толькі апраўдваў, з'яўляецца адным з маіх самых паважаных сяброў А з кодлам малавераў, накшталт Шапэнгаўэра (ён так і не забіў сябе), аніякай дружбы вадзіць не жадаю

**Пытанне:** Як там цяперака Шапэнгаўэр?

**Адказ:** Займаецца распрацоўкай сваёй канцэпцыі спірытычнага песімізму і даследуе праблему дарэчнасці або недарэчнасці акта самаўваскрэсення. Па-мойму, ён зрабіўся больш спакойным памяркоўным, калі даведаўся, што прычынай захворванняў на халеру аказаліся бактэры

Мы, гэта значыць усе члены камісіі, задалі яшчэ некалькі пытанняў. Нас цікавілі звесткі пра лёс духаў Напалеона, Канфуцыя, Дастаеўскага, Дарвіна, Клеапатры, Сак'я Муні, Дэмасфена, Дантэ і другіх. Але, на жаль, нічога асаблівага Ток пра іх не сказаў Потым ён сам пачаў задаваць пытанні, якія мелі дачыненне да яго персоны

**Пытанне:** Што цяпер гавораць пра мяне?

**Адказ:** Адзін крытык назваў цябе другарадным паэтам

**Пытанне:** Гэта, напэўна, адзін з тых пакрыўджаных, каму я не падарыў свайго зборніка вершаў Зрэшты, ці выдадзены поўны збор маіх паэтычных твораў?

**Адказ:** Выдадзены. Купляюць, толькі не надта

**Пытанне:** Праз трыста гадоў, калі перастане дзейнічаць аўтарскае права, дзесяткі тысяч цікаўных чытачоў змогуць набыць гэтыя творы Як пачувае сябе мая сяброўка, з якой я жыў?

**Адказ:** Яна выйшла замуж за кнігавыдаўца Рака.

**Пытанне:** Небарака Мабыць, яшчэ не ведае што ў Рака адно вока штучнае А дзе мае дзеці?

**Адказ:** Яны, здаецца, у дзяржаўным прытулку для сірот

Ток памаўчаў крыху, а потым загаварыў ізноў.

**Пытанне:** Які лёс майго дома?

**Адказ:** Там зараз фотастудыя нейкага фатографа.

**Пытанне:** Што з маім пісьмовым сталом?

**Адказ:** Пра твой пісьмовы стол ніхто нічога не ведае

**Пытанне:** У адной з шуфлядак стала я захоўваў цэлы стос пісем.. Ды вы ўсе настолькі занятыя, што маім пісьмамі ніхто не цікавіцца Аднак ужо надвячорак, і хутка на шае мястоўе духаў патоне ў мораку ночы Я мушу развітацца з вамі Бывайце сябры, бывайце. Бывайце, мае дарагія.

Пры апошніх словах спадарыня Гоп раптоўна ачнулася. Мы, семнаццаць членаў камісіі, перад тварам усявышняга прысяжна сведчым, што такая размова сапраўды адбылася (Вартай поўнага даверу спадарыні Гоп за паслугі ў якасці медыяткі намі выдадзена належная грашовая ўзнагарода адпаведна тарыфу па якім спадарыня Гоп атрымлівала зарплату, калі працавала актрысай )

## 16

Пасля гэтага артыкула маё жыццё сярод капчакоў паступова зрабілася нудным і сумотным. Карцела вярнуцца назад, у краіну сваіх суайчыннікаў Ды колькі я ні шукаў, прагульваючыся, жарало, праз якое зваліўся калісьці сюды, так яго і не знахо дзіў Між тым рыбалоў Баг расказаў мне аднойчы, што на ўскраі Капчакіі ва ўлонні цішы і спакою жыве састарэлы капа, бавячы самотныя дні свае ў чытанні кніг і гранні на жалейцы "А мо акурат ён ведае дарогу, па якой трэба ісці, каб выбрацца адсюль?" — разважыў я і неўзабаве адправіўся да старога капчака

Дабраўшыся да ўскраіны горада, зайшоў у сціплы дамок. Але ўбачыў там не ссівелага дзеда, а юнака дванаццаці, ад сілы трынаццаці гадоў з незацвярдзелым яшчэ сподачкам на макушы галавы. Капа спакойна іграў на жалейцы Я падумаў, што пераблытаў дамкі і не туды патрапіў

Аднак дзеля большай упэўненасці папрасіў капу назваць сваё імя Аказалася, што ён і быў той стары, аб якім расказваў Баг

"Вы падобны на маладзёна. "

"Ты пра мяне нічога не ведаеш Лёс мой склаўся такім чынам, што я пакінуў матчына лона, будучы ўжо ссівелым старцам. Пасля ўсё маладзеў і маладзеў і цяпер вось — падлетак. Як нарадзіўся, мне было шэсцьдзесят Калі падлічыць пражыты мною час, то выходзіць, што мне ўжо сто пятнаццаць або сто шаснаццаць гадоў".

Я акінуў позіркам пакойчык Ці то апанаваў мяне такі настрой, ці мо ад чагось іншага, толькі адчуў раптам, што сярод простай мэблі было разліта нейкае светлае шчасце

"У параўнанні з другімі капамі вы жывяце, напэўна, шчаслівым жыццём?"

"Магчыма і так. У дзяцінстве я быў старым, а ў старасці зрабіўся маладым Таму не высах ад прагнасці, якая находзіць на старых, і не патануў у любоўных уцехах, як гэта здараецца з маладымі Хай сабе жыццё маё і нельга назваць шчаслівым, аднак яно ва ўсякім разе спакойнае".

"Сапраўды"

"Ёсць, вядома, і яшчэ прычыны Так, у мяне крэпкае здароўе, маю пэўны дастатак, які дазваляе мне жыць бязбедна Але найбольш спрыяльнай акалічнасцю было тое, што я нарадзіўся старым"

Нейкі час мы размаўлялі Я расказаў пра самагубства Тока, а таксама пра Гейла, які штодня запрашае да сябе ўрача Капа зрабіў чамусьці выгляд, што мой аповед яго амаль не цікавіць.

"Вы не адчуваеце, бадай, такой прывязанасці да жыцця, як іншыя капы?" — запытаў я старога

Той, гледзячы мне ў твар, спакойна адказаў. "Падобна іншым капам, я пакінуў матчына лона толькі пасля таго, як бацька запытаў мяне, ці хачу я паявіцца на свет"

"А я апынуўся ў вашай краіне зусім выпадкова Пакажыце мне, калі ласка, дарогу, каб выбрацца адсюль"

"Ёсць толькі адна такая дарога"

"Якая?"

"Тая, па якой ты трапіў сюды".

Калі я пачуў гэты адказ, мае валасы сталі дыбам

"На вялікі жаль, я тую дарогу знайсці не магу"

Стары капа ўскінуў свае маладыя жвавыя вочы, пільна паглядзеў на мяне, потым устаў, адышоўся ў кут пакоя і пацягнуў за вяроўчыну, што звісала са столі. Там адкрыўся дагэтуль не заўважаны мною лаз. Я зазірнуў паспешліва ў круглую адтуліну лаза і ўбачыў далёкае выйсце. Кіпарысы і сосны звесілі над ім свае веццe, праз якое зырчэла ярка-зялёнае неба. Была відаць нават вяршыня Ярыгатаке, падобная на агромністае вастрыё паднябеснай стралы Быццам хлапчук, які бачыць аэраплан, я аж заскакаў ад радасці.

"Вось так і выберашся", — прамовіў стары і паказаў на вяроўку А гэта была не проста вяроўка, а вяровачныя лескі

"Ну, дык з вашага дазволу я палезу да выйсця!"

"Лезь. Але ёсць пытанне Ці не будзеш ты каяцца, што пакінуў нашу краіну?"

"Не турбуйцеся Раскайвацца не буду"

Кінуўшы ў адказ гэтыя словы, я хапатліва палез уверх па вяровачных лесках. Сяды-тады я пазіраў уніз і бачыў далёка пад сабою адметны сподачак на галаве старога капы.

### 17

Пасля вяртання з Капчакіі нейкі час я з вялікай цяжкасцю мог трываць пах чалавечай скуры. У параўнанні з намі капы вялікія чысцёхі. Мне, які так доўга бачыў спрэс капчакоў, чалавечыя твары здаваліся брыдкімі. Вочы і раты яшчэ так-сяк трываў, а вось насы наводзілі на мяне дзікую жудасць. Таму я стараўся, наколькі было льга, ні з кім не сустракацца Паступова аднак стаў прывыкаць да чалавечага асяроддзя і праз паўгода мог бываць на людзях у любым месцы Бянтэжыла крыху тое, што ў гутарцы з кім-небудзь зрываліся з майго языка словы капчакоўскай мовы Атрымлівалася гэткая размова

"Ты заўтра будзеш дома?"

"Qua"

"Што, што?"

"А, буду, буду"

Роўна праз год пасля вяртання з краіны капчакоў я пагарэў на адной справе У выніку. . (Тут доктар S перапыніў расказчыка: "Пра гэта апавядаць не трэба" Па словах доктара, калі пацыент узгадвае тую гісторыю, то ўпадае неўзабаве ў такое буйства, што справіцца з ім не могуць некалькі санітараў )

Добра, не буду гаварыць аб гэтым Калі задуманае мною прадпрыемніцтва пацярпела крах, мне захацелася вярнуцца назад у Капчакію. Так, так. Я хацеў не проста "адправіцца", а "вярнуцца" туды. Цяпер Капчакія бачылася мне як мая ўласная радзіма.

Аднойчы я выйшаў цішком з дому і паспрабаваў сесці ў цягнік цэнтральнай лініі Ды, на жаль, мяне схапіла паліцыя і памясціла сюды, у гэтую бальніцу Аднак і тут Капчакія не выходзіць у мяне з галавы Што робіць зараз доктар Чак? Аб чым думае філосаф Маг, седзячы пад сваім сямікаляровым ліхтарыкам? А мой задушэўны друг студэнт Рап са сваёю згніўшай дзюбай?

Здарылася гэта папоўдні Было пахмурна, як і сёння. Я сядзеў, паглыбіўшыся ў свае думкі, і раптам ледзь не закрычаў ад нечаканасці Адкуль ні вазьміся, перада мной паўстаў рыбалоў Баг. Схіляючы штораз галаву, ён кланяўся мне Ачомаўшыся, я. добра не помню, ці плакаў тады, ці смяяўся Ва ўсякім разе, мне было вельмі прыемна пасля доўгай пярэрвы ізноў загаварыць на мове капчакоў

"Баг, ты з якой нагоды апынуўся тут?"

"Сабраўся праведаць вас Кажуць, што вы захварэлі"

"Адкуль ты дазнаўся?"

"З апошніх паведамленняў па радыё"

"А як дабраўся?"

"Вельмі лёгка Для нас, капчакоў, рэкі і каналы Токіо — тое самае, што і вуліцы"

Я прыгадаў сабе, што капы, падобна жабам, з'яўляюцца земнаводнымі жывёлінамі

"Але ж паблізу няма аніякіх рэчак"

"Я пралез сюды цераз водаправод-



# Замест пасляслоўя

Руноскэ Акутагава нарадзіўся 1 сакавіка 1892 года ў год Дракона, дзень Дракона, месяц Дракона, таму яго і назвалі Руноскэ (іерогліф імя "ру" азначае "дракон").

На дзевятым месяцы жыцця маці Руноскэ страціла розум, і хлопчыка аддалі на выхаванне ў бяздзетную сям'ю яе старэйшага брата, начальніка будаўнічага аддзела Такійскай прэфектуры Акутагавы Маціякі. Так Руноскэ змяніў прозвішча Нінхара на Акутагава.

Руноскэ выдатна вучыўся, з малых гадоў самастойна засвойваў японскую і кітайскую класіку. У адзінаццаць гадоў ён ужо рэдагаваў рукапісны часопіс.

Чытаў Акутагава заўсёды шмат Яшчэ да паступлення ў Такійскі імператарскі універсітэт (1913 г.) на аддзяленне англійскай літаратуры Акутагава добра ведаў еўрапейскую і сусветную літаратуру. Тады яму найбольш падабаліся Франс, Ібсен, Бадлер, Стрынберг, Бергсан.. Дарэчы, эстэтычна Акутагава фармаваўся ў пару, калі маладая буржуазная Японія інтэнсіўна капіравала ўсё еўрапейскае: ад формы галаўных убораў чыгуначнікаў да еўрапейскіх літаратурных стыляў. Усё, чаго еўрапейская літаратурная традыцыя дасягнула за стагоддзі літаратурнага развою, абрынулася на Японію амаль у адзін момант· і рамантызм, і сентыменталізм, і рэалізм, і натуралізм, і першыя дэкадэнцкія і мадэрновыя вопыты. І ўсё гэта трэба было як мага хутчэй засвоіць, каб з улікам усяго вопыту еўрапейскай літаратуры зарыентавацца ў накірунках уласнага шляху.

Першыя свае апавяданні Акутагава напісаў, калі яшчэ вучыўся ва універсітэце. Яны адразу былі заўважаныя крытыкай. Асаблівы поспех зведала апавяданне "Брама Расёмон", надрукаванае ў адным з буйнейшых японскіх штомесячнікаў "Тайкоку бангаку" "Браму Расёмон" ухваліў і Сосэкі Нацума, які ўжо тады лічыўся класікам японскай літаратуры.

Пасля заканчэння універсітэта Акутагава нейкі час працаваў выкладчыкам у ваенна-марской школе. Працу сваю ён не любіў (як і ўсё, што замінала літаратурнай дзейнасці), але яму патрэбны быў хоць які сталы заробак.

Праз некалькі гадоў службы ў ваенна-марской школе (Акутагава тады ўжо быў жанаты) ён атрымаў запрашэнне на працу ў буйную газету "Осака майніці" Акутагава прыняў запрашэнне, хоць нельга сказаць, што журналістыка яго надта вабіла.

З газетай "Осака майніці" звязаная і адзіная ў жыцці Акутагавы замежная вандроўка. Па заданні рэдакцыі ў 1921 годзе ён выправіўся ў Кітай і Карэю, каб напісаць серыю нарысаў.

А ўвогуле Акутагава жыў звыклым жыццём літаратурнага мэтра: у пэўныя дні ён прымаў у сваім кабінеце "Цёкодо" ("Храм чыстай рэчкі") літаратурную моладзь, наведваў шматлікія банкеты, збіраў карціны і антыкварыят, сварыўся з выдаўцамі за ганарары, ездзіў з лекцыямі па краіне.

Акутагава пісаў хутка і шмат У дваццаць сем гадоў ён ужо быў аўтарам трох зборнікаў апавяданняў, кожны з якіх меў шумны поспех. У 1925 годзе ягонай кнігай распачалася

ныя трубы, а затым прыадкрыў пажарны кран. ."

"Прыадкрыў пажарны кран?"

"Пан, мабыць, забыў, што ў Капчакіі ёсць таксама сантэхнікі".

З гэтага часу кожныя два ці тры дні да мяне наведваўся хто-небудзь з капчакоў Доктар S гаворыць, што я хварэю на dementia praecox (ранняя прыдуркаватасць) А вось доктар Чак сцвярджае, што на dementia praecox хворы не я, а доктар S і кожны з туташніх. Калі ўжо бываў у мяне доктар Чак, то, безумоўна, прыходзілі сюды і студэнт Рап і філосаф Маг Але ніхто з іх, акрамя рыбалова Бага, не паяўляўся ўдзень Прыходзілі поначы, удвух, утрох. асабліва часта ў месячныя ночы Учора вечарам пры святле месяца са мною гутарылі дырэктар шклозавода Гейл і філосаф Маг Музыкант Крабак іграў потым на скрыпцы. Вунь там на стале букецік чорных лілеяў Іх падарыў мне на змярканні Крабак (Я абярнуўся і паглядзеў у той бок Букета, зразумела, не ўбачыў Дый увогуле на стале нічога не было )

А гэтую кнігу прынёс мне філосаф Маг Прачытайце, калі ласка, радкі першага верша Ды не Вы ж не ведаеце мовы капчакоў Я прачытаю вам Гэта адзін з тамоў нядаўна выдадзенага збору твораў песняра Тока. (Пацыент раскрыў старую тэлефонную кнігу і пачаў чытаць верш наступнага зместу )

*Сярод квецені пальмаў, сярод бамбука*
*Даўным-даўно спачывае Буда.*
*Засохла смоква на абочыне дарогі,*
*Напэўна, з ёю Хрыстос памёр.*

*І нам таксама накавана спачыць,*
*Будзь мы нават на сцэне перад кулісамі.*

*(Калі ж зазірнеш у закулiссе, дык убачыш адразу, што палатно дэкарацый — гэта латка на латцы.)*

Але я не такі песіміст, як пясняр Ток І пакуль да мяне час ад часу будуць наведвацца капы. . О, ледзь не забыў, вы, несумненна, памятаеце майго друга суддзю Пепа. Дык вось ён, пасля таго як страціў сваю пасаду, зусім звар'яцеў. Кажуць, што Пеп знаходзіцца цяпер у псіхіятрычнай бальніцы Капчакіі. Я ахвотна б наведаў яго, калі б доктар S. дазволіў .

*11 лютага 1927* г.

**Пераклаў з японскай**
**Уладзімір ШАТОН.**

河童・或る阿呆の一生
他四編
芥川龍之介



旺文社文庫

**шматтомная серыя "Збор сучасных твораў"**

**Такая інтэнсіўнасць літаратурнай працы не лепшым чынам адбівалася на фізічным стане, псіхіцы. Да таго ж Акутагаву палохала, што ён атрымаў у нядобрую спадчыну ад маці псіхічную хваробу, якая зрабіла яе вар'яткай Але інакш ён жыць не мог мастацтва, літаратура был для яго і сэнсам, і апраўданнем жыцця. Пра гэта яго знакамітыя словы: "Чалавечае жыццё не каштуе і аднаго радка Бадлера. ."**

**І ён працягваў апантана працаваць. У апошні год жыцця (1927 г.) ім напісаныя такія кульмінацыйныя творы, як сатырычная ўтопія "Капы" і эгабелетрыстычная аповесць "Жыццё ідыёта".**

**Сатырычная ўтопія "Капы" была надрукаваная ў штомесячніку "Кайдзо" Тут Акутагава ўпершыню ўзяў за аб'ект аналізу не асобу, а грамадства. Не жадаючы звязваць сябе канкрэтнымі дэталямі сучаснага сацыяльна-палітычнага жыцця Японіі, ён перанёс дзеянні свайго аповеду ў фантастычную краіну вадзянікоў ("капаў"). "Я засяліў свет майго аповеду звышнатуральнымі істотамі. Болей за тое, у адной з гэтых істотаў я намаляваў самога сябе"**

**"Капы" — бліскучы гратэск на тагачасную Японію (зрэшты і не толькі на Японію) і таленавіты псіхааналіз нервозаў і комплексаў самога аўтара**

**Апошні твор Акутагавы — "Жыццё ідыёта". Там ёсць такія радкі: "Няўжо не знойдзецца нікога, хто б задушыў мяне, пакуль я сплю?"**

**4 чэрвеня 1927 года, ва ўзросце трыццаці пяці гадоў, Руноскэ Акутагава прыняў смяротную дозу веранала...**

**Трохі раней ён напісаў: "Шэкспір, Гётэ, Цікамацу Мондзаэмон непазбежна гінуць, але лона, што іх спарадзіла, — вялікі народ — ніколі не згіне. Усякае мастацтва, як бы ні мянялася яго форма, нараджаецца з нетраў народа"**

**Падрыхтаваў**
**Валянцін АКУДОВІЧ.**



# Андрэй ХАДАНОВІЧ

## Я маю твор...



### *Шызабары*

Чэрап у чэраве, невычарпальны і чэпкі,
нібы Чыпаліна ў чарзе па цыбулю
Бітага мозгу шкляныя аскепкі
лятуць, што палёныя кулі.
Рэчышча мёртвага рэчыва,
каляровых кавалкаў вясёлка,
пырскі свінца
ў прамені барвовага сонца,
крошкі крывавага печыва
свет напярэдадні чорнага золку,
свет у чаканні канца,
але гэта трывае бясконца
А ў нябёсах аблокі, нібы вершаваная нізка.
Беларусь, я прыдумаў адзінку тваййго атмасфернага
ціску!
Шызабары, нібы закаханыя пары,
плывуць у паветры.
Беларусь, я люблю твае зоры і хмары,
і воды, і нетры,
і твае гарады, і вытворчасці сродкі
Перавернуцца ў трунах славутыя продкі,
прачытаўшы у вершах
пра нівы і пожні
Я паэта не з першых,
магчыма, апошні
папяровы пацук, канцылярская кніга,
фаліянт,
шызабармэн і шызабарыга,
шызалянт

# Сяргей ВЕРАЦІЛА



* * *

Вечарэла. Дробным дажджом акрываўся горад
Сэрца навобмацак шукала гук
Прарываўся
Ад далёкіх амаль неіснуючых сузор'яў прамень
І не мог дасягнуць зямлі.
Блытаўся ў аблоках,
Блудзіў у валасах,
Чапляўся за словы,
Перарастаў у пачуцці,
Нейкім няпэўным жаданнем
Вылузваўся з вачэй

Я ўглядаўся ў твары,
Цікавіўся позіркамі далёкага флейтавага плачу,
Далучаў яго да скрыпкі,
Лічыў такты
Безгалосых вуліц, знікаючых
У дробным дажджы,
І задаволена чытаў апалыя ў лужыны
І мокры асфальт колеры светлафораў.
Пацямнелыя дрэвы сумна віталі
Мае навобмацак пошукі гуку,
І ў галаве замест песні
Нараджалася вар'яцкая думка
Пра тое, як я памёр
І маё сэрца апранулі ў снег,
І плакалі асірацелыя словы
І было ў гэтым вар'яцтве нешта
Падобнае да сэнсу,
Але раптам згубіўся змест
Майго блукання

Дробны дождж абяцаў сустрэчы,
Але гук ад далёкіх далёкіх сузор'яў
Не змог дасягнуць зямлі,
Заблытаўся ў валасах,
Зачапіўся за пачуцці



# Язэп ПАЛУБЯТКА





*"Вы, таварыш прапаршчык, байструк ці як?" — не сцярпеў радавы Лабута. Старшына раззлаваўся і ўдарыў яго кулаком у твар: "Я гэтую бляцкую беларушчыну выб'ю разам з зубамі".*

# ВАЙСКОВАЕ ЕВАНГЕЛЛЕ

## *ГОРКАЕ ДАБРАВЕСЦЕ РАДАВОГА МІХАСЯ ЛАБУТЫ*

### РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

## НАПЯРЭДАДНІ

1 1/ Міхась Лабута сын Антона ў той дзень, калі ў раённым камісарыяце атрымаў цыдулку, дзе чорным па белым было надрукавана ды ад рукі дапісана, што ён прызываецца на тэрміновую вайсковую службу, напіўся.

1 2/ Сябры прывялі яго дахаты ды кінулі пад плотам, а самі ўцяклі.

1 3/ Бацька палічыў сына дарослым і не лупцаваў, як некалі, папругаю з дзвюх рук, а завалок саматугам у хату, разуў, раздзеў ды паклаў у ложак.

1.4/ Назаўтра, як у нейкай цудоўнай казцы па загадзе нябачнага чараўніка, забегалі, замітусіліся людзі· закалолі парсюка, парэзалі кур, купілі ў краме напою ды хлеба — болей там нічога не было. Жанчыны пачалі кухарыць. варыць, парыць, смажыць. Адкапалі на агародзе два бітоны самагонкі, запрасілі сваякоў, суседзяў, знаёмых. Чужынцы прыйшлі самі, бо надта хацелі выпіць. Зазвалі дзяўчат ды музыкаў Людзей было быццам на вяселлі.

1 5/ Тры дні пілі і гулялі госці. Потым яшчэ тыдзень прыходзілі апахмяляцца.

1 6/ У час бяседы казаў п'яны бацька п'янаму сыну: "Служы, сынку, добра. Не ганьбі наш род. Слухайся камандзіраў сваіх ды выконвай іх загады, як я некалі У самаволку без патрэбы не бегай Памятай, што войска выхоўвае з такіх, як ты, недарэкаў, сапраўдных мужчынаў". Маці плакала і гаварыла: "Беражы там, сынок, сябе ды вяртайся да нас жывы-здаровы Дзякуй Богу, што вайна ў тым Афганістане скончылася". І госці казалі свае пажаданні, толькі мала што запомніў з таго Міхась, бо выпіў шмат гарэлкі.

1.7/ Урэшце госці пачалі дарыць грошы, на дарогу, як казалі яны. Шмат здарылі. Напачатку на вачах у людзей бацька аддаў грошы сыну, а калі госці разышліся — адабраў. Міхась узбунтаваўся, але калі Антон Лабута даў яму некалькі пляшак гарэлкі з сабою на забаву, супакоіўся

1.8/ У той вечар, як кажуць, "усе дзяўчаты былі яго". танцавалі з ім, цалавалі яго, абяцалі кахаць і пісаць штодня

1 9/ Ён верыў ім, хаваў іх адрасы ў вайсковы білет і тым быў бязмежна рады.

## "КУПЦЫ"

2.1/ У прызначаны дзень сабраліся прызыўнікі ў ваенкамаце. Праводзіць іх прыйшлі бацькі, сябры ды сяброўкі

2.2/ І стаялі яны на пляцы лысыя, як жабракі ў лахманы апранутыя, з поўнымі пляцакамі, і ўсе, як адзін, падпітыя Раззлаваўся ваенны камісар, што навабранцы такую ганьбу ўчынілі, выкінуў рэчы з пляцакоў у хлопцаў з першай шарэнгі, забраў адтуль пляшкі з гарэлкаю і выліў яе проста на зямлю пад ногі ім.

2.3/ Перапужаліся астатнія, прыціхлі, баяліся, што ў іх таксама адбяруць ды гвалт нейкі над імі ўчыняць, бо цяпер яны людзі не вольныя. Міхась Лабута дзякаваў Богу, што стаіць пасярэдзіне другой шарэнгі, але ўсё роўна калаціўся, бы ў ліхаманцы.

2.4/ Стаялі на тым пляцы і прадстаўнікі вайсковых часцей, якія прыехалі набіраць салдацкае папаўненне, "купцамі" усе іх звалі "Купцы" таксама занепакоіліся ўчынкам ваеннага камісара, паклікалі яго да сябе, аб нечым пашапталіся Той адразу супакоіўся ды перастаў чыніць гвалт

2.5/ Затым пайшлі "купцы" са стосамі папераў у руках да стрыжаных і сталі называць іх прозвішчы

2.6/ Лабуту выклікаў нейкі старшы лейтэнант з чырвонымі вачыма і сінім носам ды цвёрда зазначыў· "Будзеш дэсантнікам" І гучна рассмяяўся. Назбіраў афіцэр ля сябе чалавек трыццаць. Сярод іх не было ні аднаго Міхасёвага знаёмага.

2.7/ Урэшце пасадзілі ўсіх хлопцаў у аўтобусы і павезлі на чыгуначны вакзал. Маці галасілі, дзяўчаты кідалі пад колы кветкі. Было сумна, некаторыя стрыжаныя плакалі, як дзеці Міхась таксама шморгаў носам і не мог адарваць позірк ад маці





## У ДАРОЗЕ

3.1/ Як толькі аўтобусы спыніліся на чыгуначным вакзале, сяржант, які быў з "купцамі", загадаў усім навабранцам шыхтавацца. Прызыўнікі рабілі гэта паволі і няўпэўнена. Вайсковец распачаў брыдка лаяцца, ужываў спрэс непрыгожыя словы, і толькі калі дамогся свайго, павёў хлопцаў да вагона. Адзін з афіцэраў чытаў прозвішчы навабранцаў, другі лічыў іх. Усе вайскоўцы лаяліся і пагражалі

3.2/ У вагоне людзей было, што селядцоў у бочцы, нават на трэцяй полцы месціліся па два чалавекі Афіцэры занялі першае купэ і выгналі адтуль стрыжаных. Салдаты і сяржанты, што суправаджалі іх, занялі апошняе купэ. І таксама не ласкава папрасілі адтуль усіх.

3.3/ Старшы лейтэнант з сінім носам ды чырвонымі вачыма выклікаў да сябе аднаго з салдатаў і загадаў, каб той тэрмінова знайшоў гарэлку. Салдат у сваю чаргу выклікаў некалькі прызыўнікоў і запатрабаваў, каб тыя самі аддалі яе Напачатку хлопцы аднекваліся, казалі, што ў іх няма, але пад пагрозамі вымушаныя былі саступіць. Салдат аддаў некалькі пляшак гарэлкі афіцэрам, астатнія забраў сабе

3.4/ Афіцэры выпілі гарэлку і запатрабавалі яшчэ Салдаты ўжо ўдвух пайшлі да навабранцаў і самавольна распачалі пошук у іх пляцаках. Гарэлку, вядома, знайшлі, бо яна была ва ўсіх.

3.5/ Стрыжаныя таксама пілі. Пілі ўпотай, хаваючыся Спяшаліся, каб салдаты і афіцэры не адабралі. Пілі, бо ведалі, што невядома калі вып'юць зноў.

3.6/ Міхасю Лабуце зноў пашчасціла. Ён знайшоў вольную трэцюю полку і, натомлены сумяціцаю апошніх дзён, адразу заснуў

3.7/ Лабуту пабудзіў нейкі лапавухі Сяржук, у якога адабралі гарэлку, і яны выпілі на дваіх Міхасёву пляшку Міхась зноў залез на полку Лапавухі сядзеў і ўвесь час пляваў на падлогу Потым яго званітавала. Тое ж сталася і з іншымі.

3.8/ Вагон нагадваў Ноеў Каўчэг і Аўгіевы канюшні адначасова. Непрыемны пах гарэлкі і страўнікавых вяртанняў рэзаў нос. Быў сапраўдны вэрхал: нехта горача спрачаўся, нехта журботна спяваў, а хтосьці тужліва плакаў Кожнаму было сваё. Ва ўсім адчувалася туга і самота, якая была абвострана гарэлкаю.

3.9/ Ноччу аднаму з афіцэраў здалося, што бракуе гарэлкі, і ён ужо ўласнаручна распачаў правяраць рэчы навабранцаў ды лаяцца. Залез ён і на трэцюю полку ды выцягнуў у Міхася з-пад галавы пляцак. Гарэлкі, вядома, там не знайшоў і кінуў яго проста ў твар Лабуце . Шукаў у іншых, пакуль не знайшоў

3.10/ Даехалі да месца прызначэння толькі раніцаю наступнага дня "Радуйцеся, — казалі ім п'яныя вайскоўцы, — будзеце служыць амаль што ў Маскве".

### РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

## КАРАНЦІН

1 1/ Апоўдні навабранцаў прывезлі ў вайсковую часць, што месцілася пасярод невялічкага гарадка ды засцерагалася ад яго вялізным бетонным плотам. Лабута адчуў стому Захацелася пасляць усіх далёка-далёка, проста легчы і адпачыць, як звычайна ён рабіў дома. Такой магчымасці тут не было.

1.2/ Афіцэры і салдаты, якія суправаджалі навабранцаў, пайшлі займацца сваімі справамі, а да іх прыставілі прапаршчыка Свістунова. Круглашчокі вайсковец выцягнуў з кішэні паперку і зачытаў прозвішчы прызыўнікоў, якія пераходзілі ў яго падначаленне Астатніх павезлі некуды далей.

1 3/ І казаў ім адразу новы камандзір "Пакіньце свае цывільныя звычкі. Тут войска. Памятайце, у нас салдат не чалавек, ён казюрка, з якою можна рабіць усё, што захочацца Рыхтуйцеся да ўсяго"

1.4/ Навабранцы загаманілі, абурыліся, перабіваючы адзін аднаго пачалі сцвярджаць, што ў іх ёсць годнасць свая "Маўчаць! — зароў прапаршчык — Я не дазваляю вам гаварыць. Кажу апошні раз. Тут войска! І ўсё чыніцца толькі па загаду"

1.5/ Сціхлі стрыжаныя і пачалі здзіўлена пераглядвацца. "Смірна!" — сцвярджаючы

свой аўтарытэт, зноў узвысіў голас вайсковец. І надалей у гэты дзень быў цвёрды расклад. Іх адвялі ў лазню, памылі, затым пераапранулі ва ўсё зялёнае ды кожнаму размеркавалі ложак.

1.6/ І казаў ім прапаршчык Свістуноў: "Перш чым вы будзеце несці службу, павінны навучыцца ўсяму таму, што неабходна ведаць салдату. Для гэтага вам даецца месяц часу. Называецца тое — каранцін".

1 7/ Загадваць імі і вучыць іх даручылі капітану Берагавому, прапаршчыку Свістунову, двум сяржантам і двум старaслужачым салдатам.

## ПОКАЗКІ НАМПАЛІТА

2.1/ Пасля вячэры, калі згодна статута ў вайскоўцаў павінна быць вольная хвіліна, у казарму да навабранцаў завітаў тоўсты афіцэр з дзвюма вялікімі зоркамі на пагонах; як растлумачылі старaслужачыя, то быў нампаліт часці падпалкоўнік Фрумкін.

2.2/ Важна несучы паперадзе свой вялізны жывот, ён не спяшаючы ішоў па казарме і па-бацькоўску сціпла даваў парады будучым салдатам, распытваў, з якіх краёў хлопцы ды хто іх бацькі будуць.

2.3/ Спыніўся ён і ля Міхася Лабуты. Той, абуджаны абяцанкамі дзяўчат, пісаў ліст да суседкі Наташы. Пацікавіўся нампаліт, чым займаецца навабранец, а калі даведаўся, дык пахваліў яго і сказаў, каб даслаў прывітанне ад усяго асабістага складу гвардзейскага палка. Тут жа паслухмяна хлопец так і зрабіў. Як усвядоміў падпалкоўнік, што бацька Лабуты працуе трактарыстам у калгасе, адразу пайшоў далей.

2.4/ Падпалкоўнік Фрумкін загадаў сяржанту Пракузіну сабраць усіх маладых салдатаў у Ленінскім пакоі.

2.5/ Нампаліт умеў казаць складана, прыгожа ды бясконца доўга Ён ведаў усё і мог распавядаць аб усім на свеце. Напачатку ён распачаў палымяную прамову пра зладзеяў-імперыялістаў, якія днём і ноччу пагражаюць нашай Айчыне — Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, як яны чыняць розныя дыверсіі і правакацыі; і супроць усяго гэтага паўстае наш мужны савецкі салдат Казаў ён яшчэ пра братэрства, інтэрнацыяналізм, пра карову-рэкардсменку ў прыморскім калгасе, якую доіць маладзёна Манька і чакае свайго нарачонага з войска. І шмат яшчэ што казаў тоўсты чалавек. Слухалі яго будучыя салдаты ды розуму яго дзівіліся А скончыў ён свае казанні перад самым "адбоем"

2.6/ Як выйшаў падпалкоўнік Фрумкін з казармы, то казаў прапаршчык Свістуноў радавому Булкіну: "Трындзець — не бочкі качаць!" Салдат адказаў так: "Увесь час ён кажа адно і тое ж, быццам дурань ці папугай той"

2.7/ Тую размову чуў Міхась Лабута.

## САЛДАЦКІЯ ЗАПАВЕДЗІ

3.1/ Пасля "адбою" ўсім навабранцам загадалі: "збор" Яшчэ раз праверылі наяўнасць.

3.2/ Затым паперад строя выйшаў яфрэйтар Чыкін — малы ды брыдкі — і стаў казаць ім салдацкія запаведзі·

— памятайце на працягу ўсёй сваёй вайсковай службы, салагі.

Памятайце, самі так рабіце ды іншым кажыце, каб так рабілі,

— паважайце "дзядоў", як бацькоў сваіх, службу цягніце за іх, чысціце боты ім ды мыйце нагавіцы і ўсё іншае рабіце, бо калі вы не будзеце паважаць іх, то будзеце бітыя нячышчаным ботам па галаве і бруднымі нагавіцамі па мордзе,

— і мяне хто не будзе слухаць, будзе біты;

— не ашуквайце "дзядоў", бо вашыя юды адразу перакажуць ім;

— як мага далей трымайцеся ад камандзіраў, і жыццё ваша будзе спакойным;

— біце сваіх, і тады чужынцы, пабачыўшы тое, баяцца вас будуць,

— ніколі не спяшайся выконваць загад, бо ён заўжды будзе адменены,

— першым ашукай бліжняга свайго, інакш блізкі ўвойдзе ў давер да цябе, ашукае і ўзрадуецца

3.3/ Слухалі навабранцы і дзівіліся яго няўрымслівасці і вайсковай практычнасці.

3.4/ Скончыў яфрэйтар Чыкін прамову сваю і з гонарам генерала пайшоў у сваё падраздзяленне. Маладыя салдаты праводзілі яго доўгімі позіркамі, і кожны жадаў быць падобным на яго.

3.5/ І казалі яны паміж сабою:

— Праўду ён цвердзіць Паглядзіце на "дзядоў" (дзень паслужылі мы, а ўжо заўважылі) нічога не робяць, нікога не баяцца, на ўсіх чхалі і жывуць, як у Бога за пазухаю. Цярпець трэба, і мы "дзядамі" будзем.

3.6/ Гэтак жа падумаў і Міхась Лабута.

## ТУТ ВАМ НЕ АЗІЯ. ТУТ САВЕЦКАЕ ВОЙСКА

4.1/ І на сняданак, і на абед, і на вячэру салдаты мелі варанае сала. Яно было мылкае і даўкае на смак, але хлопцы мусілі есці, бо нічога іншага не гатавалі, апроч гнілой капусты, смажанай на тэхнічным тлушчы, ды варанага сала.

4.2/ Сярод навабранцаў былі і узбекі Сала яны не елі ўвогуле, бо вера не дазваляла. Дзень не елі, другі не елі Тыдзень у рот не бралі

4.3/ Мусульмане паскардзіліся камандзіру — капітану Берагавому Той зрабіў заўвагу кухару. Кухар адказаў так: "Яны не першыя — яны не апошнія. Голад не цётка. Праз тыдзень і сала будуць есці як міленькія. Няхай ведаюць чуркі нярускія, што тут не Азія Тут — войска савецкае"

4.4/ Святую праўду казаў кухар. Ужо праз тыдзень узбекі елі варанае сала Хвалілі яго узбекі і, супроць рэлігіі, намагаліся ўкрасці ў суседа большы кавалак.

4.5/ Міхась Лабута таксама ў мамкі ніколі не еў варанае сала. Хацелася яму сушанага кумпяка, вэнджанай паляндвіцы ды белага хлеба з маслам Але масла з чорным хлебам елі старaслужачыя салдаты за суседнім сталом, ён жа давіўся вараным салам і гнілою капустай

## СПАРТАНСКІ ПОБЫТ НОВАГА ЖЫЦЦЯ

5.1/ Яшчэ ў школе Міхасю Лабуце пастаянна цвердзілі, што ўсё лепшае ў краіне Саветаў для войска і вайскоўцаў Папраўдзе ўсё было інакш

5 2/ Тэрыторыя вайсковай часці была абнесена двухметровым плотам з бетону Казармы змрочныя, цёмныя, хоць і вялікія Ложкі ў тры паверхі, пах прэлых анучаў і чалавечага поту бесперастанна панаваў у будынку

5.3/ Дзве тумбачкі — на пяцёх навабранцаў Адтуль штодня нешта знікала, нават зубныя шчоткі.

5.4/ З прыбіральні ішоў цяркі пах чалавечых спаражненняў

5.5/ "Чарпакі", служачыя першага года, мелі неахайны выгляд. Брудная ірваная амуніцыя ўшчэнт псавала маладых хлопцаў. Лепшае ў іх адбіралі старaслужачыя

5.6/ Вайсковая тэхніка была не новая, а лепшыя дэталі скрадзены Адно што, дзеля прыдання тэхніцы прывабнага выгляду, яе кожныя паўгода фарбавалі ў зялёны колер.

5.7/ У сталоўцы стаялі доўгія сталы. За імі, згодна загаду, змяшчаліся па трыццаць салдатаў. Было цесна, і, каб хоць неяк паесці, салдаты садзіліся бокам адзін да другога. Наўмысна ці незнарок піхалі сусед суседа, разлівалася страва, і ад таго ўзнікала сварка.

5.8/ Існаваў дзіўны парадак, ад якога пакутавалі маладыя салдаты Без дазволу камандзіра ніхто не мог і кроку ступіць. Сесці — дазвол Устаць — дазвол Пакурыць — дазвол, і то ў пэўным месцы

## НЯБАЧНАЕ

6.1/ Для Міхася Лабуты служба ў войску нагадвала турму, хоць ён ніколі там не быў З пабудкі да адбою ўсе перамяшчэнні адбываліся шыхтамі· на заняткі, у сталоўку, на працу, нават у нядзелю ў кіно Камандзір каранціна несупынна цвердзіў, што такі расклад паводзінаў дысцыплінуе, а выходзіла ўсё наадварот

6.2/ Было па-чалавечы сорамна, бо ўсе навокал лаяліся Лаяліся без усякай на тое патрэбы, самымі брыдкімі, самымі апошнімі словамі, асабліва прапаршчыкі

6.3/ За першыя два тыдні Лабуце абрыдла ўсё зялёнае· адзенне вайскоўцаў, сцены будынкаў Нават лісце на дрэвах не радавала вока.

6.4/ Шмат што здзіўляла тут вясковага хлопца. Дробны прыклад таму: шыхтавы статут кожны дзень павінны былі вучыць усе

6.5/ Здавалася, што вакол толькі адныя дурні, бо казалі яны ўсе адно і тое ж: не думай, а выконвай. "Камандзір за цябе думае", — казалі яны і самі таксама не думалі

6.6/ У сапраўднасці ўсё было зусім інакш, як на парадзе ці ў кіно. Адносіны паміж салдатамі былі дзікунскія стараслужачыя мардавалі маладых штодня і без усякай на тое прычыны І навабранцы высвятлялі між сабою адносіны

6.7/ Найбольш прыгнятала тое, што тут ніхто не лічыў цябе за чалавека

6 8/ Учарашняе ўяўленне пра войска не адпавядала сённяшняй рэчаіснасці

## ПРАЦА — НАЙЛЕПШАЯ ВАЙСКОВАЯ НАВУКА

7 1/ Міхась Лабута хутка прызвычаіўся да вайсковай службы. Увогуле яна мала чым адрознівалася ад працы ў калгасе.

7 2/ Зранку перад шыхтам навабранцаў з'яўляўся начальнік каранціна капітан Берагавы і, як той брыгадзір, размяркоўваў асабовы склад маладога папаўнення на працу

7 3/ Іншы раз афіцэры са штаба часці патрабавалі салдатаў дзеля сваіх патрэбаў. Радавы Лабута неяк выпадкова трапіў працаваць да начальніка штаба палка. Баяўся ён вялікага начальніка і таму стараўся. Зранку на лецішчы палоў трускалкі. Потым рамантаваў нейкі хляўчук. Па ўласнай ініцыятыве паправіў веснічкі

7.4/ Тут было спакойна. Не лаяўся прапаршчык, не гыркаў камандзір, не муштравалі сяржанты, не білі яфрэйтары.

7 5/ Спадабалася начальніку праца маладога салдата. Ён нават пачаставаў падначаленага шклянкаю піва.

7.6/ На працягу тыдня наступнага гэты ж камандзір яшчэ тры разы патрабаваў Лабуту дзеля ўласнай патрэбы.

7 7/ У часці працавалі ўсе без выключэння салдаты, хто болей, хто меней. "Салагі" не разгіналі спіны, "чарпакі" рабілі выгляд, што працуюць, "дзяды" бестурботна грэліся на сонцы.

7 8/ Старшына заўжды з задавальненнем казаў "Праца — аснова навучання салдатаў ва Узброеных сілах СССР, самая лепшая баявая падрыхтоўка".

7.9/ За месяц службы ў войску радавы Лабута аж тры разы сустракаўся з баявой тэхнікай два разы мыў колы БМП і адзін раз пабачыў танк у перадачы "Служу Савецкаму Саюзу" па тэлевізары

7 10/ Працоўнае навучанне доўжылася на працягу ўсяго курса "Маладога байца"

## ЛАЗНЯ

8.1/ І казаў старшына Свістуноў маладым салдатам "Радуйцеся, няўлюдкі, бо адзінае святое, што засталося ў савецкім войску, — лазня"

8 2/ За тыдзень службы ўся вопратка навабранцаў набрыняла потам. Споднее, як і цела, было аднолькавага колеру і прыкра смярдзела.

8.3/ Лазня нябачным магнітам цягнула ўсіх да сябе Настрой быў святочны Без усялякага панукання хацелася спяваць. Цела і душа патрабавалі ачышчэння

8.4/ Сцены будынка лазні як знешне, так і звонку былі непрыбраныя, са столі капала брудная вада, але ўсё роўна плюхацца было прыемна.

8.5/ І тут усё было падпарадкавана суровым вайсковым канонам "Салагі" мылі плечы "дзядам", церлі мачалкаю ды падносілі ў кубачку папіць халоднай вады

8 6/ Усё той жа каратыш, што зваўся яфрэйтарам Чыкіным, паклікаў да сябе радавога Лабуту, разлёгся на лаўцы ды загадаў "Бі! Моцна бі!" Лабута біў венікам з-за вуха. Яфрэйтар быў незадаволены, лаяўся, пагражаў, патрабаваў паддаць яшчэ пару Міхась не выцерпеў абразаў, перахапіў венік і ўдарыў гузыром па галаве Чыкін зваліўся з палка. Падбеглі "дзяды" і, каб абараніць гонар савецкага войска, са словамі "Мы выб`ем з цябе грамадзянскую пыху", пабілі нагамі

8 7/ "Салагі" разбегліся па кутах і не ўступіліся за Лабуту

8.8/ Мыліся роўна паўгадзіны. Затым прапаршчык раздаваў чыстую бялізну Раздаваў





і запісваў у сшытак, хто што атрымаў Трусы радавому Лабуце выпалі апошняга памеру Іх можна было падцягнуць пад пахі, і ўсё роўна хаваліся калені.

8 9/ Пасля лазні ўсе вайскоўцы рушылі да казармаў, уздымаючы нагамі хмары дарожнага пылу Пыл драў нос і садзіўся на чыстыя твары. Праз хвіліну яны (твары) змянілі свой пунсовы колер на шэры.

8.10/ Прапаршчык загадаў спяваць "Кацюшу" Салдаты спявалі з задавальненнем і вышэй цягнулі нагу

8.11/ У казарме ўсе мелі брудны выгляд.

## ПРЫСЯГА

9.1/ Ва ўсім адчувалася святочная напружанасць навабранцы мылі прыбіральню да пяці гадзін раніцы. Камандзір палка ўласнай насоўкай праверыў чысціню кожнай ракавіны.

9 2/ У той дзень на сняданак падалі маладую бульбу з мясам, салату са свежай капусты ды яшчэ варанае яйка і чай з цукрам. Умомант усё было з'едзена.

9.3/ Апранутыя салдаты былі ў парадную форму Афіцэры не лаяліся Толькі адзін раз старшына Свістуноў зрабіў заўвагу радавому Піліпенку вокрыкам. Капітан Берагавы адразу ж папярэдзіў таго, каб болей не займаўся глупствам прылюдна.

9.4/ Прыехалі бацькі маладых салдатаў, іх дзяўчаты ды нявесты Былі госці з Каўказа, Узбекістана, нават Далёкага Усходу Да Лабуты ніхто не прыехаў. Ён цешыў сябе толькі тым, што з беларускай вёскі Лыкаўшчына ў Падмаскоўе далёкі шлях. А дарога заўжды патрабуе вялікіх выдаткаў.

9 5/ Стаяла чэрвеньская спякота. Усе вайскоўцы прэлі ў сваёй амуніцыі. Госці былі апранутыя лёгка і песціліся на лагодным сонейку. Пузатыя дзядзькі з начальніцкага роду паважна махалі капелюхамі.

9.6/ Усе, нават узбекі, прысягу чыталі зычным голасам, урачыста-ўзнёсла. Некаторыя бацькі падыходзілі да сваіх сыноў і стаялі з імі побач на "зважай".

9 7/ Радавы Лабута прымаў прысягу ў адзіноце Прачытаў тэкст без усякага хвалявання, паставіў на паперы асабісты роспіс і абыякава прыхінуўся тварам да сцяга, хоць няведама ад чаго дрыжэлі калені

9.8/ Потым невукі з музычных вучэльняў напружана раздзімалі шчокі, і на ўсю ваколіцу было чуваць "Развітанне з Радзімаю". Салдаты, выцягнуўшы, як тыя буслы, шыі ды гучна ляпаючы абцасамі аб асфальт пляца, ішлі ля трыбуны, на якой стаяў камандзір часці.

9 9/ Пасля быў святочны абед. Некаторых родзічы забралі сваіх ваякаў у мястэчка, іншым далі звальненне, а іх бацькі пайшлі з камандзірам часці ў штаб і там паспешна апусцілі светамаскіроўку.

9.10/ Некалькі салдатаў, што засталіся ў размяшчэнні вайсковай часці, у тым ліку і Міхась Лабута, з'елі абед за ўсіх навабранцаў ды паўдня без справы і вока камандзірскага бадзяліся па казарме.

9 11/ Было неяк нязвыкла і сумна.

9.12/ Так скончыўся курс маладога байца.

### РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

## КАМАНДЗІР РОТЫ

1 1/ Раніцаю маладых салдатаў размеркавалі па падраздзяленнях Капітан Берагавы прызначыў Міхася Лабуту ў сваю другую мотастралковую роту

1 2/ Злыя языкі казалі пра капітана розныя плёткі, але ён адсылаў усіх далёка-далёка, на тры літары.

1.3/ Казалі, што ён нарадзіўся ў ботах і ў будзёнаўцы, што бацька яго не шафёр, а заезджы вайсковец.

1.4/ Калі рэгістраваўся з маці ў ЗАГСе, то, пабачыўшы натоўп, закрычаў "Смірна!"

1 5/ У першым класе капітан Берагавы страляў у настаўніцу з рагаткі, у другім — з самапала ў дырэктара школы. Усе цвердзілі, што яго чакае турма, але ён паступіў у вайсковую вучэльню

1.6/ У вучэльні яго адвучылі страляць, але навучылі загадваць.

1 7/ Ажаніўся капітан Берагавы выпадкова Захацеў і жаніўся У той вайсковай часці працавала буфетчыца. З ёю спалі ўсе ад камандзіра часці да салдата. Капітан Берагавы паспрачаўся са старшыною роты на пляшку гарэлкі і пабраўся з ёй

1 8/ Пасля вяселля казаў ён сваёй жонцы "Сука ты! З табою ўвесь гарнізон пераспаў, але я дарую табе, бо з тых жанчын, з якімі быў я, можна ўтварыць два гарнізоны. Усё роўна я кахаю цябе"

1 9/ Жывуць яны ў міры і згодзе і цяпер на зайздрасць усім.

1 10/ І вучыў капітан маладых афіцэраў· "Салдатаў нельга біць рукою Нельга займацца рукапрыкладствам Вінаваты падначалены — вазьмі табурэтку і стукні ёю"

1 11/ Шмат яшчэ чаго ён казаў, але калі салдат рабіў усё адпаведна статуту, паважаў і шанаваў, як сына роднага.

1 12/ Яшчэ ў каранціне выклікаў капітан Лабуту і запытаў: "Бульбаш?" — "З Берасцейшчыны" — "Па-тутэйшаму можаш гаварыць?" — "А як жа, таварыш капітан!"

1 13/ Тады капітан Берагавы размаўляў з радавым Лабутам цэлую гадзіну

## КАМАНДЗІР УЗВОДА

2.1/ Радавога Лабуту прызначылі ў першы агнявы ўзвод, якім камандаваў лейтэнант Безгаловы

2.2/ Калі ён знаёміўся з салдатамі, то казаў так. "Стары лейтэнант Безгаловы" Гаварыў ён так таму, што служыў у войску дваццаць гадоў лейтэнантам і меў прозвішча Безгаловы

2.3/ У той дзень лейтэнант ужо зранку быў на добрым падпітку і таму ў добрым настроі, то загадаў сабраць маладых салдатаў у Ленінскім пакоі.

2.4/ І казаў падначаленым сваім лейтэнант Безгаловы "Калі не ўмееш — навучым, калі не хочаш — прымусім"

2.5/ Далей навучаў іх так:

— Калі камандзір размаўляе з табою, адказвай: "так" альбо "не" Не выказваў уласнай думкі, яна нікому не патрэбная Адгадай, што ад цябе хоча камандзір, і будзеш ухвалены ім, і атрымаеш падзяку, а яшчэ ліст-падзяку надашлюць тваім бацькам. Інакш згнееш на "губе" і не вылезеш з нарадаў

— Памятайце, як кажа наш нампаліт· "Войска для вас — школа мужнасці". Я — ваш камандзір, бацька ваш Павінен вас, дурняў, розуму вучыць. Тут вы падпарадкоўваецеся мне, толькі мне і болей нікому

— Не звяртайце ўвагі на генералаў Генералы заўжды незадаволеныя Званне ў іх такое.

2.6/ Слухалі лейтэнанта Безгаловага салдаты і верылі кожнаму яго слову Верылі чукчы, верылі хахлы, верылі грузіны і верылі маскалі Толькі Міхась Лабута не верыў, бо не слухаў Хацелася есці.

2.7/ Дзіўны быў чалавек лейтэнант Безгаловы Аднаго разу ён завітаў у казарму, калі ніхто ўжо не чакаў начальства і кожны займаўся сваёю справай Камандзір узвода пачаў крычаць не сваім голасам "Ах вы, гной! Ах вы, падла! Смірна! Маўчаць! Усіх замарыную на гаўптвахце Здохнеце ў сральніку Да дэмбеля з "ачка" не сыдзеце"

2.8/ Казаць па-іншаму ён не мог, бо не ўмеў, і не таму, што яго прозвішча Безгаловы Проста ён быў такім чалавекам

2.9/ Для лейтэнанта Безгаловага радавы Лабута быў салдатам і болей нікім Толькі адзін раз на працягу месяца службы камандзір заўважыў падначаленага "Пайшоў прэч, неданосак"

## ДЗЯЎЧАТЫ

3.1/ Лабута сабраў да купы ўсе адрасы сваіх знаёмых дзяўчат і, як толькі прыбыў да месца прызначэння, напісаў усім лісты Праз тыдзень ротны паштар прынёс адказы Дзяўчаты, як адна, сцвярджалі, што кахаюць яго і будуць чакаць. Радасць была бязмежная, і ён усім хваліўся гэтым.

3.2/ Зноў тэрміновa разляцеліся лісты каханым. Настаў шчаслівы час чакання.

3.3/ На гэты раз прыйшло толькі шэсць адказаў.





3.4/ Цяпер дзяўчаты ў лістах сваіх пыталі пра службу, пра камандзіраў і іншыя дробязі; абдымалі, цалавалі горача, але пра каханне зацята маўчалі

3.5/ А неўзабаве атрымаў Міхась ліст ад малодшага брата. Той паведамляў: К. выходзіць замуж за суседа, Л. гуляе з яго сябрам, М гуляе з усімі... Яны шчыра абяцалі яго чакаць.

3.6/ Праз два месяцы толькі адна рыжая Светка слала яму лісты, але ён ёй не адказваў

3.7/ Душу ахапіла журба. Яна так востра падступала да сэрца, што іншы раз не хацелася жыць. Такія ж беды былі і ў іншых. Радавы Піліпенка, калі даведаўся, што яго каханая выйшла замуж, застрэліўся

3.8/ Толькі адзінкі працягвалі атрымліваць лісты ад дзяўчат.

3.9/ Лабута цешыў сябе тым, што ніколі нікога па-сапраўднаму не кахаў

## ПЕРШЫ ІСПЫТ

4.1/ Радавы Лабута трапіў ва ўзвод яфрэйтара Чыкіна.

4.2/ Аднаго разу Чыкін запэцкаў у чалавечы гной боты.

4.3/ "Дзед" пабачыў радавога Лабуту і загадаў яму: "Пачысці, салага!"

4.4/ Лабуту званітавала, і ён адказаў· "Не буду"

4.5/ У той час у казарму зайшоў камандзір роты. Чыкін устрапянуўся, спужаўся, адразу адбег убок і прашыпеў бы гадзюка "Будзеш! Ноччу яшчэ не тое зробіш"

4.6/ Яфрэйтар Чыкін пабудзіў яго апоўначы і пальцам паклікаў да сябе.

4.7/ Міхась ішоў маўклівa і панура. Ён падрыхтаваўся да пакутаў Нават не думаў супраціўстаяць.

4.8/ Яго ніхто не біў

4.9/ Яфрэйтар Чыкін прывёў салдата ў сральнік, адчыніў кабіну, працёр маленькім кулачком сонныя свіныя вочкі і ўладарна загадаў· "Сунь!"

4.10/ Лабута адразу зразумеў усё Пакорліва апусціўся на калені, абыякава глянуў у ракавіну, дзе плавалі шлакі радавога Гумбарыдзе, паспешліва адвёў позірк убок і ўсунуў руку

4.11/ Яфрэйтар Чыкін уважліва назіраў за яго дзеяннямі ды шаптаў: "Далей... Далей " Толькі калі рука залезла па самае плячо, задаволена зазначыў· "Добра! Бачу! Стараешся!" І пайшоў спаць, абыякавы да ўсяго.

## НОВЫЯ СЯБРЫ

5.1/ Новыя стасункі запатрабавалі новых сяброў

5.2/ У шыхтах кожнаму салдату было прызначана пэўнае месца. Паперадзе стаяў Аніперэнка — хахол, пуцаты тлусты хлопец. Ён спярша без перапынку пускаў газы, потым праз паўмесяца перастаў, але за сталом несупынна гаварыў пра сала з цыбуляю.

5 3/ Ззаду на пяты заўжды наступаў татарын Хабібулін, чырвонаморды казанец, які па-татарску не разумеў ні слова.

5.4/ Суседам па ложку быў расіянін Ягораў, прыязны, гаваркі туляк, якому ўвесь час хацелася ўсё ведаць, каб пераказаць камандзірам і паехаць у водпуск.

5.5/ Зверху спаў Яцуноў, хлопец з Сахаліна, "дзед" з вузкім разрэзам японскіх вачэй і чорнымі як смоль валасамі Усюды падкрэсліваў, што ён рускі, але вёў сябе ціхмяна і ні ў якія разборкі не ўлазіў

5.6/ На першым ярусе спаў Пруднікаў, уралец. Ён апоўначы заўжды біў нагою ў панцырную сетку і гнаў Лабуту ў прыбіральню, не верыў, што той ноччу не ўпісаецца.

5.7/ Толькі грузін Галашвілі штодня даваў яму рубель, і Лабута ўпотайкі купляў у салдацкай сталоўцы некалькі цвёрдых піражкоў Схаваўшыся ад усіх, яны елі іх у сральніку

5.8/ Ва ўзводзе, апроч Міхася, беларусаў не было.

## ВЯСЁЛАЯ ХВІЛІНКА

6 1/ У нядзельку Міхась Лабута пасля трэцяга пазачарговага нарада на службу закурыў

6.2/ Усё той жа Чыкін "шыбануў" акурак. Зрабіў некалькі зацяжак ды кінуў недапалак пад ложак.
6.3/ Лейтэнант Безгаловы быў адказным за парадак у падраздзяленні. З чырвонымі мутнымі вачыма ён бадзяўся па казарме і пыхаў на ўсіх цяжкім перагарам. Хацеў яшчэ выпіць і ад гэтага неймаверна пакутаваў
6.4/ Камандзір узвода выпадкова знайшоў той "бычок" Загадаў усім вайскоўцам шыхтавацца. Выкаціў нагою бычок з-пад ложка, і, быццам тая малпа, чвэрць гадзіны тыцаў у яго пальцам, лаяўся ды пытаўся, хто зрабіў такое
6.5/ Салдаты зацята маўчалі ўсе як адзін. Іх маўчанне яшчэ болей злавала афіцэра.
6.6/ Тады лейтэнант Безгаловы загадаў чатыром салдатам узяць за рагі коўдру. Туды паклалі злашчасны акурак. Увесь узвод у поўнай вайсковай амуніцыі здзейсніў марш-кідок на адлегласць дзесяці кіламетраў На вуліцы стаяла трыццаціградусная спёка. Камандзір ехаў ззаду на дзяжурнай машыне
6.7/ У лесе на шырокай паляне па загаду лейтэнанта Безгаловага адбылося пахаванне.
6.8/ Салдаты, папераменна мяняючы адзін другога, выкапалі дол памерамі шырынёй, даўжынёй і глыбінёй па два метры.
6 9/ Па-святочнаму, урачыста паклалі недапалак у яму, засыпалі і зрабілі насып Парадным крокам прайшлі каля магілы.
6.10/ Назад беглі ў супрацьгазах.
6.11/ Яфрэйтар Чыкін на вячэрняй праверцы сказаў, што бычок кінуў радавы Лабута.
6.12/ Ноччу аднагодкі выклікалі Міхася ў капцёрку ды пачалі біць. Старaслужачыя стаялі побач і моўчкі глядзелі.
6.13/ Зноў мыў прыбіральню да пяці гадзінаў раніцы.

## ФАРЫСЕЙСКАЯ НАВУКА

7.1/ Радавы Лабута дужа пакутаваў ад такога ладу вайсковага жыцця, але з цягам часу яго дасціпны розум шляхам шматлікіх назіранняў прыйшоў да наступных высноў:
— Не будзь дурнем, а прыкінься ім, і ўсё кепскае даруецца табе
— Не кажы, што хочаш, — не спраўдзіцца, не кажы,што думаеш,— каму яно патрэбнае
— Калі пачуеш, што ты асёл і вушы твае не мытыя, альбо мяккім месцам думаеш ці як: ведай — не дагадзіў свайму камандзіру
— Нікому не вер, што пасля чарговых палітзаняткаў ты выходзіш з Ленінскага пакоя больш адукаваным. Кожны раз ты выходзіш адтуль дурнейшым
— Не трэба лічыць камандзіра свайго разумным чалавекам, бо, каб ён меў мазгі, то ў войску не служыў бы.
— Рабі тое, што табе падабаецца, але займайся ім толькі ўпотай ад іншых.
— У казармах воўчыя законы той, хто мае, сам ці іншым падкажа, каб адабралі, — і да свайго дакладзе Інакш кажучы, калі "салага" не схавае свае рэчы, то "дэмбель" іх абавязкова адбярэ.
— Калі табе кажуць, што вышэй галавы не скочыш, а камандзіра не ашукаеш, не варта таго рабіць. Не варта таго рабіць, каб не мець непрыемнасцяў. Лепш змоўчы, абыдзі, у крайнім выпадку схавайся ў сральніку, і ўсё будзе добра.
— Прыклад таму, калі табе далі вялікую рыдлёўку і загадалі капаць ад плота да абеда, зламай яе ды зрабі выгляд, што вельмі хочаш адрамантаваць, і ўвесь дзень будзе вольны.
— Можна дагаджаць начальству, каб мець спакой і паехаць у водпуск, але такіх у войску ніхто не паважае
— Самае галоўнае, калі раніцай ты з'еў сваю долю масла, то лічы, што на адзін дзень служыць меней.

## КАХАННЕ

8 1/ Жыла ў тым пасёлку ля гарнізона прыгожая дзяўчына ды надта хацела выйсці замуж.
8.2/ Прыходзіла яна на КПП і пытала вайскоўцаў, хто хоча спаткацца з ёю
8.3/ Шмат хто з салдатаў і афіцэраў адгукаліся на яе прапанову, хадзілі на спатканне, але замуж не бралі





8.4/ Лабута пабачыў Марыю выпадкова, калі ішоў на лецішча да начальніка штаба. Жартам паклікаў з сабою Яна пайшла. І там дапамагала Міхасю палоць грады
8 5/ Яшчэ некалькі разоў дзяўчына хадзіла з ім на працу З ёю было лёгка і проста. Пяшчота і ласка ішлі ад дзяўчыны
8 6/ Казала праз некаторы час Марыя Міхасю: "Зачала я з табою дзіцё Бяры мяне замуж, каб ганьбы мне і табе не было".
8 7/ Напярэдадні хваліўся Лабута каханнем сваім адэсіту Пятру Сініцыну Смяяўся з яго Пётра і казаў яму проста ў вочы: "Не вер ёй. Курва яна"
8.8/ Кахаў Міхась Марыю моцна і жадаў мець яе жонкаю, бо, папраўдзе кажучы, так блізка яшчэ з дзяўчатамі не быў, але такое паведамленне дужа напужала яго.
8.9/ Салдат раззлаваўся і адказаў каханай "Сыдзі з вачэй, жанчына Сыдзі, блудніца Не маё гэта дзіцё"
8.10/ Міхась ударыў Марыю па твары і пайшоў прэч. Услед яму неслася· "Каханы"
8 11/ Доўга пакутаваў ён Каханне не давала прытулку яго душы, не давала спакою.

### РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

## НЕСПАДЗЯВАНАЯ ТРЫВОГА

1 1/ Падраздзяленне неспадзявана паднялі апоўначы. У казарме ўжо былі ўсе афіцэры роты ды пры зброі Салдатам таксама выдалі аўтаматы з двума боекамплектамі Лабута разгубіўся, бо з аўтамата яму даводзілася страляць толькі тры разы: два — у школе, адзін раз у каранціне
1 2/ Загадалі ўсім шыхтавацца на вайсковым пляцы.
1 3/ Камандзір палка выйшаў на сярэдзіну пляца, бессаромна пачухаў між ног і зароў· "Смірна! Слухай мой загад. Нашаму палку належыць ісці на Маскву, душыць дэмакратаў с. ных!"
1.4/ "Ура-а! — закрычаў лейтэнант Безгаловы. — Даўно б так!"
1 5/ "Сціхні, няўлюдак! — загадаў яму капітан Берагавы — Я быў у Афгане Я ведаю, што такое вайна!"
1 6/ Неспадзявана для ўсіх камандзір роты выйшаў наперад і гучна сказаў· "Салдаты! Вас пасылаюць забіваць сваіх братоў і сясцёр. Адумайцеся!"
1 7/ "Маўчаць! — зноў зароў камандзір часці — Скончыць размову ў шыхтах. Я тут камандзір. Маўчаць!"
1 8/ І надалей ён казаў прыкрыя словы капітану Берагавому, зневажаў ды абражаў
1 9/ Тут жа прыйшлі людзі ў цывільным і павялі за сабою камандзіра роты На яго пасаду адразу ж быў прызначаны лейтэнант Безгаловы Шыхты затоена працягвалі маўчаць. Пакорна маўчаў і радавы Лабута Ён шкадаваў капітана-земляка, але нічога не мог зрабіць супроць, акрамя таго, вельмі хацелася спаць.
1 10/ Калі камандзір скончыў аддаваць загады, развярнуўся і пайшоў у штаб, і ўвесь час, як ішоў туды, ад злосці размахваў рукамі ды нешта казаў самому сабе
1 11/ Вайскоўцы паспешна занялі свае месцы ў бронетранспарцёрах і машынах ды паехалі. У дарозе не вялі ніякіх перамоў.

## ЗАГАДАНА ЗАБІВАЦЬ

2.1/ Спыніліся на досвітку пасярод шматпавярховых гмахаў
2.2/ Гул вайсковай тэхнікі разбудзіў людзей, і яны здзіўлена выглядалі ў вокны
2.3/ Не было ніякай смуты Увогуле нікога не было, але ўсё роўна новы камандзір роты лейтэнант Безгаловы загадаў зарадзіць аўтаматы, а ўпрэўшы нампаліт Фрумкін несупынна хадзіў ад машыны да машыны і штохвілінна паўтараў пра пільнасць.
2.4/ Дзівіліся салдаты; навошта яны ў гэтым сонным горадзе
2.5/ Падыходзілі людзі і пра тое самае пыталіся ў іх.
2.6/ Апоўдні вуліцы пачалі поўніцца Вялізны натоўп ішоў проста на салдатаў роты лейтэнанта Безгаловага. Казалі людзі. "Мы вашыя браты, не страляйце ў нас" Спужаўся лейтэнант, замітусіўся ды рашуча загадаў· "К бою!"

2.7/ Ні адзін з салдатаў не варухнуўся
2.8/ Падбег камандзір да радавога Лабуты і зароў: "Я табе загадваю страляць" Лабута бязвольна памахаў галавою: "Не магу!"
2.9/ "Не можаш, дык я магу!" Лейтэнант Безгаловы памкнуў вырваць зброю ў салдата. Міхась адпіхнуў яго.
2.10/ "За невыкананне загада будзеш жорстка пакараны. Пад трыбунал аддам".
2.11/ Дэманстранты ўзлазілі на баявую тэхніку, раздавалі вайскоўцам кветкі ды заклікалі разам з імі ісці бараніць дэмакратыю.

## КАРЦЭР

3.1/ Спраўдзіў сваё лейтэнант Безгаловы.
3.2/ Прывялі радавога Лабуту да начальніка гаўптвахты. Ён уласнаручна забраў у салдата дзягу, насоўку, вывернуў усе кішэні.
3.3/ І крычаў маленькі, лысы чалавечак з гнілымі зубамі на збянтэжанага хлопца. "У карцэр яго, няўлюдка. Аслухацца камандзіра надумаў, волі захацеў. Згніеш тут і волі не пабачыш"
3.4/ Змясцілі Лабуту ў самую халодную, самую цёмную камеру Са столі капала вада, на падлозе стаяла лужына. Паўсюль сырасць. Шыбаў не было. Гулялі скразнякі
3.5/ Абед і вячэру не падавалі.
3.6/ Ноччу не выдавалі шынель, нары не апускалі Кожныя пяць хвілін вартавыя білі прыкладам у дзверы і раўлі: "Не спаць!"
3.7/ Напачатку Лабута хадзіў ад сцяны да сцяны; лічыў падаючыя кроплі, крокі Страшна натаміўся. На досвітку заснуў стоячы ў куце
3.8/ На сняданак падалі паўкубка цёплай вады.
3.9/ Першыя два дні адчувалася стома. Хацелася спаць. Душыла смага. Больш за ўсё пакутаваў ад думак за правільнасць свайго ўчынка.
3.10/ На трэці дзень ён адчуў бадзёрасць душы і цела. Ад здзекаў, ад злосці свой учынак цвёрда і пераканана палічыў правільным, ад таго ўздымаўся настрой ды радавалася душа.
3.11/ У той дзень смяяўся Лабута ў вочы начальніку з гнілымі зубамі і казаў яму· "Я не баюся цябе, бо за праўду пакутую".
3.12/ Ад такога казання лысіна начальніка пачырванела. Ён сціснуў кулакі і быццам шалёны звер накінуўся на хлопца.
3.13/ Праз паўгадзіны начальнік стаміўся біць, паклікаў караульных. Яны збыткавалі яшчэ гадзіну часу.
3 14/ Раніцай наступнага дня беспрытомнага радавога Лабуту адвезлі ў шпіталь.

## КАМАНДЗІРСКАЯ ЛАСКА

4.1/ Праз некалькі дзён у шпіталь зайшлі лейтэнант Безгаловы і падпалкоўнік Фрумкін
4.2/ Пытаўся нампаліт пра здароўе яго, казаў пра слынных савецкіх дактароў, што безнадзейна хворага могуць на ногі паставіць.
4.3/ Яшчэ пытаўся нампаліт, пра што піша бацька з маці, ці часта шлюць лісты дзяўчаты, як ставяцца да яго новыя сябры, ці добрыя ў яго камандзіры
4.4/ Помнячы салдацкі запавет, што не кажы праўды, яна нікому не патрэбная, радавы Лабута адказваў "так" альбо "добра".
4.5/ Лейтэнант Безгаловы стаяў моўчкі
4.6/ Надалей падпалкоўнік Фрумкін пахваліў салдата за мужнасць ды паабяцаў, што ўсе вінаватыя будуць строга пакараныя і ў Савецкай Арміі такое болей ніколі не паўторыцца
4.7/ Было перададзена гарачае прывітанне ад усяго асабістага складу гвардзейскага палка і ўручаны каштоўны падарунак — кніга "Як гартавалася сталь"
4.8/ На развітанне нампаліт яшчэ раз пажадаў хуткай папраўкі і аб'явіў тыднёвы водпуск на радзіму





## НЕ ВЕР ВУШАМ СВАІМ

5.1/ Вельмі хацелася пабыць дома, і надзея надавала сілы ды гаіла раны.
5.2/ На трэці дзень салдат папрасіў доктара выпісаць яго са шпіталя і паслаць у вайсковую часць.
5.3/ Доктар быў катэгарычна супраць, але Міхась заўпарціўся і настаяў на сваім.
5.4/ На наступны дзень невядомы лейтэнант забраў радавога Лабуту і адвёз у другую вайсковую часць. Вакол былі чужыя незнаёмыя салдаты. Тут ён сустрэў яфрэйтара Чыкіна.
5.5/ "І цябе туды ж упяклі, праўдалюбца?" — з`едліва запытаў Міхася карантыш.
5.6/ "Я хутка паеду ў водпуск", — пахваліўся Лабута.
5.7/ "Паедзеш-паедзеш, — гэтак жа адказаў яфрэйтар. — У Карабах разам з усімі паедзеш". Міхасю зрабілася млосна.
5.8/ Ноччу ўсіх салдатаў пасадзілі ў "цялячыя" вагоны і павезлі няведама куды Ніхто нічога не тлумачыў, забаронена было выходзіць з вагонаў
5.9/ З невялікімі прыпынкамі ехалі тры дні і тры ночы.
5.10/ Салдаты былі злыя, афіцэры п'яныя Усюды чулася гаворка пра вайну і Карабах.

### РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

## ВАЙНА

1 1/ Іх рота спынілася ў невядомым селішчы.
1.2/ Там быў нейкі рэзрух і вэрхал· шыбы будынкаў выбітыя, дамы спаленыя ці проста ўшчэнт разбураныя Навокал бітае каменне, друз, смецце і галодныя сабакі ў несупынных пошуках спажывы
1 3/ У ауле з жывых душ — тры стогадовыя дзяды ды адна дзевяноставасьмігадовая бабка На агародах — свежыя магілы, спераду — армяне, ззаду — азербайджанцы Несупынна страляюць з усіх бакоў
1.4/ Першы дзень ладзілі намёты, капалі ў каменнай зямлі сховы Намагаліся зрабіць нейкі побыт Стралялі толькі тры разы, і то няведама куды
1.5/ Першую ноч на чужыне Міхась Лабута правёў з яфрэйтарам Чыкіным у спаленым будынку Не размаўлялі адзін з другім. Нясцерпна смярдзелі прэлыя анучы
1 6/ Усю ноч стралялі Стралялі з аўтаматаў, гранатамётаў, гарматаў Стралялі з усяго, што магло страляць. Стралялі як армяне, так і азербайджанцы.
1 7/ Было страшна. Так страшна было ўпершыню. А яшчэ хацелася жыць.
1 8/ Каб хоць неяк супакоіць сябе, Міхась Лабута ўвесь наступны дзень цвердзіў сабе адно і тое ж: "Божа! Толькі не мяне Толькі не мяне Я жыць хачу!"
1.9/ На трэці дзень ён крыху супакоіўся На пяты не звяртаў увагі на стрэлы
1 10/ Выпадковым стрэлам камандзіру аддзялення сяржанту Кудзінаву адарвала нагу Крыві — мора!
1 11/ Днём стралялі ў накірунку азербайджанцаў, ноччу супакойвалі армян
1 12/ Казалі вайскоўцы адзін аднаму· "Калі ўсё гэта скончыцца? Калі яны хочуць ваяваць — няхай ваююць, а мы тут пры чым?"
1 13/ Міхась атрымаў ліст ад маці Пытаецца, ці ўсё добра. У адказ напісаў: "...Загараю пад сонцам "
1 14/ Праз некаторы час Міхась Лабута стаў заўважаць за сабою, што ў той дзень, калі не страляюць, яго ахоплівае самота

## СПОВЕДЗЬ НЯВІННЫХ ЗАБОЙЦАЎ

2.1/ Узвод у час перадыслакацыі трапіў пад крыжавую перастрэлку, вымушаны быў залегчы на голых скалах і не меў магчымасці ўстаць ужо каторую гадзіну Прапаршчыка Кандыбу раніла ў грудзі Старшына сплываў крывёю, стагнаў ад болю, мацюкаўся, літасціва прасіў дапамогі. Дапамогу можна было здабыць толькі зброяй
2.2/ Казаў знямоглы Кандыба камандзіру ўзвода.

— Навошта іх шкадаваць, яны не нашай веры

— Мы свядомыя забойцы, мы дзеля гэтага ішлі служыць у войска.

— Калі не мы, дык нехта іншы павінен рабіць за нас гэтую брудную справу

— Сутнасць той справы ў тым, што кожны з нас варты кулі. сёння я, заўтра ты, але ісціна такая: хочаш сам жыць — забівай іншых. Такі спрадвечны закон вайны.

— Шмат жыццяў загубіш — героем станеш

— Забівай іх, лейтэнант, забівай як мага болей. На тым свеце ўсе перад Богам будзем роўныя: забойцы і ахвяры.

2.3/ Тыя, хто ляжаў на камянях, моўчкі пагадзаліся з прапаршчыкам Пагаджаўся з ім і лейтэнант ды ўрэшце загадаў· "Агонь!"

2.4/ Бойка была кароткаю Праз пяць хвілін на грабяні перавала, дзе ішла дарога, так неабходная для выратавання прапаршчыка Кандыбы, перасталі страляць.

2.5/ Камандзір узвода і радавы Лабута першымі ўзабраліся на вяршыню. На камянях, сярод пустых гільзаў у лужыне ўласнай крыві ляжаў застрэлены старшы лейтэнант Васільеў, камандзір суседняга ўзвода іх часці, які адказваў за гэты ўчастак дарогі.

## ГОРКІЯ ДУМКІ

3.1/ Пасля кожнай стралянiны, асабліва пасля апошняга здарэння, да Міхася ўсё часцей і часцей прыходзілі навязлівыя думкі Хлопец намагаўся гнаць іх прэч, але яны вярталіся зноў і зноў Ён страшна пакутаваў ад іх, але нікому не распавядаў

3.2/ У вольную гадзіну і на баявым дзяжурстве думалася адно і тое ж.

— Каму ты служыш? Каго, рызыкуючы жыццём, абараняеш? Родны кут, бацькоў? Тут спрэс чужыя людзі ды наўкола чужая зямля. Тут іх жыццё. Яны тут зачатыя і народжаныя Тут пахаваныя іх продкі. Гэтыя клятыя горы — іх родныя горы, як тыя, што зараз далёка-далёка, лугі, гаі і дубровы, любыя твайму сэрцу краявіды

— Інтэрнацыянальны доўг, пачэсны абавязак... Пустыя словы. Хто даў права вызначаць ім, што табе рабіць? З якой нагоды ты павінен падпарадкавацца чужой волі, чужому жаданню? Чаму ты, сын сваёй зямлі, бадзяешся ў чужых краях? Калі здарыцца такая бяда дома, хто як не ты павінен ратаваць свайго бацьку, хто як не ты павінен бараніць ад здзеку сваю маці, хто заступіцца за брата і сястру, калі ты пакладзеш тут сваю галаву?

3.3/ Было ў яго да сябе яшчэ шмат іншых пытанняў, толькі ні на адно з іх не знаходзілася ўпэўненых, сцвярджальных адказаў Стагнала і плакала душа, балела сэрца і ніхто не мог яго суцешыць, наўкол былі чужына і чужынцы.

## СУСТРЭЧА З "СЯБРАМ"

4.1/ На другі месяц знаходжання ў гарах радавы Лабута выпрасіў у камандзіра ўзвода за пляшку чачы дазвол схадзіць у аул Панёс на пошту ліст да рыжай Светкі, бо да вайсковай сувязі не меў даверу У ауле ацалелі тры будынкі, але там яшчэ жылі людзі.

4.2/ І тут ён сустрэў Мамедава, з якім нядоўга служыў у адным узводзе, але асабіста знаёмы не быў Тады яны былі не роўныя — "дзед" і салага

4.3/ "Брат, — нечакана казаў яму Мамедаў. — Я так рады цябе бачыць" І плакаў, як малое дзіцё паклаўшы яму галаву на плячо.

4.4/ Міхась таксама плакаў

4.5/ Мамедаў павёў яго дамоў Адна сцяна будынка была ўшчэнт разбураная, другая ледзь трымалася

4.6/ Як казаў мусульманін армяне згвалтавалі яго сямідзесяцігадовую бабулю, зарэзалі дзевяцігадовага брата. Астатнія сваякі пайшлі прочкі, і невядома, дзе яны цяпер

4.7/ Мамедаў адкаркаваў бурдзюк. Яны пілі даўкае кіслае віно, елі гнілыя памідоры, мачаючы ў соль. Надзіва, на свеце не было нічога смачней за тыя гнілыя памідоры

4.8/ "Жыццё такая дробязь, — казаў, да апошняе валасінкі сівы, Мамедаў — Сёння жывеш — заўтра памрэш Заб'юць цябе ні за што. Косткі і тыя струхлеюць А што застанецца? Памяць. А я пакуль не паспеў нічога зрабіць, вартага памяці"

4.9/ Казаў надалей Мамедаў: "Я — мусульманін, ты — хрысціянін. Я жыць хачу, ты жыць хачу Навошта забівай чалавек чалавека? Ты мой сябра, я твой сябра. Ты прыходзь да мяне пі віно, еш шашлык, гуляй Я прыязджай да цябе ў госці пі, гуляй у цябе. Мы сябра. Мы — людзі. Хіба нас так многа на зямлі?"

4.10/ Зноў цалаваліся хрысціянін Лабута і мусульманін Мамедаў Радней іх у той час не было нікога на свеце

4.11/ Разыходзіліся, абяцалі помніць адзін аднаго.

4.12/ Лабута выйшаў за аул, як з гор прагучаў стрэл Ён паспешна вярнуўся назад.

4.13/ Мамедаў ляжаў нерухома на парозе сваёй разбуранай саклі. Шэрыя вочы літасціва свідравалі неба.

## ПОМСТА

5.1/ Камандзір узвода выклікаў радавога Лабуту ды яфрэйтара Чыкіна ды загадаў праверыць, хто кешкаецца ў спаленым будынку ля ракі

5.2/ Кароткімі перабежкамі наблізіліся яны да знявечанага жытла.

5.3/ Дзесьці ў гарах прагучаў стрэл. Куля непадалёку ад іх ударыла ў камень і дробным аскепкам рассекла яфрэйтару скроню.

5.4/ Чыкін выцер кроў, вылаяўся, зняў аўтамат і, сагнуўшыся, пабег да дома.

5.5/ Ён прагнуў помсты.

5.6/ Казаў Лабута Чыкіну: "Не страляй! Стрэл быў не адтуль. Там учора я бачыў маладую цяжарную кабету Павінны быць дзеці"

5.7/ Не слухаў яго яфрэйтар, казаў, што там азеры клятыя схаваліся, і шпурнуў у выбітае акно гранату

5.8/ Увайшлі ў разбураны будынак. На сценах кроў, на падлозе кроў, на сталі кроў І толькі пазнаць, што старая жанчына, маладая кабета ды два знявечаныя ўшчэнт дзіцячыя целы. А наўкола кроў... кроў кроў ..

5.9/ І надалей казаў нелюдзь. "А, клятыя азеры! У рот вас. так вашаму роду і трэба".

5.10/ Міхась Лабута нічога не казаў, толькі моцна сціснуў аўтамаў. Яфрэйтар няскладна ўзмахнуў рукамі, спрабаваў нешта крычаць, ды аўтаматны трэск ускалыхнуў наваколле і заглушыў яго голас.

5.11/ Галава Чыкіна лягла побач з галавой маладзіцы

5 12/ Радавы Лабута зняў з пляча аўтамат, кінуў яго на зямлю і, не выбіраючы дарогі, пайшоў прэч.

## УЦЁКІ Ў НІКУДЫ

6.1/ Міхасю Лабуце раптам зрабілася млосна ад думкі, што ён такі ж, як і карантыш Чыкін, — звычайны забойца. Бяздумнасць учынка скавала розум і волю. Хацелася некуды ісці, і толькі ў тым ён бачыў сваё выратаванне

6.2/ Ён памкнуў у горы На стромкіх схілах, пакрытых першым снегам, хутка ўставаў, зноў падаў і зноў уставаў. Цяжка даваўся кожны крок, але хлопец узбіраўся ўсё вышэй і вышэй Урэшце наўкола засталіся адны камяні і лёд.

6.3/ Падымацца ўверх ужо не ставала моцы, а жадання спускацца ўніз не было аніякага.

6.4/ Міхась бездапаможна сеў, абапёрся плячыма аб камень і закрыў рукамі вочы

6.5/ Яго і знайшлі так, сядзячым, на трэці дзень, зусім выпадкова і нечакана, знямоглага і задубелага, амаль засыпанага снегам

6.6/ Ужо падумалі, што ён мёртвы Адзін салдат абыякава варухнуў яго нагой, і хлопец падаў знак жыцця.

6.7/ Міхася на шынялі знеслі ўніз, на вайсковым грузавіку адвезлі на аэрадром, потым верталётам пераправілі ў акружны шпіталь.

6 8/ Увесь гэты час радавы Лабута быў у беспрытомнасці

### РАЗДЗЕЛ ШОСТЫ

## ГУТАРКА З БОГАМ

1 1/ Надзеі на выратаванне не было

1 2/ Ён гарэў як у агні і бесперастанку штосьці шаптаў, з некім гаварыў

1 3/ Міхась Лабута гутарыў з тым, у каго ніколі не верыў. Ён гутарыў з Богам

— Навошта Ты прымусіў пакутаваць мяне, я ж Твой сын? Хіба варта так абыходзіцца са сваім дзіцём?

— Той, каторага ты забіў, таксама мой сын

— Але ж ён не чалавек, ён гной. Ён збыткаваў з мяне, збыткаваў з іншых. Ён забойца ні ў чым не павінных людзей

— Для мяне вы ўсе роўныя, як ахвяры, так і забойцы. Вось вазьмі, адрэж на руцэ які-небудзь палец, і табе ўсё роўна балець будзе Так і мне баліць за кожнага з вас. А ты скажы, хіба маці таго хлопца, што забіў ты, не пакутуе? Для яе ён самы найлепшы, як і ты для сваёй маці

— Так.

— Гэта яшчэ не пакуты Бывае, у жыцці чалавека настае дзень, калі ён адракаецца ад блізкіх сваіх. Прыходзіць дзень, калі ён не хоча бачыць сваіх, каханыя становяцца нялюбымі Чалавек адварочваецца ад усіх, і ўсе адварочваюцца ад яго. Нямілым становіцца белы свет. Чалавек сам сабе шукае згубы ды не знаходзіць яе Чаго толькі не бывае ў жыцці Я табе сведчу пра тое. Як бы табе ні было цяжка, ніколі не адракайся ад маці і Радзімы, яны ў цябе адзіныя Ты — іх сын і навек з імі павінен застацца Усё будзе залежаць ад цябе, як ты будзеш іх кахаць, як будзеш шанаваць.

## ВЯРТАННЕ БЛУДНІЦЫ

2.1/ Калі ўжо ніхто не спадзяваўся, што салдат будзе жыць, да Міхася Лабуты вярнулася прытомнасць.

2.2/ Ён расплюшчыў вочы ды першай пабачыў перад сабою Марыю блудніцу і казаў ёй "Каханая!"

2.3/ Яна ўзрадавалася, упала яму на грудзі ды горка-горка заплакала.

2.4/ Хлопец гладзіў дзяўчыну па галаве і ціхім голасам казаў далей "Адзіная! Я буду кахаць цябе столькі, колькі жыць буду, бо ты выратавала мяне ад смерці Там, у гарах, і потым у бяспамятцве здавалася, што я блукаю па бясконцых сутарэннях ды ніяк не магу знайсці выхад. Урэшце з явілася ты з паходняю ў руках і павяла мяне да святла і сонца.

2.5/ Плакала блудніца Марыя і адказвала яму так: "Прысніўся мне адной ноччу незнаёмы сівы чалавек. Ён сказаў мне, што ты цяжка хворы і знаходзішся тут; а як я не прыеду, то ты памрэш

2.6/ Яшчэ казала Марыя так: "З сённяшняга дня я буду твая і толькі твая. Апроч цябе для мяне нікога не існуе болей Любы Каханы"

2.7/ Здавалася Міхасю, што няма на свеце нікога бліжэй і даражэй, чым гэтая распусная жанчына.

2.8/ Тут ён зразумеў свайго першага камандзіра роты капітана Берагавога Сэрцам адчуў, што той па-сапраўднаму шчыра кахаў сваю жонку

2 9/ Блудніца Марыя карміла каханага, як малое дзіцё, з лыжычкі і прыбірала за ім Не адыходзіла ні на крок ад яго, ні днём ні ноччу.

2.10/ Праз тыдзень прыехалі бацькі Міхася, малодшы брат яго ды сястра. Увайшлі ў палату, пабачылі сына ды разгубіліся бацька маўчаў, маці плакала, сястра з братам аб нечым шапталіся.

2.11/ Як ад'язджалі бацькі, маці, гледзячы на Марыю, казала "Якая цудоўная дзяўчына! Як шчыра кахае цябе!" "І я яе кахаю", — цвердзіў Міхась. "Беражы яе, — прасіў бацька. — Лепшай жонкі не знойдзеш ва ўсім белым свеце".

## СМЕРЦЬ КАХАНАЙ

3.1/ Міхась папрасіў Марыю прынесці свежай вады Яна ўзяла посуд і выйшла з палаты

3.2/ У калідоры яе перапынілі тры горцы.

3.3/ "Паслухай, дарагая, дзе тут знаходзіцца абмарожаны салдат?" — запытаў яе Мамедаў-малодшы.

3.4/ "Навошта ён вам?" — пацікавілася дзяўчына

3.5/ "Я прыйшоў помсціць за смерць брата".





3.6/ "Не забіваў ён". Марыя стала на іх шляху

3.7/ Незнаёмцы пачалі ўгаворваць яе прапусціць іх: "Паслухай, жанчына! Ён кепскі чалавек. Ён — забойца"

3.8/ "Няпраўда", — стаяла на сваім дзяўчына.

3.9/ "Саступі, — запатрабаваў чужынец. — Інакш кепска будзе"

3.10/ "Ніколі, — рашуча адказала Марыя — Я вас не баюся"

3.11/ "Адрачыся ад яго і ты будзеш жыць", — бы той воўк скаліў зубы Мамедаў-малодшы.

3.12/ "Хіба можна адрачыся ад кахання! — гаварыла блудніца — Я толькі спазнала яго. Я лепш адракуся ад свайго жыцця"

3.13/ Ад першага стрэлу Марыя ціха войкнула. Ад другога схапілася за сэрца і ўпала ля самых дзвярэй, засланіўшы сабою ўваход. Яна ратавала каханне

3.14/ Чужынцы спалохаліся і кінуліся наўцёкі.

## БЕЗ ВІНЫ ВІНАВАТЫ

4.1/ Смерць каханай зноў прымусіла Міхася Лабуту пакутаваць.

4.2/ Рой думак гвалтаваў розум, шал пачуццяў засланяў свет І ён зноў стаў губляць прытомнасць.

4.3/ Нечакана ў палату прыйшоў следчы і пачаў распытваць пра падзеі таго дня. Напрыканцы гутаркі сказаў "Ты не хворы, ты прыкідваешся ім, каб не несці адказнасць за забойства азербайджанскай сям'і"

4.4/ Следчы пайшоў, ды адразу за ім у палату зайшлі адзін чалавек у цывільным і два салдаты з аўтаматамі

4.5/ Доктар горача пратэставаў, але яго проста адпіхнулі ўбок. Салдаты ўзялі Міхася Лабуту пад рукі ды пацягнулі за сабою. Супраціўляцца ён не мог

4.6/У дзвары шпіталя яго чакала звычайная турэмная машына.

## ЗНАЁМЫЯ СЦЕНЫ

5.1/ Следчы ізалятар мала чым адрозніваўся ад гаўптвахты шэрыя сцены, змрочнасць памяшкання, дзікунства ў адносінах назіральнікаў да падследных.

5.2/ Справу даследаваў усё той жа следчы Прозвішча яго было надзвычай простае Уладзімераў

5.3/ І казаў яму Уладзімераў з картавым блізусходнім вымаўленнем, што шчырае прызнанне зменшыць яму кару

5.4/ "Не! — цвердзіў адно і тое ж Міхась Лабута — Не забіваў я тых людзей"

5.5/ Не верыў следчы і цвердзіў сваё "З твайго аўтамата не было зроблена ні аднаго стрэлу Яфрэйтар Чыкін змагаўся з баевікамі, а ты не дапамог яму Кінуў гранату ў хату і сам уцёк. Спужаўся адказнасці Твой сябра загінуў як герой У цябе няма гранаты. Вось доказ тваёй віны".

5.6/ Хлопец быў у роспачы. Хто паверыць, што Чыкін адабраў у яго новы аўтамат, а яму аддаў свой? Хто паверыць, што нябожчык забраў яго гранату, каб адчуваць сябе больш смелым?

5 7/ Зноў і зноў цвердзіў тое Лабута. Зноў і зноў яму не верылі.

5.8/ Казаў следчы Уладзімераў "За мужнасць яфрэйтара Чыкіна ўзнагародзілі ордэнам Чырвонага Сцяга, а цябе я згнаю ў турме"

5.9/ Біў яго следчы Білі салдаты Саджалі ў карцэр, не давалі есці і зноў білі Некалькі начэй не давалі спаць, і штодня гарбаносы следчы дамагаўся аднаго: "Пацвердзі мае словы"

5.10/ Калі быў згублены лік дзён, праведзеных у турме, калі знікла надзея на ўсялякае выратаванне ды справядлівасць, яго нечакана перасталі вадзіць на допыт Быццам забыліся пра яго.

5.11/ Лабута толькі еў ды спаў і лічыў, што лепш за гэты час у яго жыцці нічога не было.

5.12/ Урэшце яго выклікаў ахоўнік і адвёў у зусім іншы кабінет За сталом сядзеў чырванашчокі разанец у званні маёра. Пабачыўшы Лабуту, ён прысвіснуў, гучна вылаяўся

і сказаў· "Ну, адпрасаваў цябе, жыд пархаты Думае, як жончынае прозвішча ўзяў, дык рускім стаў Не хвалюйся. Твая справа закрыта. Усё скончана Падумаеш, застрэліў некалькі азіятаў. Няўжо мы будзем за гэта судзіць свайго хлопца? Няма ўжо СССР, разваліўся ён А раз разваліўся, значыць няма такіх законаў, каб судзіць цябе. Ідзі, служы! Выконвай свой пачэсны абавязак"

## БАДЗЯННЕ

6.1/ Новым месцам службы Міхася Лабуты стаў невялічкі гарадок на Урале.

6.2/ Казаў новы зампаліт, што Савецкі Саюз ляснуў і, дзякуй Богу, цяпер вы ўсе абаронцы Вялікай Расіі. Бульбашы і хахлы таксама самастойныя, але яны з намі заадно

6.3/ Міхасю Лабуце зноў захацелася дамоў. Ён падсвядома разумеў, што паколькі ён беларус і ўжо грамадзянін іншай дзяржавы, то з той нагоды яго могуць зноў некуды паслаць ваяваць. Гэтага ён баяўся больш за ўсё

6.4/ Некаторыя афіцэры-беларусы іх вайсковай часці добраахвотна вярталіся на Радзіму.

6 5/ І казаў радавы Лабута новаму камандзіру, што ён не хоча служыць у расійскім войску, што хоча служыць Бацькаўшчыне

6.6/ Адзін дзень казаў камандзіру, другі дзень казаў камандзіру, тыдзень казаў На службу не хадзіў Камандзір напачатку аб'яўляў пазачарговыя нарады на службу Лабута не падпарадкоўваўся. Так цягнулася месяц часу.

6.7/ Аднойчы камандзір часці вывеў яго за браму, піхануў у плечы і сказаў: "Прэч ідзі, неслух! Не хачу цябе бачыць. Шыбуй пехам у сваю Беларусь".

6.8/ Ён не меў з сабою ні рэчаў, ні грошай. Напачатку з'явілася жаданне вярнуцца назад, але ўласны гонар узяў верх, і ў вайсковую часць ён не пайшоў.

6.9/ Лабута падаўся на чыгуначную станцыю. Прайшоў пехам болей чым дваццаць кіламетраў На вакзале яго затрымаў патруль за парушэнне вайсковага строю. Прывялі ў камендатуру, правялі дазнанне Казаў салдат, што яго выгнаў камандзір часці за тое, што не хоча служыць у расійскім войску, а прагне служыць Беларусі

6.11/ Пазбыткавалі, пасмяяліся, пастрашылі трыбуналам, а ўрэшце, каб не мець лішняга клопату, вярнулі ў вайсковую часць.

6.12/ Назаўтра камандзір часці паўтарыў усё тое, што зрабіў напярэдадні

6.13/ Толькі ў трэці раз, калі вайсковы патруль проста абышоў яго, Міхась Лабута змог сесці ў цягнік.

## ЧУЖЫЯ РОДНЫЯ СЦЕНЫ

7.1/ Маці была радая смяялася, плакала ды цалавала Бацька ў адначассе наладзіў шыкоўную вячэру.

7.2/ Прыйшлі сваякі, бо грошай даваць не трэба было Прыйшлі сябры са сваімі пляшкамі ды юдзілі выпіць у ціхім закутку З дзяўчат прыйшла рыжая Светка.

7 3/ Забава была шумная Напрыканцы толькі адзін раз пабіліся далёкія сваякі Свае хлопцы ўставілі ім розуму Потым усе разам пілі зноў

7.4/ Назаўтра сусед запытаў, чаму я дома. Патлумачыў, што ў адпачынку. Хітра ўсміхнуўся.

7.5/ Запытаў старшыня сельсавета, чаму не збіраюся станавіцца на вайсковы ўлік.

7.6/ На трэці дзень і маці з бацькам увечары запыталі. "Сынок! Чаму ты не служыш?"

7 7/ Распавядаў усё, як было на самай справе З жахам у вачах маці выслухала, бацька вылаяўся і коратка зазначыў· "Вырадак!"

7.8/ Назаўтра маці на сняданак падала нішчымную кашу ды кіслае малако. Бацька не размаўляў.

7 9/ Так цягнулася ўсе наступныя тры дні На чацвёрты Міхась Лабута, як і раіла маці, вырашыў звярнуцца ў раённы камісарыят

## ЗНОЎ У ВАЕННЫМ КАМІСАРЫЯЦЕ

8.1/ З'явіўся. Папраўдзе ўсё распавядаў. Пасмяяліся ды не паверылі.





8.2/ Паказаў паперы, што ўсё зроблена акуратна. Паказаў дый сказаў: "Я хачу служыць на Беларусі"

8 3/ І адказваў раённы камісар: "Ты будзеш служыць там, куды я цябе пашлю. Ты будзеш служыць у Туркменіі"

8.4/ "Не буду, — цвёрда адказаў Міхась Лабута. — Не буду я вам, бальшавікам, служыць. Я буду служыць сваёй Бацькаўшчыне"

8.5/ "Вязніца па табе плача, але не той час", — цвердзіў сваё пуцаты палкоўнік.

8 6/ "Усе вы здраднікі сваёй Бацькаўшчыны, але я вас усё роўна не баюся, бо мне не тое давялося бачыць", — стаяў на сваім салдат

8.7/ "Добра! Ты будзеш служыць сваёй Бацькаўшчыне, але пашкадуеш аб гэтым", — троcся ад злосці камісар.

8.8/ Радавы Лабута быў накіраваны ў штаб ваеннай акругі для прызначэння месца службы.

#### РАЗДЗЕЛ СЁМЫ

## РАЗУМЕННЕ СВЯТОЙ ІСЦІНЫ

1 1/ Міхась Лабута здзівіўся свайму непрыкрытаму нахабству, з якім ён размаўляў з ваенным камісарам.

2.2/ Усю дарогу адольваў роздум над простымі і ўсім зразумелымі ісцінамі: Радзіма і маці

1.3/ "І справа ў тым, — разважаў ён, — што можна стаць маршалам і не кахаць сваю Радзіму. Можна быць салдатам і не па загаду, а з сыновай павагі, аддаць без роздуму за яе жыццё"

1.4/ Нават можна варагаваць са сваёй маці, што вельмі сумна, але не паважаць сваю Радзіму нельга. Проста нельга, бо тады ты звычайны манкурт.

1 5/ І жахнуўся Міхась сваёй думкі. Колькі вакол такіх бязродных.

1 6/ Вырашыў Лабута надалей размаўляць толькі на беларускай мове Вырашыў, як ён лічыў, пачаць з самага дробязнага, хоць не ведаў, што тое адначасова ёсць самае вялікае

## У БЕЛАРУСКІМ ВОЙСКУ

2.1/ Размеркавалі радавога Лабуту ў вайсковую· часць, што знаходзілася на Палессі пасярод пушчы

2.2/ Салдат зайшоў у штаб часці і здзівіўся. "Вох! Колькі знаёмых твараў". Ад начальніка штаба, задраўшы ўверх пысу, выйшаў лейтэнант Бусловіч, які камандаваў суседнім узводам у Падмаскоўі. Ад камандзіра часці выскачыў, як ашпараны, капітан Берагавы

2.3/ Капітан Берагавы напачатку прайшоў міма, але потым нечакана спыніўся і здзіўлена запытаў· "Лабута, што ты тут робіш?"

2.4/ Былы камандзір зрабіў усё, каб радавы Лабута трапіў у яго падраздзяленне.

2.5/ Наўкола былі чутны размовы пра Савецкую Армію і СССР

2.6/ Нечакана ў падраздзяленне прыехала камісія Міністэрства Абароны новаўтворанай Рэспублікі Беларусь. Папярэдне лейтэнант Бусловіч даслаў туды рапарт на капітана Берагавога і вінаваціў яго ў нацыяналізме, за тое, што апошні з падначаленымі размаўляе на беларускай мове.

2.7/ Правяраючы даведаўся, што радавы Лабута добра ведае капітана і выклікаў да сябе

2.8/ "Распавядай мне пра свайго камандзіра!" — запатрабаваў у яго грузны палкоўнік. "Расейскай мовы не разумею", — згодна свайму прынцыпу адказаў салдат "Я вас, блядзей, нацыяналістаў, ураз выведу на чыстую ваду", — зароў вялікі начальнік. "Маскаль, — у сваю чаргу адказаў радавы. — Акупант расійскі" "Я беларус! — пачулася ў адказ. — З Навагрудчыны родам" "Душою маскаль".

2.9/ За такую размову радавы Лабута атрымаў пяць сутак арышту

2.10/ Пасля той праверкі капітан Берагавы запрасіў Лабуту дамоў Яны пілі спірт. Казаў капітан: "Што мы за народ такі — быдла. Чаму адцураліся бацькаўшчыны... За што няміласць такая беларусу ад беларусаў Вось звольняць мяне з нашага войска, паеду да

Дудаева. І не таму, што не люблю бацькаўшчыну, а таму, што без войска жыць не магу Там хоць разумеюць — дзяржава моцная нацыянальным войскам"

## СВАЕ — ЧУЖЫЯ

3.1/ Новы камандзір узвода лейтэнант Кузьміч, родам са Стаўбцоўшчыны, загадаў сарваць крыж Ярылы з варотаў КПП Сяржант Мікуліч з Берасцейшчыны з вялікім задавальненнем выканаў загад.

3.2/ Прапаршчык Куланковіч на сваім "чыста рюскам" лямантаваў перад шыхтам салдат· "На х. я бачыў гэтую Беларусь. Я — сын Савецкага Саюза"

3.3/ "Вы, таварыш прапаршчык, байструк ці як?" — не сцярпеў радавы Лабута. Старшына раззлаваўся і ўдарыў яго кулаком у твар: "Я гэтую бляцкую беларушчыну выб`ю разам з зубамі"

3.4/ Аб здарэнні даведаўся камандзір роты Капітан Берагавы выклікаў радавога Лабуту і прапаршчыка ў канцылярыю. "Будзеш скардзіцца, падтрымаю цябе", — сказаў ён салдату "Няхай просіць прабачэння па-беларуску", — прагучала ў адказ.

3.5/ "Даруй. Прашу прабачэння, — залямантаваў па-тутэйшаму старшына. — Болей такога не будзе"

3.6/ "Пайшоў прэч, халуй расейскі", — прагнаў яго Берагавы

3.7/ Шарагоўцы, простыя вясковыя хлопцы, устыдаліся гаварыць матчынаю мовай

3.8/ Толькі малодшы сяржант Касымаў, узбек, салдат апошняга года службы, які вельмі паважаў капітана Берагавога, не ўстыдаўся беларускай мовы і на ёй падаваў загады· "Сіхт, звазяй!" Усе смяяліся з яго, перадражнівалі, а ён усё роўна цвердзіў· "Крокам русь!"

3.9/ Толькі два расійцы-афіцэры — старшы лейтэнант Волкаў і лейтэнант Строгаў — нічым асаблівым не вызначаліся, а паводзілі сябе як і раней У Расію вяртацца не збіраліся.

3.10/ Наўкола была большасць беларусаў, і размаўлялі яны выключна на трасянцы, але чыстае беларускае мовы не паважалі. Цураліся ўсяго беларускага.

## УСЁ ВЯРТАЕЦЦА НА КРУГІ СВАЯ

4.1/ Афіцэры службаю асабліва не даймалі, бо лічылі, што ён сваяк Берагавога. Старaслужачыя з той нагоды цярпелі яго ды не прызначалі да непатрэбнай працы Простыя салдаты не сябравалі — лічылі дзіваком ды бэнээфаўцам.

4.2/ Праз два месяцы капітана Берагавога звольнілі з войска Сталася тое так. Выклікаў камандзіра роты сам міністр абароны беларускай дзяржавы ды прапанаваў· "Ці ты ўласнаручна пішаш рапарт на звальненне і атрымліваеш кватэру, дзе пажадаеш, ці мы цябе "замурыжым" праверкамі ды ў рэшце рэшт звольнім з войска без пенсіі"

4.3/ Не меў вайсковец да гэтага часу сталае кватэры і вымушаны быў прыняць прапанову

4.4/ І застаўся радавы Лабута сярод беларусаў адзін Становішча яго ўмомант змянілася

4.5/ Прапаршчык Куланковіч на наступны ж дзень перад шыхтам салдатаў кпіў з беларускасці радавога.

4.6/ Камандзір узвода аб'явіў трое сутак арышту невядома за што

4.7/ Старaслужачыя пачалі прымушаць яго, як маладых салдатаў, чысціць зброю ды выконваць іншую працу.

4.8/ Так доўжылася тры месяцы.

4.9/ За гэты тэрмін зніклі беларускамоўныя надпісы ў роце

4.10/ За невыкананне задання сяржант Філіповіч пачаў біць Міхася прыкладам аўтамата па галаве Хлопец закрываў галаву рукамі, і сяржант параніў яго Салдат пайшоў у медпункт, але па дарозе яго перапыніў камандзір узвода. Пра гэты выпадак яму ўжо пераказалі. Ён вярнуў Лабуту ў казарму ды загадаў маўчаць.

4.11/ Рана была глыбокая Сплыло шмат крыві, і ў рэшце рэшт яго вымушаны былі змясціць у шпіталь.

4.12/ Здарэннем занялася вайсковая пракуратура, але гэтую судовую справу чамусьці хутка закрылі





## ВЫГНАННЕ

5.1/ Радавога Лабуту адразу пасля шпіталя накіравалі на "кропку"

5.2/ Пасярод неасушанай палескай твані знаходзілася невялічкая выспа У густым хмызнячку стаялі казармы ды іншыя пабудовы вайсковай часці, што з'ехала ў Расію.

5.3/ Салдату было загадана ахоўваць ад рабавання неіснуючую маёмасць неіснуючай вайсковай базы.

5.4/ Сухі паёк быў выдадзены на тры дні.

5.5/ Ніхто не прыехаў і на чацвёрты дзень. Вымушаны быў пайсці збіраць шчаўе ды ягады. Не стаў галіцца. Праз некалькі дзён перастаў умывацца.

5.6/ Дзесяць дзён прайшло. Ніхто не наведваўся на гэты вайсковы аб'ект Не правяраў яго. Не вёз харчаванне.

5.7/ Ягадаў гэтым летам было мала. Міхась усе дні бадзяўся па пустых казармах у надзеі здабыць хоць нейкую спажыву.

5.8/ Лабута згубіў лік дням свайго знаходжання тут Згубіў чалавечае аблічча, нават надзею.

5.9/ На чатырнаццаты дзень знаходжання на "кропцы" ў яго пачаліся галодныя мроі

5.10/ І пабачыўся яму капітан Берагавы, што сурова ды грозна казаў радавому Лабуце "Парася ты няшкрэбанае, на каго ты падобны стаў? Навошта беларусаў ганьбіш?"

## УЗЫХОДЖАННЕ

6.1/ Найпершым чынам радавы Лабута прывёў сябе да належнага выгляду· пагаліўся, памыўся, пачысціў апратку, наглянцаваў боты, падшыў свежы каўнерык.

6.2/ Пачынаючы з гэтай гадзіны Міхась вырашыў непахісна выконваць распарадак, заведзены ў іх вайсковай часці, нават калі яго ніхто не будзе кантраляваць.

6.3/ Ля афіцэрскіх домікаў адшукаў некалькі градаў бульбы Прыгатаваў сняданак ды прытупіў голад.

6.4/ Адзін з вучэбных класаў адвёў сабе пад жыллё Са зламанай мэблі выбраў сабе штосьці прыдатнае да ўжытку Над ложкам змясціў "Пагоню"

6.5/ У Ленінскім пакоі адшукаў рознакаляровыя кавалкі матэрыі, пашыў бел-чырвона-белы сцяг і ўзняў яго над будынкам былога штаба.

6.6/ Цяжка было кантраляваць сябе некалькі дзён напачатку Надалей радавы Лабута прызвычаіўся ды выконваў распарадак адпаведна вайсковаму статуту

## ГОРКІ СМАК ЧУЖОЙ ЛАСКІ

7 1/ Нечакана на аб'ект прыехаў сам камандзір вайсковай часці Ён суправаджаў нейкага генерала.

7 2/ Радавы Лабута сустрэў іх ля КПП, дзе таксама вывесіў герб "Пагоня" і як след адрапартаваў

7 3/ Генерал агледзеў усе пабудовы, зазірнуў ва ўсе закуточкі, пацікавіўся бытам салдата і ўсім застаўся задаволены

7.4/ З той нагоды быў задаволены і камандзір вайсковай часці ды пачаў выхваляцца перад генералам "Вось якія ў мяне салдаты, таварыш генерал. Дысцыплінаваныя, выхаваныя ў рамках вайсковага статута, і нават без камандзірскага нагляду выконваюць яго. Сапраўдныя патрыёты сваёй Бацькаўшчыны Такіх у нас большасць"

7 5/ Генерал аддзячыў радавога Лабуту за ўзорнае выкананне службовых абавязкаў пазачарговым водпускам

7.6/ Ад казённых сухіх ды абыякавых слоў генерала ў вайскоўца вочы поўніліся слязьмі і хацелася проста лаяцца самымі брыдкімі, самымі апошнімі словамі.

7 7/ Міхась стрымаў свой гнеў і толькі скрозь зубы выцісную з сябе "Служу Айчыне!"

7 8/ Камандзір вайсковай часці загадаў салдату збіраць свае пажыткі ды ехаць на месца былой службы.

7 9/ Не было ніякага жадання вяртацца назад. Душою ён прыкіпеў да гэтых пустых казармаў.

РАЗДЗЕЛ ВОСЬМЫ (АПОШНІ)

## НЯЎМОЛЬНЫ ЧАС

1.1/ У часці радавы Лабута не змяніў сваіх паводзінаў

1 2/ Начальства пра абяцаны водпуск забыла на наступны дзень. Пацягнуліся звычайныя вайсковыя будні, нічым асаблівым не рознячыся ад першага дня службы

1.3/ Неяк зусім нечакана тэрмін службы переваліў на другую палову У падраздзяленні з'явілася чарговае маладое папаўненне

1.4/ Аднапрызыўнікі згубілі падтрымку старэйшых і распачалі ставіцца да Лабуты як да роўнага. Кпілі не так балюча.

1.5/ "Салагі" ставіліся да беларускамоўнага салдата насцярожана-падазрона, але слухаліся.

1 6/ Не зважаючы ні на што, час імчаў да "дэмбеля".

## НОВЫЯ СТАСУНКІ

2.1/ Новы час прыносіў новыя змены. Адносіны паміж вайскоўцамі паступова пачалі мяняцца. Маладыя салдаты адчувалі сябе больш вольна і паводзілі больш нахабна.

2 2/ Аднаго разу нават цярплівы Міхась Лабута не вытрываў Навабранцу Каспяровічу, што абразліва выказаўся пра беларускую мову, даў добрага кухталя. Усе стараслужачыя з ім пагадзіліся.

2.3/ Малады салдат адразу паскардзіўся камандзіру

2.4/ І казаў яму новы камандзір. "Ты ўвесь час дамагаешся справядлівасці, праўды, патрабуеш годнасці і няведама яшчэ чаго. А вось тут і праявіўся твой салдацка-жывёльны інстынкт· кулак вырашае ўсе праблемы. Так ці не?"

2.5/ Адказваў яму Лабута: "Чалавек, што не паважае сваю мову, — звычайная жывёліна. Мова абараніць сябе не можа, у яе павінен быць надзейны абаронца. Абражаць мову ў сваёй прысутнасці нікому не дазволю, нават вам, хоць вы старэйшы за мяне па ўзросце, пасадзе і званні"

2.6/ Пагадзіўся з ім камандзір ды перад шарэнгаю вайскоўцаў загадаў усім устрымацца ад падобных выказванняў

2.7/ Кола дзён вайсковых надалей нястрымана кацілася ўперад. Міхась колькі разоў хадзіў у "самаволку" Бывала, са службоўцамі, калі паблізу не было начальства, ужываў гарэлку Нёс і службу

2.8/ Ад няма чаго рабіць напісаў ліст рыжай Светцы. І ў першую ж суботу яго паклікалі на КПП. Там радавога Лабуту чакала прыгожая статная дзяўчына, у якую нельга было не закахацца. Усе хлопцы зайздросцілі яму Дзяўчына няблізкую дарогу адольвала ў кожны свой выхадны дзень Шал кахання спапяляў абодвух.

2.9/ Між іншым радавы Лабута з нецярпеннем чакаў свайго звальнення.

## "ДЭМБЕЛЬ" ЦІ ...НАРЭШЦЕ СВАБОДНЫ

3.1/ Разам з усімі Міхась Лабута адсвяткаваў "сто дзён да загаду", "абмыў" загад ды гадаў, у якой партыі будзе звольнены

3.2/ "Нулявою" партыяй быў звольнены шафёр камандзіра, у "першай" — дагаджальнікі камандзіраў падраздзяленняў Праз месяц былі звольненыя ўсе, каго толькі можна было звольніць, нават апошнія недарэкі Радавы Лабута працягваў служыць.

3.3/ І толькі праз два месяцы камандзір часці выклікаў да сябе салдата.

3.4/ "Ты някепскім салдатам быў, радавы Лабута, але служыў у войску даўжэй за іншых з-за сваіх нацыяналістычных прынцыпаў Звольнішся ты, і ў маім падраздзяленні ўсё будзе, як у былыя часы, як у Савецкім войску "

3.5/ І адказваў Лабута так: "А я не стану тым, кім быў, і мяне ўжо нічым не спалохаеш За свой край, за сваю мову я гатовы памерці хоць зараз. А калі вы, няўлюдкі, захочаце вярнуць былое, першы паўстану суперак. Здраднікаў сваёй Айчыны не стоміцца забіваць рука"

3.6/ З тым пайшоў, толькі на развітанне сказаў· "Апамятайцеся, інакш я вярнуся"








*"Кожны з вершаў, якія я склаў у сваім жыцці, быў напісаны як перадсмяротны верш".*

*Пра ЯГО*

# ХАЙКУ

## ДАСЯГНУЦЬ ПРАСВЯТЛЕННЯ І ВЯРНУЦЦА Ў СВЕТ

## ПРА ЯГО

*На пачатку XVII стагоддзя ў Японіі нарэшце, пасля безлічы лакальных войнаў, склалася моцная цэнтралізаваная ўлада. З гэтага моманту на працягу двух з паловай стагоддзяў (1603–1867) Японіяй кіравалі нашчадкі роду Такугава. Гаспода ўладара была ў горадзе Эда (цяпер Токіа). Аднак сталіцай па-ранейшаму лічыўся горад Кіёта, дзе жыў пазбаўлены ўсялякай улады імператар, які бавіў час, слухаючы музыку і ладзячы паэтычныя турніры.*

*Мір у краіне паспрыяў росту гарадоў, ажыўленню гандлю, рамёстваў і мастацтваў У аснове афіцыйна дэклараванай палітыкі і эканомікі былі натуральная гаспадарка і натуральны абмен, але ў канцы XVII стагоддзя вялікую ролю пачынаюць адыгрываць грошы.*

*У другой палове XVII стагоддзя гарадская культура ў Японіі дасягнула вялікага росквіту Звычайныя пабытовыя рэчы афармляліся як творы мастацтва. Танныя кнігі з цудоўнымі ілюстрацыямі, якія друкаваліся ксілаграфічным спосабам з драўляных дошак, выходзілі вялікімі для таго часу накладамі. Гандляры, рамеснікі і ўвесь гарадскі люд заахвоціліся чытаннем раманаў, модных вершаў, пацягнуліся ў тэатры.*

*У гэтую пару ў Японіі з'явілася цэлае суквецце яркіх талентаў, акрамя Басё згадаем найперш раманіста Іхара Сайкаку (1642–1693) і драматурга Цікамацу Мондзаэмона (1653–1724).*

*Басё ("Бананавае дрэва" найбольш вядомы псеўданім трэцяга сына самурая Мацуа Ёдзаэмона, з якім паэт увайшоў як у японскую, так і ў сусветную літаратуру) нарадзіўся ў 1644 годзе ў горадзе Уена правінцыі Іга. Калі хлопцу споўнілася 18 гадоў, яму далі імя Мунэфуса – узамен першых дзіцячых імёнаў Кінсаку, Хансіці, Тасіціра, Цюэмон, Дзінсіціра.*

*Правінцыя Іга знаходзілася ў цэнтры вострава Хансю і была калыскай японскай культуры. Родныя будучага вялікага паэта былі адукаванымі людзьмі. У першую чаргу тады гэта азначала веданне кітайскіх класікаў. Бацька і старэйшы брат Басё працавалі прафесійнымі выкладчыкамі каліграфіі (на тую пару большасць самураяў ужо займела мірныя прафесіі).*

*У 1653 годзе Басё паступіў на службу да Тода Ёсітадзі, заступніка вайсковага начальніка ва Уена. З цягам часу яны пасябравалі, і не толькі таму, што былі амаль раўналеткамі, а найперш таму, што абодва ўсур'ёз захапляліся паэзіяй. Ёсітадзі меў магчымасць вучыцца ў найлепшых паэтаў правінцыі і сваімі ведамі дзяліўся з сябрам.*

*Першы з вядомых вершаў Басё датуецца 1662 годам. У 1664 годзе адзін верш Ёсітадзі і два вершы Мацуа Мунэфуса*

# *ХАЙКУ*

*

**Вясна на двары.**
**Толькі дзевяць дзён**
**палям і пагоркам.**

*

**Сакуры зацвілі —**
**і ночы**
**мінулі ў наўколлі.**

*

**Цягне цыбаты дождж**
**парасткі ўгору.**
**Утравянела сцежка.**

*

**Перад красою кветак**
**і месяц зніякавеў: схаваўся**
**за аблачынку.**

*

**Спадае вада: вярба**
**гладзіць нахіленым веццем**
**ціну.**

*

**Вясна адыходзіць:**
**птушкі смуткуюць, у рыбін**
**вочы-слязіны.**

*

**Цёхкаюць салаўі!**
**Тут — перад гэтым гаем,**
**там — за тою вярбінай.**

*

**І самага доўгага дня**
**замала,**
**каб выспевацца, жаўруку.**

*

**Ластаўкі, выпадкова**
**мне ў чарку з віном не ўкіньце**
**глебы драбок!**

*

**Рассталіся двое сяброў —**
**двое дзікіх гусей: між імі**
**шырэе захмараная мяжа.**

# Дасягнуць прасвятлення і вярнуцца ў свет

**У адной са сваіх лекцый лаўрэат Нобелеўскай прэміі 1968 года Кавабата Ясунары найвысокім дасягненнем японскай літаратуры назваў: у прозе – раман "Гендзі-монагатары" пісьменніцы X ст. Мурасакі Сікібу, у паэзіі – вершы паэта XVII ст. Мацуа Басё. Англамоўны пераклад рамана "Гендзі-монагатары" цяпер вывучаецца ў некаторых амерыканскіх каледжах у курсе літаратуры XX ст. Што да вершаў Басё, то яны ў такой меры ў кантэкст сучаснай сусветнай літаратуры не ўпісаліся. Але можа атмасфера якога з наступных стагоддзяў будзе для іх больш спрыяльнай? Ці зорны час вершаў Басё ўжо прамінуў назаўсёды? Верагодна, больш слушнае ўсё ж такі першае меркаванне. Еўрапейскія літаратуразнаўцы параўнальна нядаўна пачалі грунтоўна вывучаць паэзію Басё. Агульнай ацэнкі, як і пры вывучэнні кожнай іншай вялікай падзеі мастацтва, у навукоўцаў няма. Яны або пярэчаць, або дапаўняюць адзін аднаго, спрабуюць параўноўваць Басё з еўрапейскімі паэтамі – у выніку чаго мы і атрымліваем хоць нейкае ўяўленне пра японскага паэта. І ўсё-такі, чытаючы гэтыя працы, прыходзіш да высновы, што паэзія Басё – няўдзячны матэрыял для еўрапейскіх даследчыкаў.**

**Аднаму з іх, Р. Блайсу, належаць такія словы: "Хайку (жанр, у якім працаваў Басё. – *Г.Т.*) не ёсць верш, не ёсць літаратура; гэта рука ў нейкім жэсце, гэта напаўадчыненыя дзверы, гэта чыста выцертае люстэрка". Хаця той жа Р. Блайс назваў адно з хайку Басё ("Старая сажалка") ідэальным вершам, мадэллю паэзіі. Украінская даследчыца Н. Шэфтэлевіч даводзіць, што вершы, напісаныя пэндзлем Басё, – гэта не лірыка прыроды ў еўрапейскім разуменні гэтага тэрміна, а "лірыка самой прыроды", якая пакідае паэту толькі ролю медыума, і інфармацыю яму пастаўляюць не духі, а цалкам рэальныя прадметы і з'явы прыроды. Вось да якой "паслядоўнасці", "містыкі" штурхае даследчыкаў паэзія Басё. Што тады казаць пра паспалітага чытача! Для яго, нягледзячы на вялікую колькасць перакладаў, гэтая паэзія застаецца вялікай таямніцай.**

**Творчая спадчына Басё налічвае прыблізна тысячу хайку, некалькі вандроўных дзённікаў, каментарыі да паэтычных анталогій, лісты да сяброў і вучняў, а яшчэ некалькі соцень страфаў, напісаных падчас складання "рэнку" – калектыўных паэм. Найболей вядомыя ў Японіі і за яе межамі – яго трохрадковікі "хайку". Трохрадковік – паэтычная форма, якая выдзелілася з іншай, больш шырокай формы японскай паэзіі – пяціpадковіка. Японцы не карыстаюцца колькаснымі пазнакамі гэтых вершаў. Пяціpадковік яны называюць "танка" (літаральна "кароткая песня"). Запісваецца танка звычайна ў адзін радок, а пяціpадковікам у еўрапейскіх мовах яна называецца таму, што складаецца з пяці рытмічных фігур (ка-**

*былі надрукаваныя ў анталогіі "Сайа-но Накаямасю" Праз год Ёсітадзі і Мунэфуса разам з найслыннымі паэтамі правінцыі бяруць удзел у складанні калектыўнай паэмы на сто строфаў.*

*Як бачым, паэтычная кар'ера Басё пачыналася вельмі ўдала, але ў 1666 годзе Тода Ёсітадзі памёр, Басё страціў не толькі сябра і калегу, але і ўплывовага патрона, які, напэўна, спрыяў бы яму ў службовай кар'еры.*

*Бадай гэта і сталася асноўнай прычынай таго, што ў 1672 годзе (паэту тады было 28 гадоў) Басё пакінуў службу і з томікам сваіх вершаў выправіўся ў Эда, дзе далучыўся да суполкі паэтаў, якую ўзначальваў Кітамура Кігін. Тады ж Басё пачаў старанна вывучаць філасофію Чжуан-Цзы і будыйскую філасофію мастацтва сярэднявечча.*

*На тую пару Басё ўжо меў сякую-такую вядомасць як паэт, яго вершы друкаваліся ў сталічных зборніках, яго запрашалі на паэтычныя турніры. Але жыццё ў Эда складвалася для яго няпроста. Нейкі час ён служыў у ведамстве па будаўніцтве водных шляхоў, аднак яго служба там не задоўжылася. Потым ён пачаў зарабляць грошы, працуючы настаўнікам паэзіі. Гэтая праца давала яму шмат задавальнення, але няшмат прыбытку Праўда, адзін з вучняў, сын багатага рыбара, угаварыў бацьку па-*

*

**Старая сажалка.
Жабка ў ваду
скокнула: гук усплёску.**

*

**Лётае матылёк
трапятлівы ў полі —
вось і ўвесь цень.**

*

**О, прачніся, прачніся —
зрабіся маім сябруком,
знерухомлены матылёк!**

*

**На кветку, якая не пахне,
сеў матылёк —
вяльможлівыя прыцуды.**

*

**Блукалец-крумкач, ці знойдзеш
леташняе гняздо?
У квецені — слівы.**

*

**Разлі свой водар і тут, ля ўзгорка,
дзе здабываюць зляжалы торф,
квяцістая сліва!**

**лонаў), якія ідуць у наступнай паслядоўнасці: 5 - 7 - 5 - 7 - 7 складоў (усяго 31 склад). Першая частка "кароткай песні (5 - 7 - 5) па-японску называецца "хоку" (літаральна "пачатковы сказ"), а другая частка (7 - 7) — "агеку" (літаральна "канцавы сказ"). Ужо ў паэтычнай анталогіі VIII ст. "Ман`ёсю" сустракаецца "кароткая песня", пачатковы сказ якой склаў адзін аўтар, а канчатковы — іншы. З цягам часу такі спосаб стварэння пяцірадковікаў набыў шырокую папулярнасць, і паступова хоку стаў самастойнай паэтычнай формай. Але адценне незавершанасці так і засталося адметнасцю гэтай формы, асабліва ў жанры "хайку". Хайку — адзін з двух літаратурных жанраў, што існуюць у форме хоку. У станаўленні хайку, у набыцці ім тых рысаў, якія ў асноўным характарызуюць гэты жанр і сёння, асноўная заслуга належыць Мацуа Басё і яго вучням. <...>**

**На той час у Японіі панавала паэзія, якая называлася "хайкай". Гэта не форма і не жанр, а цэлы літаратурны напрамак. У XVII стагоддзі гэты тэрмін ахопліваў і трохрадковікі, і калектыўныя паэмы, і нават некаторыя формы прозы. На працягу некалькіх папярэдніх стагоддзяў слова "хайкай" выкарыстоўвалася для пазначэння розных "нізкіх" паэтычных жанраў. Іерогліф "хай" прыблізна перакладаюць як "гумарыстычны, жартаўлівы", але адносна паэтычных тэрмінаў, у якія ўваходзіць гэты корань, дакладней было б яго перакладаць як "несур`ёзны", "нетрадыцыйны", "некананічны", бо паэзія "хайкай" узнікла і развівалася як своеасаблівая альтэрнатыва класічнай японскай паэзіі "вака" (літаральна "японскія песні"), паэзіі "высокага стылю", якую прадстаўляюць знакамітыя анталогіі "Ман`ёсю", "Кокінсю" (905 г.), "Сінкокінсю (1205 г.).**





*

**Дзяржальна гэтага малатка
калісьці было камлём
камеліі ці мо — слівы?**

*

**Зрабілі душою сваёй салаўя
і спяць?
Ніцыя вербы.**

*

**Стварайцеся, на мой стары твар
не падобныя вершы!..
Першай сакуры цвет.**

*

**О, колькі сягоння
прыгадваецца ўсяго: гляджу
на сакуру ў цвеце.**

*

**І гэтак штогод!
Ападаючы з сакуры, цвет
корміць карэнне.**

*дарыць Басё невялікую вартаўнічую хацінку на беразе маленькай сажалкі.*

*У вершах напісаных на пачатку 80-х гадоў Басё любіў згадваць сваю Бананавую хатку (Басё-ан), названую ім гэтак таму, што ён пасадзіў каля яе бананавыя дрэўцы. Дарэчы, менавіта адсюль і яго асноўны псеўданім.*

*У аснову створанай ім паэтыкі Басё паклаў эстэтычны прынцып "сабі" Першапачатковае значэнне гэтага слова можна прыблізна перакласці як "сум самоты". Прыгажосць, згодна гэтаму прынцыпу павінна выяўляць складаны змест у простых строгіх формах, якія схіляюць да сузірання ў самотным одуме.*

*Ціхамірнасць, някідкія фарбы, элегічная журба, гармонія, дасягнутыя лаканічнымі сродкамі, — гэта і ёсць мастацтва "сабі", якое клікала да адслanення ад марнасці штодзённага жыцця.*

*Паэтыка, заснаваная на прынцыпе "сабі", найбольш поўна выявілася ў пяці зборніках, створаных Басё і яго вучнямі ў 1684 1691 гадах: "Зімовыя дні" "Вясновыя дні", "Сцішанае поле", "Гарбуз-Гарлянка" і "Саламяны плашч малпы" (кніга першая).*

*У апошнія гады свайго жыцця Басё заявіў вядучым прынцыпам сваёй паэтыкі "карумі" (лёгкасць). Ён сказаў сваім вучням: "Цяпер я імкнуся да вершаў якія былі б плыткімі, як*

**Зарадзіўшыся яшчэ ў перыяд росквіту паэзіі "вака" (VII—VIII стст.), "несур`ёзныя вершы" паступова адсланілі яе на другі план. Хаця і ў XVII ст. былі паэты, што працягвалі складаць вершы ў класічнай форме "танка", якая на тую пару стала дамінуючай страфою ў паэзіі "вака" і фактычна яе сінонімам, бо іншыя страфы, "седока" (шасцірадковік) і "цёка" (шматрадковы верш), ужо даўно былі ў заняпадзе. Таму цяпер ужо не прыхільнікі "высокага стылю" вялі рэй у літаратурным жыцці Японіі, а прадстаўнікі некананічных жанраў. Не адмовіўшыся зусім ад формы класічнай "кароткай песні", паэты хайкай выкарыстоўвалі яе нетрадыцыйна або бралі для сваёй паэзіі толькі першую частку гэтай формы — хоку — і называлі гэтыя вершы "хайкай-но-хоку" (скарочаная форма гэтага тэрміну "хайку" з`явіцца пазней), або складалі цэлую нізку пяцірадковікаў, але абавязкова гуртом і яшчэ знітоўвалі хоку і агеку — гэткія паэмы-ланцужкі называліся "рэнку" (літаральна "сашчэпленыя сказы"). Гэта унікальны ў сусветнай паэзіі спосаб вершавання. <...>**

**У трэцяй чвэрці XVII ст., калі Басё пачынаў сваю паэтычную кар'еру, у Японіі існавалі дзве школы паэзіі хайкай: Тэймон, заснавальнікам якой быў Мацунага Тэйтоку (1571—1653) і Данрын, якую распачаў Нісіяма Соін (1605—1682), хаця, праўда, ні той, ні другі не былі самымі таленавітымі прадстаўнікамі гэтых накірункаў. Прыхільнікі школы Тэймон стыль сваіх вершаў называлі Кофу ("старажытны стыль"), а паэты Данрын вызнавалі зусім супрацьлеглыя погляды Орандру (літаральна "ў галандскім духу", гэта значыць, на замежны кшталт, зразумела, уяўны). На практыцы гэта выяўлялася ў тым, што тэймонцы ў выбары тэмаў арыентаваліся на класічную паэзію, яны вельмі насця-**

*рэчка Сўнагава" ("Пясчаная рэчка").*

*Гэты тэзіс Басё можна трактаваць па-рознаму, але найперш паэт у ім адпрэчвае ўяўную глыбіню, эфект якой хутка навучыліся ствараць паэты-імітатары. Познія вершы Басё зусім не "плыткія", яны лёгкія, празрыстыя, дакладныя ў кожным складзе слова.*

*Выразнікам новага стылю Басё з'яўляюцца два зборнікі. "Мяшок вугалю" (1694) і "Саламяны плашч малпы" (кніга другая), якія выйшаў ужо пасля смерці паэта, у 1698 годзе.*

*Басё стварыў пяць вандроўных дзённікаў, у якіх лірычная проза чаргуецца з вершамі. "Косткі, якія бялеюць у полі", "Вандроўка ў Касіма", "Лісты вандроўнага паэта", "Дзённік вандроўкі Сарасіна" і "Па сцежках поўначы"*

*Зімой 1982 года вялікі пажар выпаліў значную частку Эда, згарэла і "Бананавая хатка" Басё. Гэта падштурхнула яго выправіцца ў вандроўку па краіне. Восенню 1694 года ён з адным са сваіх вучняў пакінуў Эда. Дзесяць гадоў, з невялікімі перапынкамі, Басё падарожнічаў па Японіі. Часам ён вяртаўся ў Эда, дзе сябры адбудавалі яго "Бананавую хатку", але доўга там не затрымліваўся.*

*Памёр Басё ў горадзе Асака ў 1694 годзе.*

**Падрыхтаваў**
**Валянцін АКУДОВІЧ.**

*

**О, як я зайздрошчу ёй:**
**у гарах**
**сакура закрасавала.**

*

**Нават галандцы, і тыя**
**прыехалі сакурам дзівавацца.**
**На конях — сёдлы.**

*

**На сакуры, што зацвілі,**
**дуб не звяртае ніякай увагі:**
**сам сабе постаць!**

*

**Ах, верабейка-дружа,**
**не з'еш авадня: і яго**
**прывабілі кветкі.**

*

**Нават славуты вой,**
**захоплены сакурай, ператварыўся**
**ў сем простых ваяк.**

*

**Згук звону растаў. Паветра**
**дыхае водарам.**
**Вечар.**

рожана і неахвотна ўводзілі ў свае вершы "непаэтычную", жартаўлівую лексіку, калі спрабавалі пашырыць традыцыйны паэтычны канон. А данрынцаў можна назваць змагарамі супраць усіх папярэдніх канонаў. Яны былі эксперыментатарамі і ў тэматыцы, і ў лексіцы, і нават у форме — колькасць складоў у іхніх хоку часта значна перавышала лічбу 17. Гэтыя дзве школы варагавалі паміж сабой — накал палемікі ў гэтым супрацьстаянні беспрэцэдэнтны для японскай літаратуры. Але ўсялякая дыскусія ў рэшце рэшт дае станоўчыя вынікі. У гэтым выпадку яны былі пазітыўнымі для паэзіі хайку. Некаторыя паэты, стомленыя бясконцымі сваркамі, парывалі з абедзвюма школамі і шукалі кампрамісныя шляхі. Так паступова ўзнікла трэцяя школа хайкай, якая займела назву Сёмон. Гэтаму напрамку ўдалося арганічна паяднаць найлепшыя рысы двух папярэдніх: ад Тэймона было ўзята паважлівае стаўленне да традыцыі нацыянальнай літаратуры, а ад Данрына — неабмежаванасць тэматыкі, прага пошуку. Акрамя гэтага прадстаўнікі новай школы надавалі вялікую ўвагу кітайскай класічнай паэзіі і філасофіі. Менавіта ў школе Сёмон складанне вершаў ператварылася ў сапраўды сур'ёзны занятак. <...>

Некаторыя рысы новага стылю, які пазней стане называцца Сёфу ("сапраўдны стыль"), пачалі з'яўляцца ў творах паэтаў, што фармальна належалі да школаў Тэймон або Данрын, такіх як Іта Сінтоку, Ікенесі Гансуй, Уедзіма Оніцура, Конісі Ройдзан. Але найбольшы ўнёсак у станаўленне новага стылю зрабіў Мацуа Басё. <...>

Увогуле, адзначым, уся творчасць Басё — гэта яскравы прыклад арганічнага паяднання паважлівага стаўлення да традыцыі і несупыннага пошуку новага, вы-





*

**Мо для мяне пакінуў?**
**Прайшоў журавель, не абскубшы**
**балотнай пятрушкі.**

*

**Спякотлівы ліпень!**
**Акрыла хмурынкаю галаву**
**гара Арасі.**

*

**Летнія ліўні!**
**Вада ў рацэ**
**зраўнялася з вадаспадам.**

*

**Месяц дажджоў. Схілілі**
**сланечнікі галаву:**
**можа, сонца — унізе?**

*

**Згадаў галінку сасны —**
**і ўраз**
**адчуў прахалоду.**

*

**З вязанкаю сена на спіне:**
**дарожны ўказальнік**
**мне той чалавек у стэпе.**

*

**Верхнюю вопратку зняў**
**і нясу на сабе — вось і ўсе**
**змены з зімы на лета.**

*

**На рысавым полі ўвішна.**
**І я вандрую ўвесь век — няйначай,**
**рыхтую свет пад сяўбу.**

*

**Хадземце, сябры, са мною!**
**Калоссе будзем жаваць,**
**спаць на траве пад небам.**

*

**Схапіўся, як за апору,**
**за колас жытнёвы.**
**О, ростань!**

*

**Ірысы. Прысесці ля іх**
**і пагутарыць — хіба гэта**
**таксама не падарожжа?**

сокай духоўнасці і здольнасці цешыцца са звычайных драбніцаў зямнога жыцця, шырокай эрудыцыі і ўмення вылучаць найістотнае.

Басё не пакінуў ніводнай тэарэтычнай працы, у якой бы поўна і сістэматычна выклаў прынцыпы сваёй эстэтыкі. Але японскія літаратуразнаўцы, прааналізаваўшы кожны радок літаратурнай спадчыны Басё, змаглі пабудаваць досыць згарманізаваную сістэму яго эстэтыкі. Дапамаглі тут і творы вучняў Басё, у якіх запісаны размовы з Настаўнікам.

Чыннікамі фармавання эстэтычных поглядаў Басё былі, як ужо казалася, некалькі значных з'яваў мастацтва і філасофіі. Але галоўным усё ж такі трэба назваць вучэнне дзэн з яго дэкларацыяй абсалютнай каштоўнасці ўсяго існага на свеце — вось чаму ў паэзіі Басё не толькі няма перавагі тэматыкі, звязанай з чалавекам, а наадварот, часцей мы назіраем зварот да рэчаў, з еўрапейскага гледзішча нязначных, нават мізэрных: але апошняе зусім не азначае, што Басё наўмысна ўнікаў "чалавечай тэматыкі" (ніякай наўмыснасці ў поглядах прыхільніка дзэну быць не можа), — тут мы сустракаемся проста з іншым, параўнальна з еўрапейскім, бачаннем: каштоўны ў гэтым свеце і чалавек, а не ў першую чаргу чалавек.

Канцавою мэтаю тэорыі і практыкі дзэна ёсць "саторы" (літаральна: натхнёнае прасвятленне) — інтуітыўнае спазнанне свету; далучэнне да трансцэндэнтнай ісціны, дасягнутай раптоўна і беспасярэдне пры мабілізацыі ўсіх духоўных сілаў чалавека. Рэальным вынікам саторы Басё лічыў хайку. Верш, увогуле, твор мастацтва, ёсць, як бачым, вынікам творчага натхнення — гэтае падабенства паміж станам саторы і феноменам творчага натхнення адзначаюць усе рэслед-

*

Ніякага знаку, што неўзабаве
памерці мусяць:
спевы цыкад.

*

Белыя макі!
Здаецца, што расцвілі
восеньскія дажджыны.

*

Дажджыць і дажджыць!
Пачарнела
на полі свежае ржышча.

*

Захад, усход — усюды
аднолькавы смутак.
Восеньскі вецер.

*

Змяркаецца. Адно голас
дзікае качкі
бялее ледзь-ледзь над морам.

*

Вымавіш слова —
здубеюць губы.
Восеньскі вецер.

*

На ссохлым суку крумкач
анач знайшоў прытулак.
Глухая восень.

*

Тады зразумееце мае вершы,
калі заначуеце ў полі
пад сцюжным ветрам.

*

Поўня!
Ёю любуючыся, прахадзіў
наўкола сажалкі ноч.

*

У сцюжы начной на дол
апала гусь у знямозе — вось гэтак
начуюць вандроўцы.

*

Усё, што ні ёсць на свеце,
пашамаціць і аціхне —
нібы чараціна.

нікі дзэн-будызму. А розніца палягае ў тым, што ў “дзэнскім натхненні” зусім адступнічаюць элементы рацыяналізму і індывідуалізму. Чалавек, які апынуўся ў стане саторы, нібы растварaецца ў рэчаіснасці і бачыць ісціну ва ўсіх праявах жыцця, цяпер і тут на гэтай зямлі. Згодна з вучэннем Басё, ідэальны стан хайку — гэта значыць унутраныя ўмовы для стварэння хайку, — палягае выключна ў інтуіцыі і поўнай аб`ектыўнасці. Паэт казаў: “Хайку трэба пісаць, апярэджваючы думку”, і яшчэ: “Вучыся сасне ў сасны, бамбуку ў бамбука. Уцякай ад самога сябе, ісціна не асягнецца, калі не адслоніш сябе. Вучыся — гэта значыць заходзь у рэч, адчыняй яе сутнасць, адчувай яе, — тады народзіцца верш”. Хочацца яшчэ раз нагадаць: матэрыялам для паэзіі хайку не ёсць пачуцці і думкі канкрэтнага чалавека — гэтая паэзія адлюстроўвае духоўнае адзінства мастака і прыроды. Басё намагаецца ў сваіх вершах унікаць эмацыянальных словаў, ён толькі, як піша даследнік Уеда Макота, “крышталізуе пачуцці прыроды”. Як бачым, у аргументах Н. Шэфтэлевіч, пра якія згадвалася на пачатку, няма ніякай містыкі. Але найлепш на гэтую тэму сказала, здаецца, Т. Грыгор ева, адна з найаўтарытэтнейшых сучасных усходаведаў: “Прыгожае толькі тады ісціннае, калі яно пазбаўленае асабовага, свайго. Мастак намагаўся растварыцца ў прадмеце, і гэта адпавядала “безасабоваму” характару светапогляду. Чым болей ён адсланяўся, “скарочваў” сябе, тым болей набліжаўся да сапраўднай рэальнасці”.

Працэс творчасці ў стане саторы характарызуецца таксама хуткачыннасцю. “Верш павінен ствараецца адразу”, — казаў Басё. У апратцы слова паэту трэба ўяўляць





*

Дзікая ружа,
што красавалася ўскрай дарогі,
трапіла ў пашчу майму каню.

*

Нібы раніцовыя кветкі — манахі:
колькі ўжо іх адцвіло!
А вера стаіць, як хваіна.

*

Гэткія розныя, а цвіце
кожная зёлка па-свойму.
Вось гэта і подзвіг.

*

Вада — халадэча.
Ніяк не можа на ёй заснуць
самотная чайка.

*

Карэнне цыбулі
адмыта да гэтакай чысціні —
аж сцюжна.

*

Можа, пазычыць апратку
у пудзіла — каб заснуць?
Апоўначы шэрань.

*

Выпаў на досвітку снег —
і стрэлкі цыбулі
сталі адзнакамі агароду.

*Даслоўнікі падрыхтаваў*
*Генадзь ТУРКОЎ.*

*Пераклаў на беларускую мову*
*Алесь РАЗАНАЎ.*

толькі вяршыню духоўнага ўзнясення; усе папярэднія пад`ёмы і спускі на шляху да гэтай вяршыні самі паўстануць ва ўяўленні чытача, калі ён выявіць жаданне да сутворчасці. Нават такая традыцыйная форма, як пяцірадковік, задоўгі для гэтага, дастаткова і трох радкоў. Хайку — гэта цэласны вобраз, які не можа быць раз`яднаны, і цытаваць з яго асобныя, “найпрыгажэйшыя”, радкі, як гэта звычайна ў практыцы даследнікаў іншых жанраў, немагчыма.

Таму шлях да мастацтва хайку доўгі і цяжкі. Майстэрства, згодна вучэнню дзэн, закладзена ў прыроду кожнага чалавека, а тое, што называецца талентам, палягае толькі ў наяўнасці жадання і ўмення працаваць. Ісціна адкрываецца кожнаму, хто будзе неадступна імкнуцца да яе. І, адпаведна, адкрыць у слове сутнасць найвышэйшага духоўнага ўзнясення зможа толькі той, хто будзе настойліва і ўпарта працаваць са словам — у віртуоза слова болей шанцаў “вымыкнуць сутнасць”. Басё падкрэсліваў, што паэт павінен штодня трэніраваць і сваю душу, і сваё слова, тады натхненне будзе з`яўляцца часцей, а слова ў патрэбную хвіліну не разгубіцца і не згубіцца.

Стварэнне хайку Басё разглядаў як здзяйсненне подзвігу і патрабаваў ад вучняў, каб яны ўкладалі ў твор усю моц душы. Незадоўга перад смерцю ён сказаў: “Кожны з вершаў, якія я склаў у сваім жыцці, быў напісаны як перадсмяротны верш”.

Паэзія Басё лічыцца найбольш дасканалым выяўленнем у слове аднаго з асноўных прынцыпаў традыцыйнай японскай эстэтыкі, якая мае назву “сабі”. У японскім мастацтве гэтую эстэтычную катэгорыю пачалі распрацоўваць яшчэ у часы Сайгё, у XII ст., але сапраўднай вышыні і ў тэарэтычным, і ў практычным планах сабі дасягну-

ла ў творчасці Басё і яго пасля-доўнікаў, — з цягам часу яно зрабілася сімвалам "японскай прыгажосці". Корань "саб" уваходзіць у склад некалькіх японскіх словаў і мае шырокі спектр значэнняў: гаснуць, цьмяніцца, пакрывацца палінаю; сумны, пакінуты, самотны, пустэльны, суцішаны; маркота, журба. Але як эстэтычная катэгорыя сабі мае больш шырокае значэнне, бо ўключае ў сябе панятк і праяснення, засяроджанасці, даверлівасці. Спакойная радасць самоты, светлая туга — прыкладна так, хаця далёка і не ў поўнай меры, можна ахарактарызаваць сабі. Фармальна, вонкава сабі ў творах мастацтва праяўляецца ў скупасці мастацкіх прыёмаў, прыцемненасці фарбаў, ненавязлівасці, нягучнасці словаў. "Сабі — гэта атмасфера (літаральна: колер) верша", — казаў вучань Басё Мукаі К'ерай (1651–1704). Светлую тугу, зыходзячы з уяўленняў дзэнбудыстаў, можна назваць пастаянным, універсальным пачуццём прыроды, колерам сусвету. А ў звязку з тым, што сутнасць творчасці — "у крышталізацыі пачуцця прыроды", варты ўвагі толькі той верш, які стварае атмасферу светлай тугі і выклікае гэтае пачуццё ў чытача. Сабі — гэта найвысокая гармонія для дзэнскага мастацтва, яго ідэал. І гэты ідэал паэт намагаецца ўцялесніць у творы мастацтва, выкарыстоўваючы як матэрыял разматыя, але пераважна звычайныя навакольныя рэчы і з'явы, якія, калі яны сапраўды прасякнуты колерамі свету (а гэта ўжо залежыць ад майстэрства аўтара), становяцца сімваламі вечнасці. Узорным у гэтым сэнсе лічыцца верш Басё:

*Старая сажалка.*
*Жабка ў ваду*
*скокнула: гук усплёску.*

Гэты верш — нібы паэтычная формула жыцця: сусвет-рух-вынік. Гэта яскравы прыклад саторы — інтуітыўнага пазнання сутнасці быцця.

У апошні перыяд жыцця (1690–1694) Басё дэкларуе і распрацоўвае яшчэ адзін эстэтычны прынцып, які мае назву "карумі" (літаральна: лёгкасць, тонкасць). Гэты прынцып прадугледжвае прастату, празрыстасць, лёгкасць, прыроднасць верша. "Не ўпрыгожвайце вершаў, не хадзіце вакол ды навокал, і тады ў вас атрымаецца тое, што трэба", — казаў Басё. З аднаго боку, аб'яўленне прынцыпу карумі можна разглядаць як канкрэтную рэакцыю Басё на залішнюю ўскладнёнасць некаторых вершаў ягоных вучняў, ды й яго самога (бо сябе не так і лёгка выказаць у семнаццаці складах), а з другога боку, тут мы сустракаемся з вынікам звычайнай эвалюцыі ад складанага да простага, характэрнай для многіх паэтаў у розных краінах свету. Але не трэба ўспрымаць карумі як альтэрнатыву сабі. Карумі — гэта быццам фільтр на шляху да празрыстага сабі, неабходная ўмова для таго, каб сабі праявіла ў вершы сваe самыя тонкія рысы. Сабі засталося і ў апошніх вершах Басё, тады як карумі далёка не заўсёды прысутнічала ў яго вершах папярэдняга перыяду. У звязку з аб'яўленнем новага прынцыпу змянілася і тэматыка паэзіі Басё. Калі раней ён пераважна звяртаўся да з'яваў прыроды, дзе лягчэй было знайсці сімвалы вечнасці, то цяпер яго сталі прываблівацъ будзённыя падзеі чалавечага жыцця, бо тут ён бачыў болей матэрыялу для выяўлення прастаты, звычайнасці, тонкага добрага гумару — таго, што адпавядала сутнасці панятка "карумі". Басёзнавец Ебара Тайдзо піша: "Карумі ў хайку — гэта пошук прыгажосці сабі ў новых з'явах". Падсумоўваючы вынікі філасофскіх і эстэтычных пошукаў Басё, яго вучань Хаторы Доха (1657–1730) пісаў: "Вучэнне Майстра кажа пра тое, што трэба ўкласці сваё сэрца ў спазнанне вечнай ісціны і вярнуцца ў свет простых людзей. Інакш кажучы, дасягнуўшы прасвятлення, трэба вярнуцца ў гэты марны свет".

Найкароткая ў сусветнай паэзіі форма хайку змушала японскіх паэтаў надаваць вялікую ўвагу тэхніцы верша. Выкідалася ўсё пабочнае, нават словы "рабіць", "быць", "бачыць" і да іх падобныя, якія ад частага ўжывання маглі лёгка дамысліваццa чытачом. Віртуозна абыгрывалася шматзначнасць словаў, а таксама амонімы, шырока распаўсюджаныя ў японскай мове. Напрыклад, такі спецыфічны прыём "какетакоба" (літаральна: накладванне, знітаванне словаў) дазваляў паэтам з дапамогай шматзначнага слова альбо амоніма паяднаць у адным цэлым два сказы верша, якія па змесце маглі быць досыць далёкімі адзін ад аднаго. (Гэты прыём ніколі не атрымліваецца аднавіць у перакладах.) Але і пры такой нагружанасці кожнага склада ў хайку законы гэтага жанру вымагаюць абавязковай наяўнасці ў вершы гэтак званага "сезоннага слова" ("кіго") — вершы без такіх словаў сустракаюцца толькі як выключэнне. "Сезонныя словы" паказваюць на пару года, пра якую ідзе гаворка ў вершы: снег — зіма, сакура — вясна, хрызантэма — восень. Адпаведнасць з пэўнай парой года замацоўвалася за гэтымі словамі (альбо словазлучэннямі) традыцыяй і не абавязкова супадала з рэальнасцю: напрыклад, доўгі дзень — вясновае словазлучэнне, а не летняе, доўгая ноч — восеньскае, а не зімовае. Адбіліся на "сезонных словах" таксама асаблівасці японскага клімату: напрыклад, імжа, град — гэта зімовыя словы. Зборнікі хайку, як правіла, складаюцца адпаведна порам года, пры гэтым з "Вясны" выдзяляецца асобны раздзел "Новы год" (згодна старажытнаму японскаму календару год пачынаўся з першага вясновага месяца, які прыпадаў прыблізна на наш люты). "Сезонныя словы" ў раздзелах гуртуюцца згодна тэмаў: час, неба, зямля, чалавечыя справы, веравучэнні, жывёлы, расліны. Кожнае "сезоннае слова" ілюструецца адным ці некалькімі вершамі. Словы "вясна", "лета", "восень", "зіма" не з'яўляюцца ўласна "сезонным словам", і вершы з імі змяшчаюцца на пачатку ці ў канцы раздзела. "Сезонныя словы" ўзмацняюць, выразніваюць створаную вершам атмасферу, бо выклікаюць у японскага чытача безліч асацыяцый — і літаратурных, і жыццёвых.

Але, думаецца, і ўкраінскі чытач знойдзе ў паэзіі хайку нямала блізкага сваёй душы. А тое новае, што прагучыць для яго ў нязвыклым рэгістры, можа стацца прычынай асаблівай радасці. Як не абы-якое адкрыццё.

Генадзь ТУРКОЎ
Пераклаў з украінскай
Валянцін АКУДОВІЧ.



# Аляксандра САКОВІЧ

НАША



*Арыштоўваўся ня толькі той, хто аднойчы знаходзіўся ў апазыцыі да камунізму, але кожны, хто ўважаўся ў стане выявіць супраціў. Для мяне асабіста Менск апусцеў.*

## Пра Аляксандру САКОВІЧ

**Само неба наканавала беларускім жанчынам жыць доўга. Асабліва паэткам. І асабліва — нібы сплочваючы доўг за ростань з радзімай — тым, што апынуліся за межамі краіны-мроі, назва якой — Беларусь.**

**Нашымі зусім блізкімі сучасніцамі былі народжаныя яшчэ ў мінулым стагоддзі вільнянка Зоська Верас і "масквічка" Канстанцыя Буйло. У сваім доме на амерыканскім беразе возера Антарыё павінна сустрэць 95-годдзе Наталля Арсеннева...**

**Цяперашняя жыхарка Кліўленда, штат Агаё, беларуская пісьменніца Аляксандра Саковіч нарадзілася ў 1906 годзе ў Адэсе, у сям'і беларусаў, якія паходзілі з навагарадскага мястэчка Ярэмічы.**

**Пасля грамадзянскай вайны Іна Рытар (такім было першае імя нашай суайчынніцы) вярнулася на зямлю продкаў і атрымала дыплом выкладчыка гісторыі ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, дзе была вучаніцай прафеса-**

# У ПОШУКАХ ПРАЎДЫ

Я дабралася да ветлых берагоў Злучаных Штатаў Амэрыкі на вайсковым транспартным караблі General R L. Howze ў травені 1950 году. Цуда? Для мяне — бязумоўна. З маленства прагла я пабачыць далёкія, нязнаныя краіны. Ды ніколі, нават у сваіх лепшых лятуценьнях, не ўяўляла, што аднойчы здолею апынуцца за акіянам, застануся тут назаўсёды, адчую сябе роўнай сярод роўных.

Першыя пяць год я прабыла ў Нью-Ёрку. Адразу давялося на маленькай фабрычцы складаць для засолу ў шкляныя банкі агуркі, тады на другой — пакаваць для крамаў здобныя булкі ды торты. Ашчадзіла троху грошай і пайшла вучыцца ў The Cambridge School of Business. Магла-б узяць патрэбны мне навучальны курс, але спачатку моцна асьцерагалася хваліцца савецкім унівэрсытэцкім дыплёмам.

Праца, навука ў школе забіралі шмат часу, іншым разам стамлялі. Затое ўсё іншае навокала захапляла. Уражалі размахам, багацьцем і даступнасьцю для ўсіх бібліятэкі, музэі, канцэртныя залі, опэра. Ня менш дзівілі ў цэнтры места шматпавярховыя небаскробы, вітрыны, раскошныя магазыны, перапоўненыя рознаякімі таварамі, на вуліцах і дарогах — неперарыўная чарада хуткіх, гулкіх аўтаў.

Тэй парою ў Нью-Ёрку існавала ўжо ладная беларуская грамада. Мы ладзілі сустрэчы, канцэрты, сьвяткавалі свае нацыянальныя сьвяты. Праўда, найбольш у тыя гады спраўлялі вясельлі Жаніліся, выходзілі замуж маладыя Яны сьпяшаліся ў новым краі абзавесьціся роднай сям'ёю. Ішлі да шлюбаў й старэйшыя, якія шмат адпакутвалі, страцілі свае сем'і. Я таксама пабралася з Аўгенам Каханоўскім. Зь ім пасяліліся ў Клыўлэндзе, дзе пражылі шчасьліва ўжо 31 год.

Клыўлэнд — вялікае індустрыяльнае места. Яно прыгарнула нас да сябе настала, бо тут склалася людная беларуская калёнія, пабудавана беларуская праваслаўная царква, паўстаў беларуска-амэрыканскі культурны цэнтар — Полацак.

Наш маляўнічы Полацак мае больш за 9 гэктараў лугу й лесу. На ўзгорку стаіць

**роў Мітрафана Доўнар-Запольскага, Усевалада Ігнатоўскага і Уладзіміра Пічэты, чые імёны не маюць патрэбы ў рэкамендацыях.**

**У 1930-м яна выйшла замуж і пераехала ўслед за сваім абраннікам у Маскву. Падчас "яжоўшчыны" муж быў арыштаваны і высланы на Калыму. Каб пазбегнуць арышту, будучая пісьменніца падаецца назад у Беларусь, дзе настаўнічае на радзіме бацькоў у Ярэмічах і выкладае (1942—1944) у Наваградскай настаўніцкай семінарыі.**

**Потым былі лагер перамешчаных асобаў у Нямеччыне і эміграцыя ў ЗША. Там яна стала жонкаю вядомага літаратара, гісторыка і грамадскага дзеяча Аўгена Калубовіча.**

**Пачынаючы з 50-х гадоў у друку ўсё часцей з'яўляюцца ўспаміны, апавяданні і аповесці з подпісам: Аляксандра Саковіч. Асноўная тэма яе дакументальных і мастацкіх твораў — лёс Беларусі і беларусаў у гады сталіншчыны і другой сусветнай вайны. Лепшыя апавяданні і аповесці склалі том выбранай прозы "У пошуках праўды", выдадзены ў 1986 годзе Беларускім інстытутам навукі і мастацтва ў ЗША.***

**Уладзімір АРЛОЎ**

* Калі нумар быў падрыхтаваны да друку з Кліўленда прыйшла жалобная навіна. Аляксандра Саковіч памерла 8 студзеня 1997 г і пахаваная побач з мужам на беларускай частцы гарадскіх могілак.





аднапавярховы цагляны будынак, дзе жывуць галоўныя арганізатары й нязьменныя кіраўнікі гэтага прывабнага беларускага кута. Вакол дому — стромкія хвоі, зялёны луг. Адсюль уніз віецца сьцежка праз луг да вазёрка, да іншых грамадзкіх будынкаў, да лесу. Вазёрка, невялікае, чыстае, адлюстроўвае ў сабе сіняе неба, раскідзістыя магутныя клёны, белы двухпавярховы дом Глядзіш на чароўны малюнак зьверху й здаецца ён табе казачна прыгожым.

У Полацку я часты госьць. Наагул, гасьцей тут заўсёды досыць: свае людзі любяць зьбірацца разам. Але найбольшае сьвята для нас усіх — дні вялікай сустрэчы, калі едуць сюды беларусы з розных штатаў Амэрыкі, з Канады, лятуць з Эўропы, з Аўстраліі, з Польшчы. У тыя дні ўсе мы чуемся ўзьнятымі. Цешымся пабачыць знаёмых людзей. У памяці ўсплываюць падзеі, перажытыя разам у часе вайны, зьвязаўшыя нас назаўсёды сяброўствам. На сустрэчы мастацкія выступы маладых, народжаных ужо ў Амэрыцы, з народнымі сьпевамі й танцамі ня толькі захапляюць, ня толькі выклікаюць замілаваньне да нашае багатае нацыянальнае спадчыны, але ўзмацняюць веру, што Беларусь жыве й будзе жыць.

Усё-ж самае мілае для мяне тут, у Клыўлэндзе — мая ўласная сям'я, мой муж. У нас зь ім поўная хатняя згода, агульныя жаданьні й мары. Мы абое стараемся па меры нашых сілаў творча працаваць у галіне беларускай літаратуры й гісторыі.

Я пачала пісаць яшчэ жывучы ў Нью-Ёрку. Праф Янка Станкевіч (рэдактар "Веды") і Др. Вітаўт Тумаш (рэдактар "Запісаў") ахвотна друкавалі мае першыя спробы пяра. Яны пасяброўску падбадзёрылі, падтрымалі, надалі мне патрэбнае перакананьне, што я павінна працягваць пісаць.

Нярэдка чытачы пытаюцца пра некаторыя мае апавяданьні й аповесьці: "Гэта вы пра сябе расказалі? Гэта аўтабіяграфія?" Не. Хоць мушу зазначыць, што аўтабіяграфічны элемент да некаторай ступені знайшоў адбітак у маіх творах. Сюжэты, у якіх б'ецца пульс і кроў рэальнага жыцьця, лягчэй тварыць тады, калі сам перажыў, сам зблізку наглядаў. Свае першыя публікацыі я не падпісвала маім запраўдным імем і прозьвішчам — Іна Рытар, а псэўдонімам Аляксандра Саковіч

Я нарадзілася 14 (27) сьнежня 1906 году ў месьце Адэса, на Украіне. Бацькі мае — беларусы Яны абое паходзілі зь мястэчка Ярэмічы, што разьлеглася на левым беразе Нёману, насупраць Налібоцкае пушчы У Ярэмічах мой бацька да старое дзедавае хаты дабудаваў другую палову — дачу для нас. Да першае сусьветнае вайны маці штогод на летнія школьныя канікулы ехала туды зь дзецьмі Яна ня любіла паўднёвае, сьпякотнае Адэсы Ёй здаваліся найлепшымі ў сьвеце прахалодны гушчар хваёвага бору, росныя сенажаці й лугі, спакойныя воды рэчак і вазёр. Замілаваньнем да роднага кута, уласьцівым ёй, яна надзяліла й нас, сваіх дзяцей, пасяліла ў нас веру, што тут, дзе карэньне нашага роду, заўжды знойдзеш гаючы душу й сэрца адпачынак.

У нашай сям'і было чатырох дзяцей Дзьве сястры й брат — пагодкі Калі мяне ў шэсьць год аддалі вучыцца ў малодшую падрыхтоўчую клясу жаночае гімназіі, старэйшая сястра, Ліда, была ў гэтай-жа гімназіі ўжо ў восьмай клясе.

Ад раньняга дзяцінства ў Адэсе засталіся ў памяці ўрачыстыя сьвяты На Каляды – ялінка да столі, удэкараваная бліскучымі цацкамі, рознакаляровымі свечкамі, цукеркамі. На Вялікдзень – прыгожа прыбраны стол. На ім – вялікая здобная пасха, пісанкі, торты, шынка, каўбасы, на блюдзе – запечанае парасё зь зялёнай галінкай у роце. Паміж смачнымі рэчамі на стале – пахучыя белыя й ружовыя гіяцынты.

Тады насунулася першая сусьветная вайна, за ёю — расейская рэвалюцыя, грамадзянская вайна, голад. Пакінулі навуку й бацькаў кут старэйшыя сёстры й брат. Яны пайшлі працаваць у школы-інтэрнаты, арганізаваныя для адэскіх дзяцей-беларусаў Я адна засталася з бацькамі.

У былым, так званым "дзіцячым пакоі" зьявілася чорная бляшаная печка — "буржуйка" з трубою праз увесь пакой. Майму бацьку, службоўцу на чыгунцы,

пашанцавала раздабыць для "буржуйкі" крыху каменнага вугалю На распал яго патрабаваліся трэскі, а іх тады набыць было амаль немажліва. Вакол Адэсы — стэпы ды Чорнае мора. Лясоў няма. Час-ад-часу, патайкі, чыгуначнікі разьбіралі на трэскі таварныя вагоны. За гэта, калі лавілі, расстрэльвалі. Рызыкуючы жыцьцём, прыносіў дадому гэтыя трэскі й тата.

У нашай хаце заўсёды мелася шмат кніжок. Маці любіла чытаць, не шкадавала грошы на кніжку. Навучыла й мяне з маленства любіць і шанаваць добрую кніжку Нажаль, у тыя галодныя й халодныя часы мусіла яна, калі не ставала трэсак, ахвяроўваць якуюсь кніжку на распал.

Цікава, што частыя зьмены ўладаў, чужаземныя войскі на вуліцах места, страляніна сярод ночы, выбухі бомбаў, вобыскі па хатах, арышты й нават голад — усё ўспрыймалася тады мною як штосьці непазьбежнае. Сваіх школьных сяброў, Адэсу, Чорнае мора я моцна любіла.

Улетку 1921 году старэйшая сястра з групаю адэскіх беларусаў паехала на працу ў Менск. У тым-жа годзе, позна ўвосені, з галоднае Адэсы яна забрала мяне да сябе.

Менск спаткаў мяне холадам. Белымі, засьнежанымі стаялі дрэвы, дамы, вуліцы. Нязвыклы для мяне мароз ня вельмі прыемна шчыпаў шчокі й вушы. Пальцы на руках і нагах хутка дубянелі. Нават у сястры мне спачатку здалося няўтульна. Сумавала па бацьках. Аднак такі настрой трываў коратка, бо мне пашчасьціла трапіць у асяродзьдзе выдатных беларусаў.

Сястра працавала інспэктарам дзіцячых прытулкаў У вадным зь іх мела пакой. Праз сад ад нашага дому мясьціўся дзіцячы садок, дзе загадчыцай была добрая, заўсёды ласкавая цётка Уладзя, жонка Янкі Купалы. Купалы жылі тады пры садку. Там-жа меў сабе пакой і Зьмітрок Бядуля.

У тую пару блізкай сяброўкай мае сястры была Юлія Бібіла, будучы вядомы беларускі бібліёграф. Сьветлы вобраз гэтае маладое сардэчнае жанчыны застаўся са мною назаўсёды Калі я пайшла вучыцца, яна шмат дапамагала мне зь беларускай моваю, якую, трэба прызнацца, я ня зусім добра ведала. Дапамагала й зь іншым.

Памятаю, праф. Аляксандар Савіч, выкладчык гісторыі ў Беларускім Педагагічным Тэхнікуме, даручыў мне зрабіць рэфэрат аб творчасьці расейскага пісьменьніка-філёзафа XVII-га стагодзьдзя А. М. Радзішчава. Я старанна перачытала ў бібліятэцы масу матэрыялу, масу перапісала й разгубілася: ня ведала, з чаго пачынаць, чым скончыць. У мамэнт мае роспачы з рэфэратам зайшла да нас Ю. Бібіла. Яна не пашкадавала свайго часу, засталася са мною на добрую гадзіну, перагледзела мае выпіскі, параіла, што найбольш трэба падкрэсьліць, што абмінуць, якое зрабіць заканчэньне. Дзякуючы ёй, рэфэрат меў надзвычайны посьпех. Мой тагачасны аднакурснік па тэхнікуме, шаснаццацігадовы, імпульсіўны Андрэй Александровіч, будучы "вядучы пралетарскі паэта", пасьля рэфэрату прапанаваў ушанаваць памяць Радзішчава ўставаньнем і хвілінаю маўчаньня. "Нібы на жалобным мітынгу", — падумала я й глянула на прафэсара. У ягоных вачох прамільгнула ўсьмешка, але ён падняўся з крэсла, а за ім і ўсе студэнты.

Аднойчы Ю. Бібіла расказала мне пра Кастуся Каліноўскага, крэўнага ёй па маці, пра ягонае змаганьне супраць Масквы Мужная постаць К. Каліноўскага моцна зацікавіла мяне, абудзіла гордасьць звацца беларускай, жаданьне аддаць свае сілы й здольнасьці для Бацькаўшчыны. Як? Набыць веды зь гісторыі Беларусі, напісаць гістарычны раман пра К. Каліноўскага й ягоных сяброў-паплечнікаў. Юнацкія мроі збыліся ня цалкам. У ўнівэрсытэце я студыявала гісторыю, а вось рамана напісаць не змагла.

Мая Альма Матэр — Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт, дзе я правучылася 4 гады, зрабіў вялізны ўплыў на мой сьветапагляд, пакінуў найдаражэйшыя ўспаміны. Там я спаткалася й пасябравала з "Раднёю" — так жартам празвалі сябе сьведамыя беларусы-студэнты. У сваім асяродзьдзі "Радня" не баялася выказваць асабістыя пагляды ў палітычных пытаньнях, не хавалася з нацыянальнымі марамі й імкненьнямі Сярод "Радні" была ня толькі моладзь, але й старэйшыя гадамі "дзядзькі" — вэтэраны першай сусьветнай ці грамадзянскай вайны, а часта й удзельнікі руху за незалежнасьць Беларусі. Не з свае волі яны згубілі гады навукі й прыйшлі давучвацца. Амаль усе яны, каб мець мажлівасьць вучыцца ў унівэрсытэце, мусілі працаваць, бо мелі ўжо сем'і, якія ім трэба было ўтрымліваць.

"Радню" можна было знайсьці на ўсіх факультэтах БДУ, але найбольш яе было на сацыяльна-гістарычным аддзяленьні Пэдфаку. На гэтым аддзяленьні лекцыі чыталі высока кваліфікаваныя, вядомыя навукоўцы. Кожны студэнт-гісторык, які студыяваў у БДУ ў дваццатыя гады, можа з гонарам адзначыць, што ён быў вучнем праф. Мітрафана Доўнар-Запольскага, праф. Усевалада Ігнатоўскага, праф Уладзімера Пічэты. Неабходна далучыць да гэтых слаўных імёнаў і маладога таленавітага праф Васіля Дружчыца, які распачаў сваю навуковую кар'еру ў нашым унівэрсытэце дацэнтам. "Радня" любіла працаваць у галіне беларускай гісторыі на сэмінарах праф. В. Дружчыца, любіла самога маладога навукоўца. Яна часта запрашала яго сфатаграфавацца разам на памяць. Адно з такіх фотаў якімсь цудам зьбераглося ў мяне, ня згубілася ў працягу майго складанага, нялёгкага вандраваньня па сьвеце На ім маю сяброўку Броню Паўлоўскую й мяне, як малодшых з "Радні", пасадзілі ў цэнтры, побач прафэсара.

У другой палове дваццатых гадоў сытуацыя на гістарычным аддзяленьні Пэдфаку пачала мяняцца ў няспрыяльны для незалежнае беларускае навукі бок. У 1926-м годзе ўлады загадалі праф М. Доўнар-Запольскаму пакінуць Менск і Беларусь. Не шанцавала й студэнтам. Прыкладам, мне, якая ніколі ня была ні камсамолкай, ні партыйкай, пасьля заканчэньня ўнівэрсытэту прапанавалі выкладаць не грамадазнаўства (так тады зваўся курс гісторыі ў школах), а мову й літаратуру, на што я мусіла згадзіцца. Наагул, ад канца дваццатых гадоў на гістарычнае аддзяленьне дапускаліся пераважна партыйцы ці камсамольцы "Радня" там зьнікла.

Я ўжо працавала выкладчыцай Рабфаку пры БДУ, калі надышоў пакутлівы 1930-ты год, а за ім нешчасьлівая дэкада, адна з самых трагічных у летапісу нашае нацыі. У тую дэкаду брутальна была зьнішчана вялікая колькасьць беларускіх навукоўцаў, пісьменьнікаў, паэтаў, грамадзкіх дзеячоў. Сярод беларускае грамады панавала пачуцьцё няпэўнасьці ў заўтрашнім дні. Арыштоўваўся ня толькі той, хто аднойчы знаходзіўся ў апазыцыі да камунізму ці да камуністычнай улады, але кожны, хто ўважаўся ў стане выявіць супрацію. Тых, каго пакінулі на волі, прымушалі выступаць з пакаяннымі лістамі, з асудам свае папярэдняе нацыянальнае дзейнасьці, з паклёпамі на блізкіх сяброў. Відаць, пад прымусам Зьмітрок Бядуля напісаў раман "Язэп Крушынскі" Заўсёды разважлівы, заўсёды ветлівы да людзей З Бядуля ў гэтым рамане фальшыва зганіў амаль усіх выдатных беларусаў, надзяліў іх адмоўнымі рысамі. Не ашчадзіў, найбольш ад усіх абразіў свайго сябру Я. Купалу, ягоную жонку, ягоных сваякоў. Ці дараваў яму Я Купала? Казалі, што дараваў, толькі ня хутка. Сам Я. Купала не згадзіўся адразу "сябе таптаць", зрабіў гаракіры Праф У Ігнатоўскі застрэліўся

Усё, што адбывалася, ня толькі ўражала, але й раніла. Для мяне асабіста Менск апусьцеў. Дамы стаялі на старых месцах, людзі хадзілі па вуліцах, ды сярод іх амаль не засталося нікога з унівэрсытэцкай "Радні", нікога з крэўных. Міхайлу Грамыку, майго швагра, засудзілі на ссылку Сястра зь дзецьмі паехала за ім

Улетку 1930-га году я выйшла замуж. Мой муж, Дамінік, як і я, нарадзіўся ў Адэсе. Як і я, прыехаў у Менск у 1921-м годзе Мы абое любілі спорт, спартовыя гульні На гэтым груньце пасябравалі. Паходзіў ён з польскае сям'і, быў унукам

паўстанца з 1863—64 гадоў, сынам прафэсыйнага рэвалюцыянэра-партыйца ад 1905-га году, сам камсамолец. Беларускае нацыянальнае пытаньне яго мала кранала. Часта, дзе я асуджала палітыку савецкае ўлады, ён шукаў ёй апраўданьня Увогуле, яго найбольш цікавіла не палітыка, а фізыка, космас, тэхнічныя навукі. Ён скончыў тэхнічны інстытут у Маскве. Там застаўся працаваць інжынэрам-канструктарам у навукова-дасьледчым інстытуце. Я не супярэчыла, паехала да яго. Менск без маіх крэўных, без маіх сяброў больш мяне не вабіў.

У Маскве я жыла адно сям'ёй. Гадуючы дзяцей, пазнала ня толькі ўцеху, але й матчына гора, калі памёр наш пяршынец — сын Леанард.

Міналі гады Клопаты й радасьці нашае маладое сям'і, навуковыя посьпехі мужа паступова пачалі засланяць перажытыя ў трыццатым годзе страхі. Я нават пачала спадзявацца, што ў Савецкім Саюзе можна быць хаця-б у сям'і шчасьлівай. Горка памылілася Нахлынула "яжоўшчына" й захляснула сваёй безашчаднай хваляю нас. Мужа арыштавалі, пасадзілі ў Таганскую турму, зьбілі да няпрытомнасьці, абвінавацілі ў "контррэвалюцыйнай дзейнасьці" вывезьлі ў канцэнтрацыйны лягер на Калыму. Чула, што праз некалькі гадоў беззаконнага зьняволеньня, яго рэгабілітавалі Мажліва, і цяпер ён знайшоў апраўданьне зьдзеку над сабою. Я — не.

Бяз мужа ў Маскве я адчула сябе адзінокай, безабароннай. На маіх руках засталася двухгадовая дачка Іна. Пагроза, што мяне таксама могуць арыштаваць, а дачку забраць у дзіцячы прытулак, кроіла душу й розум. Тады, у мамэнт роспачы, нарадзілася няўтольнае жаданьне пры першай нагодзе вярнуцца назад на Беларусь, вярнуцца ў Ярэмічы, да дарагіх з маленства мясьцінаў Нагода прыйшла ў часе другой сусьветнай вайны.

Быў месяц студзень, калі я, трымаючы за руку сваю малую Іну, пераступіла браму роднага кута. Пасьля першае сусьветнае вайны Ярэмічы засталіся на польскім баку, зрабіліся для нас недасягальнымі. Тое, што я змагла вярнуцца сюды разам з сваім дзіцем, бязьмерна цешыла. Пачуцьцё ня толькі радасьці, а й гордасьці захлынала. Так, гордасьці І ўсё цяжкое, што выпала на маю долю ў вапошнія гады, неяк палегчыла, нібы адыйшло.

Было радасна ізноў спаткацца з сваякамі Цешыла мажлівасьць ісьці працаваць у школу-сямігодку, не марнаваць дарма часу.

Пражылі мы з дачкою там амаль цэлы год. І сёньня перад вачыма зіхаціць у сонцы празрыстая вада Нёману Іна зь сяброўкаю цягаюць каменьчыкі зь мелкага дна, будуюць штось на беразе Сіняе неба, сачыстая зяляніна поплаву. У мястэчку няма ні немцаў, ні паліцыі, ні партызанаў. Спакой навокала, спакой на душы.

На нашу бяду ў канцы 1942-га году Ярэмічы, маючы ў блізкім суседзтве Налібоцкую пушчу, апынуліся ў партызанскім раёне Людзі пачалі пакідаць мястэчка. Падалася й я з дачкою далей ад небясьпекі ў Наваградак. Уладзілася працаваць у Наваградзкай настаўніцкай сэмінарыі.

Ярэмічы ў тым часе гарэлі тры разы. адзін раз іх палілі немцы, два разы — партызаны За трэйцім разам спалілі й маю хату. Вярнуліся пасьля Вялікодных канікулаў сэмінарыстыя з суседняга мястэчка Турэц з навінаю: "Спадарыня настаўніца! У Лазараву суботу ваш "палац" спалілі партызаны" Студэнты, схільныя да жартаў, заўсёды маю хату называлі "палацам" Але для мяне гэтая вестка прынесла глыбокі боль.

Параскідаў лёс нашу сям'ю па сьвеце Бацькі памерлі далёка ад Ярэмічаў Далёка ад іх засталіся на жыцьцё сем'і сясьцёр і брата. Мая дачка памерла ў Нямеччыне. Я жыву ў Амэрыцы. І няма ў нас цяпер месца на зямлі, якое завецца бацькавым гняздом...

***З кнігі: Аляксандра Саковіч. У пошуках праўды.***
Нью-Ёрк—Кліўленд, 1986.



# ГУЧАНКІ ЯНО

***

**А да мяне амаль усе паэты —**
**Ў асноўным бальшавіцкія кляўрэты.**

**А тыя, што са мною ў часе разам,**
**Камуністычнаю атручаны заразай.**

**І толькі мой нябрудны след,**
**Бо не савецкі я паэт.**

**А як, спытаеце, я змог...?**
**Бо ашчаджаў мяне сам Бог.**

**А ашчаджаў мяне таму,**
**Што верыў толькі я яму.**

***

**Наўкол — хляўё,**
**А ў ім — хам'ё.**

***

**СССР усім падобна**
**Да вялікае ільдзіны,**
**Ну а месца Беларусі**
**Там у самай серадзіне.**

**І калі ільдзіна тая**
**Раставаць пачне пад сонцам,**
**Беларусі вызваляцца**
**Аж да самага бясконца...**

***

А Гогаля трагедыя у тым,
Што здрадзіў ён айчыне — Украіне,
Што памяняў салодкі і прыемны дым
На шырыню расейскае пустыні.

***

Пра любоў да Расейскай імперыі
Ў Беларусі крычалі тыя,
Хто мараль у сабе пахерыў
Ды сядзеў у тутэйшых на шыі.

***

Народным паэтам
Не будзе там зводу,
Дзе ўжо і няма,
І не будзе народу.

***

Беларусы-балтарусы,
Балтарусы-беларусы,
Вам сказаць не пабаюся:
"Вы — ахвяры, вы — пачвары...
Белатварыя татары
Вас адмовілі ад мовы,
Вашай мовы, роднай мовы...
А без мовы хто вы?!. Што вы?!.
Быдлам быць заўжды гатовы!"

***

Пісанне вершаў нагадвае
Птушаняці вільготнае поўзанне,
Птушаняці, што яйка пакінула,
Птушаняці — ліпкага, коўзкага...





А той, хто атросся і вырас,
І духам, бы крыламі, падужэў,
Такому не трэба вершаў,
Небам такі жыве.

***

Бы кубак вады ў палісаднік,
Лінуў я свядомасць сваю у неба —
І зграі маскоўска-варшаўскіх асаднікаў
Баяцца мне болей не трэба.

***

Калгас, саўгас — то моц, то сіла,
Як дышла, лейцы і аброць...
Пакіраваць хачу Расіяй,
Ды і Кітаем не супроць;

Ды што Кітаем, мне б зямшарам,
Ды што зямшар, Сусвет бы мне...
Вось не скруціць бы толькі карак
Мне ў беларускай старане.

Яўген ГУЧОК



